жи больше на богословские прения, нежели на исследования политические. Видно по всему, что Сигизмунд III имел в виду больше религиозное, нежели политическое соединение двух народов".

Этим оканчивается рассказ Пельгржимовского (или, лучше, неполная рукопись его). Для дополнения его, окончим сказание о посольстве словами Когновицкого [12]. "14 месяцев провел Сапега при посольстве этом, и кончил дело тем, что успел наконец устроить договор, выгодный для своего отечества, хотя на 20 лет: один только Сапега, такой великий деятель своего времени, мог успеть в этом". Справедливо отзывается об нем в надгробном слове своем Ланщевский: "Этот человек был крепкою опорою (стеною) для отечества. Потомство с восторгом вспоминает о Сапеге, как виновнике вторичного мира с Москвою, и никогда не перестанет любить за то, что он успел отклонить Царя Бориса Годунова от опасных для Польши связей его с Волошским Князем Михаилом, чрезвычайно жаловавшим завладеть короною Польскою; завладевши ею, при помощи Годунова, он должен был, по договору, уступить Русскому Царю часть Польши. Лев Сапега до тех пор оставался в Москве, пока не вымолил у Царя Русского хотя 20-летнего союза и мира" [13].

Лев Сапега после этого посольства прожил еще 32 года; скончался в Вильне, 7 Июля 1633 года, на 77 году от рождения.

---

[1]/ Илья Пельгржимовский-Пелеш (см. Несецкаго Korona III, стр. 586), был Секретарем в Великом Княжестве Литовском, и Юрбургским Лесничим; в 1588 году был послан в Краков от имени Литовцев для присяги в верности новоизбранному Королю Сигизмунду III; в 1590 году был, управляющим Королевских имений в Лифляндии; в 1598 участвовал в Комитете раздела границ между Курляндией и Браславским уездом; в 1600 году отправился при Посольстве с Львом Сапегою и Станиславом Варшицким в Москву, которое и описал в своем дневнике. Умер в конце 1610 года. Юшинский (Dikczonarz poetów, T. II, стр. 59) приписывает ему сочинение: De heroibus etc., liber unus. Ad serenissimum et invictissimum D. D. Stephanum Dei gratia Regem Pol. etc... Cracovio, in officina Iacobi Siebencycher 1585 in 4-to. Сочинение это писано частью стихами, частью прозою. Герои эти начинаются с Адама и Евы, и оканчиваются Артаксерксом Лонгиманом. Ни цель, ни основание этого сочинения непонятны. Замечательно оно более в типографическом отношении: ибо по времени издание весьма изящно.

[2]/ Смот. Historia Litteratury. T. 1. стр. 64.

[3]/ Wydanie Mostowskiego 1805, стр. 200-205.

[4]/ Меречевщизна, в Слонимском уезде Гродненской Губернии. Место рождения Фаддея Костюшки, как видно из метрики, хранящейся в местечке Косове.

[5]/ Excerpta literaria, pag. 104, и Specimen catalogi codicum M. S. Biblioth. Zaluscianas.

[6]/ Т. I. стр. 200.

[7]/ Kognowicki. стр. 201.

[8]/ Przemyslać o sobie.

[9]/ По словам Когновицкого, Послы ехали верхом, а впереди их шли пешком по 6-ти в ряд мальчики, которыми командовал на лошади Адам Лукашевич.

[10]/ По словам Когновицкого, на крыльцѐ были расставлены Русские и Немцы без разбору, в сенях отдельно: по одну сторону — Немцы, а по другую — Русские, в парчевых одеждах.

[11]/ По словам Когновицкого, изба или палата царская была довольно велика, но не убрана, а попросту выкрашена. Подушки и пол пред Царем были покрыты коврами. Трон, на котором сидел Царь, был обит красным бархатом; в руках — золотой скипетр, на голове — корона, на ногах — красные бархатные сапоги. Возле Царя, по правую руку, сидел сын его; на притронии по левую руку лежала Царская держава. По обе стороны, довольно по-одаль, сидели Думные Бояре.

[12]/ Kognowicki. T. I, str. 310-311. То же самое подтверждает и Бродзинский (Dzieła. T. VII, str. 7. Wilno))

[13]/ См. Kognowicki. T. I. str. 311.

*Журнал Министерства Народного Просвещения, 1850, №12, СПб*

# У пошуках летапіснае Літвы (з перапіскі)

## *Мікола Ермаловіч — Мікалаю Улашчыку*

Шаноўны Мікалай Мікалаевіч!

Вельмі прашу прабачыць мне за тое, што звяртаюся да Вас, і без таго занятага чалавека, з вялікай просьбай: прачытаць маю працу "Па слядах аднаго міфа (Ці было літоўскае заваяванне Беларусі?)" і даць на яе хоць невялікі водгук. Яна была здадзена мною ў "Полымя", і рэдакцыя яго сабіралася паслаць яе Вам на рэцэнзіраванне. Але часопісу, як сказаў мне П. Кавалёў, забаранілі друкаваць артыкулы па даўняй гісторыі (гэта, маўляў, не яго профіль!), і таму маё даследаванне не было паслана Вам.

Чытаў працу і Пятро Глебка, які параіў мне звярнуцца да Вас*, як найбольшага аўтарытэта ў пытаннях гісторыі Беларусі, з тым, каб пасля Вашага заключэння можна было ставіць узнятыя мною пытанні на абмеркаванне.

Я, вядома, разумею, што не ўсё, выказанае мною ў гэтай працы, бясспрэчнае. Але ў той жа час я ўпэўнены, што мой погляд на ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага больш абгрунтаваны, чым погляды тых, хто бяздоказна паўтарае на новы лад устарэлыя догмы і міфы.

Добра разумеючы цяжкасць справы, за якую ўзяўся, я спадзяюся разлічваць на Вашу дабразычлівасць да мяне, на Вашы парады, Вашу справядлівую крытыку.

Яшчэ раз прашу прабачыць мне.

З вялікай пашанай, М.Ермаловіч

28/I — 1969 г.

Мой адрас:
г. Маладзечна, Мінскай вобл., праспект Леніна, 74а, кв. 10
Ермаловіч Мікалай Іванавіч.

---

* *Пятро Глебка – Мікалаю Ўлашчыку*

*Высокапаважаны Мікалай Мікалаевіч!*

*Вельмі прашу Вас прагледзець працу М. І. Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа" і даць хоць бы самы кароткі водзыў – наколькі меркаванні аўтара маюць пад сабою падставу і, у сувязі з гэтым, ці мэтазгодна іх ставіць на шырокае абмеркаванне.*

*Загадзя дзякую Вам і застаюся з пашанай*

*Пятро Глебка*

*27/I — 69 г. Мінск.*

## *Мікалай Улашчык — Міколу Ермаловічу*

Шаноўны Мікалай Іванавіч!

Узнятая Вамі праблема вельмі складаная. Па сутнасці яна распадаецца на некалькі меньшых, кожная з якіх вымагае спэцыяльных доследаў. Як мне здаецца, цэнтральным з'яўляецца пытанне адносна тэрыторыі, на якой жыла тая літва, што дала назву народу і дзяржаве. Па-другое, трэба больш-меньш дакладна вызначыць час, калі балтскае насельніцтва гэтага раёну было асімілявана нашымі продкамі. Калі гэта будзе зроблена, рэшта будзе вырашаць значна прасцей.

Першае пытанне Вы вырашаеце на падставе летапісных вестак, тапанімікі і дадзеных археалогіі, але выразнай карціны не атрымалася. Нават чытаючы вельмі ўважліва нельга ўявіць дакладна тэрыторыю першапачатковай Літвы. Разумею, што гэта залежыць ад крыніц, бо звесткі "Повести временных лет" і другіх летапісаў не маюць цвёрда акрэсленага зместу. Паведамленне пра Лаўрашаўскі манастыр, які знаходзіўся на мяжы Літвы і Русі спатыкаюцца вельмі рэдка. Павінен сказаць, што да звесткі Густынскага летапісу адносна Заслаўя трэба аднесціся крытычна, бо гэты летапіс пісаўся ў XVII ст. на Украіне, а ў той час на Украіне Беларусь інакш як Літвой не звалі (за выключэннем Падзвіння). Зважаючы на тое, што на Украіне ёсць сваё Заслаўе (на Валыні) аўтар летапісу мог падкрэслена сказаць, што гэта тычыцца не Валынскага, але "літоўскага" Заслаўя.

Значна больш багатыя звесткі можа даць тапаніміка. Каб выкарыстаць іх спісу насельных пунктаў на канец XIX ці XX ст. недастаткова. Варта было б звярнуцца да тых крыніц, якія былі надрукаваны ў XIX-XX ст., як "Акты Віленской комиссии" і іншыя археаграфічныя выданні, дзе пералічаны не толькі назвы насельных пунктаў, але і ўрочышч.

Аднак самыя дакладныя весткі могуць даць археолагі. Зараз усё больш вызначаецца, што старэйшымі насельнікамі на большай частцы Беларусі былі балтскія плямёны, а ў апошні час было паведамленне (здаецца Побаля), што недалёка ад Барысава над Бярэзінаю знойдзена літоўскае гарадзішча, можа найбольш высунатае на ўсход. На гэта варта звярнуць увагу, бо ў дакумэнтах XV-XVI ст. "рускія воласці" пачынаюцца на ўсход ад Бярэзіны, ды і сама назва "Беларусь" на працягу цэлых стагоддзяў адносілася толькі да беларускага Падняпроўя і Падзвіння, рэшта ж звалася Літвою. Гэта трымаецца так моцна, што ў т. V шматтомнай гісторыі СССР (дзе гаворыцца пра рэалізацыю рэформы 1861 г.) Мінская губ., ня кажучы пра Гродзенскую, аднесена да літоўскіх. Але наогул ў назву "Літва" укладаўся (тэрыторыяльна) самы рознастайны зьмест. Часцей за ўсё Літвою звалі ўсё існаваўшае ці былое Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

Вызначаная тэрыторыя дагістарычнай Літвы абавязкова павінна быць нанесена на карту. Уражанне ад гэтага бывае зусім іншае, чым ад друкаванага тэксту.

Калі была каланізавана тэрыторыя Літвы славянамі, продкамі беларусаў? Крыніцы гавораць, што першаю сталіцаю Літвы быў Навагрудак (навагрудчане завуць гэты горад Наваградак), але сучасная польская і літоўская гісторыяграфія адмаўляе гэта. Адмаўленне гэта ў вельмі значнай частцы мае "патрыятычны" характар, бо літоўцам здаецца абразлівым думка, што іх першая сталіца была заснавана ня на літоўскай тэрыторыі. Я кепска ведаю археалогію Літвы на сённяшні дзень, але да нядаўняга яшчэ часу было ведама, што ў Жэмайціі, нават у сярэдзіне XVI ст. не было гарадоў у поўным сэнсе гэтага слова, гэта ёсць паселішчаў, дзе б насельніцтва займалася галоўным чынам гандлем і рамяством. Зараз шмат капаюць у Вільні, але я таксама ня ведаю – ці ўдакладнілі час, калі Вільня стала горадам. Магчыма значна пазней, чым Навагрудак. А паколькі сталіцы засноўвалі ў найбольш эканамічна развітых гарадох, то пэўна можна заставацца пры старым поглядзе, што першаю сталіцаю такі быў Навагрудак.

Далейшыя раскопкі могут вырашыць гэта пытанне ці ва ўсякім разе шмат чаго высвятліць.

Прыняўшы, што Навагрудак быў калоніяю славян-беларусаў на літоўскай раней тэрыторыі, трэба высветліць калі ж было асімілявана ваколічнае насельніцтва і ці прыняло яно назву "літва"? Запіс у Гіпацк. летапісе гаворыць, што на Валыні раён Навагрудка ў сярэдзіне XIII ст. лічыўся Рускаю зямлёю, а за Нёманам была літва. Трэба мець на ўвазе, што "рускім" як у той час, так і значна пазней (да нашага часу) зваліся асобы праваслаўнага веравызнання і таму варта падумаць аб тым, што азначала выразы "Літва" і "Русь".

Мне здалася вельмі цікаваю гіпотэза пра Варуту, бо да гэтага часу ніхто не ведае, дзе яна была. Зараз у Літве высоўваецца нават думка, што Варута – гэта Вільня. Праўду кажучы, чытаючы Вашу прапанову і звяраючы з адпаведным тэкстам летапісу бачыш нацяжку. Каб упэўніцца, што ня было Варуты на Руце, варта было б зрабіць там археалагічныя доследы. Зважаючы па летапісных дадзеных, гэта павінен быць немалы насельны пункт і знайсці яго ня будзе цяжка (у тым, вядома, разе, калі ён там сапраўды быў). Пра гэта вельмі варта было б дамовіцца з археолагамі.

Наколькі мне ведама, найбольш дакладныя і падрабязныя весткі аб граніцах літоўскіх плямён ёсць у працы Лаўмянскага (                    ) , але Вы чамусці ні разу ня ўспомнілі пра яе. Мне здаецца, што скарыстаць гэту працу тым больш неабходна, што і манаграфія Пашуты ў значнай частцы адыходзіць ад "Студыяў" Лаўмянскага. Акрамя таго яна вельмі вартая з метадалагічнага боку. Ня скарысталі Вы і апошняй працы Любаўскага, а

гэта ж быў самы большы спецыяліст у гэтай галіне (Літва і славяне. Працы клясы гісторыі, т. III, Менск, 1928).

Праца Ваша пачынаецца з нападак на Стрыйкоўскага і беларускія летапісы (пісаныя па-беларуску). Гэтай праблеме прысвечана манаграфія А.І. Рогава. Русско-польские культурные связи (Стрыйковский и его хроника). Наогул, спрэчным з'яўляецца ня столькі Стрыйкоўскі, сколькі тыя летапісцы, працамі якіх карыстаўся Стрыйкоўскі, перш за ўсё той, хто напісаў хроніку Быхаўца. Даволі сказаць, што пасля выхаду гэтай хронікі ў перакладзе, на яе ў Польшчы выйшлі тры рэцэнзіі (Е. Ахманьскага нават ня рэцэнзія, а цэлы палемічны артыкул, аснова якога схожа з Вашым поглядам). Ня спасылаючыся ні на кнігу Рогава, ні на гэтыя артыкулы, Вы ня можаце ні абвергнуць, ні прыняць погляды, выказаныя ў гэтых працах. Бясспрэчна таксама трэба было б скарыстаць артыкул Чамярыцкага пра летапісы, змешчаны ў кнізе "Гісторыя беларускай літаратуры". Цікава і кніга І. Грэкава (Очерки по истории международных отношений восточной Европы XIV-XVI вв.).

Наколькі я ведаю ўмовы, то мне здаецца, што ў тым памеры, які Ваша праца мае зараз, яе надрукаваць будзе цяжка і таму я параіў бы Вам узяць спярва адну праблему ці ня больш як дзве названыя. У такім разе памер будзе меньшы, а змест больш сціплы. Мне здаецца, ці ня варта было б Вам прапанаваць такую працу ў Кіеў у "Украінскі гістарычны журнал". Паколькі гэтыя падзеі звязаны з Украінаю, на гэта можна спадзявацца. Ды ў такім выглядзе яе скарэй можна будзе зрушыць і ў Мінску.

У Вашай працы часта спатыкаюцца вельмі рэзкія выпады проці Пашуты і некаторых другіх аўтараў. Ведаючы ўмовы, я скажу, што зараз ні адна рэдакцыя ня будзе друкаваць гэтага і таму раю Вам самому выключыць гэтыя месцы.

Некалькі заўваг па парадку тэксту. Калі летапісы, якія рэдагаваў Гедройц, былі цалкам пралітоўскія (стар. 3), то які быў сэнс пісаць, што сталіцаю Літвы быў Навагрудак? Спасылаючыся на Іпацьеўскі летапіс Вы пішаце, што Валадар панаваў "у Гарадцы на тэрыторыі Літвы" (3). У летапісе няма, што на тэрыторыі Літвы. Пра гэта можна толькі выказаць свае меркаванні. У Вас напісана, што Іпац. летапіс заве Навагрудак, Тураў, Пінск незалежнымі гарадамі (16), але ў летапісе так пэўна пра гэта ня сказана. Вы сцвярджаеце, што навейшыя навуковыя дадзеныя абвяргаюць думку, нібы фармаванне беларускай народнасці пачалося XIV-XVI (18). Думаю, што сапраўды розніца была значна раней. Закарпацкія ўкраінцы, якія ніколі ня жылі разам з рэштаю Украіны, усё ж гавораць на мове, блізкай да астатніх украінцаў, а такога ня магло б быць, каб яшчэ ў IX ст. ня было тых рысаў, якія разняць украінскую мову ад іншых славянскіх.

Думаю, што Ваша сцверджанне, нібы з канца XII ст. цэнтр палітычнага жыцця Беларусі пераносіцца з Полацку ў Наваградак, ня мае покуль падставы. Полацк у той час быў мацнейшы (19).

Спасылкі на Каніскага, Міцкевіча і іншых мала што дае, бо ў той час заходняя і часткова цэнтральная Беларусь зваліся толькі Літвою (34).

Наогул, праслядзіць, які сэнс укладваўся ў тэрмін “Літва” ад X да XX стагоддзя гэта тэма вартая спецыяльнага доследу.

Літоўцы ня звалі беларусаў “крэвамі”. Так звалі латышы ўсіх усходніх славян, бо з усіх усходніх славян яны спатыкаліся толькі з крывічамі. Мавродин – крыніца вельмі няпэўная. Тое ж можна сказаці і пра Нарбута, у якога багата фантастыкі. Думаю, што і факт крышчэння 1405 г. вельмі няпэўны (53).

Самае няпэўнае месца ў гіпотэзе аб полацкім паходжанні літоўскіх князёў – гэта іх паганства (язычаства). Гэта была эпоха, калі з паганства скрозь пераходзілі ў хрысцьянства, у першую чаргу гэта рабілі феадалы, а тут вышла наадварот (51-53). Ці былі разбіты татары пад Койданавам? Гэтым пытаннем займаецца некалькі польскіх даследчыкаў, а ў Літве – Ромас. Згодзен, што звязаць назву Койданава з Кайданам пэўна няма падставы. Між іншым у Стрыйкоўскага гаварыцца пра тры паражкі і адну рускіх князёў пад Магільным. Можа археолагі што-небудзь скажуць пра гэта ў свой час. (58)

XIII ст. – самы цмяны час у гісторыі Беларусі, і закранаючы яго ўсе аўтары павінны высоўваць свае меркаванні. У Вас таксама багата прапаноў і меркаванняў і так сама ня ўсе яны здаюцца грунтоўнымі. Прапанова, што Вайшэлк прабыў тры гады ў Палонінскім манастыры, каб набраць манахаў для хрышчэння літвы (84), думаю, ня можа быць прынята. Гэта яму можна было б зрабіць неяк прасцей, ня трацячы столькі дарагога часу.

Самае супярэчнае і незразумелае для мяне месца ў Вашай працы знаходзіцца на стар. 66-76. У 1248-51 гг. Навагрудак заваяваў Літву (76), а ў 1254 г. Міндаўг стаў князем літоўскім, у Навагрудку ж абаснаваўся Вайшэлк (77). А раней сказана, што Міндаўг быў перабезчыкам з Літвы ў Навагрудак. Калі ня ведаць, чым быў у той час Навагрудак, якія ў яго былі матэрыяльныя рэсурсы, перш за ўсё тэрыторыя, якая падначальвалася гэтаму гораду, а так сама тэрыторыя Літвы, то ўсё гэта мае абстрактны характар. Незразумела і тое, чаму адразу пасля заваявання Навагрудчына ізноў раскалолася на Навагрудак і Літву. Усё гэта павінна быць удакладнена, інакш будзе толькі кампраметацыя ідэі.

Мне здаецца, што Вам трэба раскласці Вашу працу на некалькі частак, і ў першую чаргу высветліць, каго належыць разумець пад назваю “літва” і пасля – як эвалюцыянавала гэта назва, каго пад літвою сталі разумець пазней.

Выбачайце, што я зрабіў столькі заўваг, але мне ня хочацца, каб спасылаючыся на некаторыя няўдалыя старонкі, завалілі б саму ідэю перагляду гэтага пытання.

15/II -1969 г.

## *Мікола Ермаловіч — Мікалаю Улашчыку*

Глыбокапаважаны Мікалай Мікалаевіч!

Сардэчна дзякую Вам за Вашы заўвагі аб маёй працы. Яны мне дапамогуць больш уважліва прадумаць некаторыя месцы, больш дакладна сфармуляваць паасобныя палажэнні, некаторыя перагледзець, а то і адкінуць.

Я сам быў нездаволен тым месцам, дзе гаворыцца у мяне аб паганстве полацкіх князёў, перайшоўшых у Літву. Але ў той жа час нельга катэгарычна сцвярджаць, што ў XII-XIII ст.ст. усе язычнікі былі толькі літоўцамі. Гэтак пазней усіх католікаў-беларусаў называлі палякамі. Трэба ўзяць пад увагу і тое, што мода на прыняцце хрысцьянства ў Літве з'явілася толькі ў XIV ст.

Сапрўды нельга гаварыць, што ў канцы XII ст. цэнтр палітычнага жыцця Беларусі перайшоў з Полацку ў Навагрудак. Аднак у XIII ст. гэта ўжо мела месца, інакш бы Полацк і Віцебск у 1265 г. не прызналі б "волі Войшалка".

Вядома, да Густынскага летапісу трэба адносіцца з асцярогай. Але мне здаецца, на падставе таго, што летапіс дайшоў да нас у спісках XVII ст., нельга гаварыць, што ён і быў створан у XVII ст. Наколькі мне вядома, ніводны летапіс не дайшоў да нас у першапачатковым спіску, але ніхто яшчэ не казаў, што ім з прычыны гэтага не трэба верыць. Густынскі летапіс не павінен быць выключэннем, тым больш, калі ідзе спасылка на яго першую частку, вельмі блізкую да Іпацьеўскага летапісу. Аб той падзеі, на якую я спасылаюся (паход рускіх князёў на Ізяслаўль у 1128 г.), гаворыцца і ў другіх летапісах. Калі б, як Вы мяркуеце, украінскі летапісец дапісаў "Літву", каб адрозніць наш Ізяслаў ад Валынскага, то ён бы спачатку напісаў "Ізяслаўль", а пасла для ўдакладнення дадаў бы "в Литву». Аднак у летапісу напісана наадварот: "в Литву ко Изяславлю". Што Ізяслаўль быў на тэрыторыі летапіснай Літвы, сведчыць і тое, што лінія тапанімаў на "ішкі" прайшла якраз паміж Ізяслаўлем і Мінскам.

Вы вельмі правільна адзначылі, што цэнтральнае месца ў маёй працы з'яўляецца высвятленне пытання "Дзе была летапісная Літва, Літва XII-XIII ст. ст." Я асаблівую увагу звярнуў на гэта пытанне, бо з заблытаваннем яго пачалося заблытаванне гісторыі ўтварэння Вял. Кн. Літоўскага. Па даўняй традыцыі летапісную Літву прыймаюць за сённяшнюю Літву (усходнюю яе частку). Доказы? Іх няма. Адно толькі галаслоўнае сцвярджэнне "Литва т. е. Аукштайтия" (як у Пашуты). Такім чынам, гэта бяздоказнае палажэнне было прынята навукай на веру і стала догмай. Я ж, уважліва прачытваючы летапісы, усумніўся ў

гэтым, правёў спецыяльнае даследаванне і высвятліў, што летапісная Літва XII – XIII ст.ст. была не ў Аўкштайціі, а ў (груба акругляючы) нашым Мінскам і Навагрудкам, нашым Маладзечнам і Ляхавічамі. Мне не зразумела, чаму Вы гаворыце, што "выразнай карціны" у мяне не атрымалася, пры чым яшчэ дадалі, што тэрыторыя Літвы павінна быць нанесена на карту. Калі я прачытаў гэту заўвагу, то адразу кінуўся глядзець, ці ёсць у тым экзэмпляры, які Вы чыталі, складзеная мною карта. Аказалася – ёсць, паміж 26 і 27 стар. на асобным лісце. Вы нейкім незразумелым чынам прапусцілі яе. А на гэтай карце добра відаць, як супалі вельмі дакладна летапісныя звесткі з дадзенымі тапанімікі, археалогіі і другімі. Аб тым, наколькі дакладна мною вызначаны контуры летапіснай Літвы, сведчыць такі факт. Толькі пасля заканчэння сваей працы, я прачытаў работу В.Сядова "Драгавічы" ("Сов. арх.", №3, 1963 г.), у якой ён гаворыць, што мяжа дрыгавічоў упіралася ў Выганаўскае балота і што таму пранікненне іх у Верхняе Панямонне пачалося ў параўнаўча позні час. Я адразу паглядзеў у маю карту і ўбачыў, што паўднёвая мяжа летапіснай Літвы якраз праходзіць па паўночнай мяжы Выганаўскага балота. Спадзяюся, што і другія рубяжы летапіснай Літвы мною вызначаны больш-менш дакладна. На маёй карце відаць, што летапісная Літва ўваходзіла клінам паміж Полацка -Мінскай, Навагародскай і Турава-Пінскай землямі – галоўнымі састаўнымі часткамі Беларусі і таму аб'яднанне іх магло адбыцца пасля заваявання і ўключэння летапіснай Літвы ў склад Беларусі. У тэтым і заключаецца разгадка таямніцы ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Аб тым, як мянялася паняцце "Літва" з XIII па XX ст. і калі яно перайшло на сучасную Літву, я разглядаю на стар. 33 – 35 сваёй працы. Мне здаецца, што і тых сведчанняў тапанімікі, якія я прыводжу (тапанімы "Літва", крайняя усходняя мяжа тапанімаў на "ішкі") дастаткова, каб падцвердзіць, што на акрэсленай мной тэрыторыі была летапісная Літва. Аб тым, што рубяжы дагістарычнай ( а не летапіснай) Літвы даходзілі да Дняпроўскай Беразіны я таксама гавару ( стар. 28-29). Мною на стар. 13-20 разгледжаны пытанні тэрыторыі і матэрыяльных рэсурсаў Навагародскай зямлі, як і, наогул, значэнне яе ў гісторыі Беларусі, у першапачатковым аб'яднанні беларускіх зямель.

Поўнасцю згодзен з Вамі, што ўтварэнне беларускай народнасці пачалося раней не толькі XIV, але і XIII ст. Больш таго, я прытрымліваюся думкі (я яе выказваю на стар. 59-60), што беларуская народнасць утварылася раней за вялікарускую і украінскую.

У мяне вельмі падрабязна разгледжана гісторыя Міндоўга, усе складаныя перыпетыі яго жыцця, ускрыты прычыны, чаму ён апынуўся ў Навагародку і чаму ад яго апошні адмовіўся. Вядома, спрэчныя моманты тут могуць быць. Але бясрэчна адно: заваёўнікам Навагародскай зямлі (Чорнай

Русі) ён не быў, як аб гэтым сцвярджаюць усе фальсіфікатары гісторыі Беларусі. У летапісу ясна сказана, што ён "Литву заня", а не Навагародак і яшчэ ясна адно: ён не жыў у Аўкштайціі, як гэта бяздоказна сцвярджаюць тыя самыя фальсіфікатары, ён быў недзе ў раёне сённяшніх Баранавічаў. Калі б нават ён і мог заваяваць Навагародак, то ён ніяк не мог гэтага зрабіць з Аўкштайціі. Падобна на тое, што тыя, хто плёў байкі аб заваяванні Чорнай Русі, ніколі не глядзеў на карту.

Калі літоўцы не называлі крывічаў "крэвамі", то як тады растлумачыць назву "Крэва"?

У Нарбута многа домыслаў і фантастыкі, але ён чытаў многія дакументы, якіх мы не прачытаем і таму поўнасцю ўсе яго звесткі ігнараваць не трэба. Гэтак ў свой час глядзелі на Тацішчава. Аднак зараз высвятлілася праўдзівасць многіх яго звестак. Паведамленне Нарбута аб знішчэнні Літвы у 1405 г., мне здаецца заслугоўвае даверу. Яно добра стасуецца з другімі крыніцамі, прыведзенымі мною.

Кнігу Рогава я чытаў, яна была маёй настольнай кнігай, пазбавіўшай мяне ад неабходнасці шукаць цяжка даступныя для мяне крыніцы. Чытаў я і Вашу рэцэнзію на яе ў "Полымі". Яна і навяла мяне на думку прачытаць і гэту кнігу. Так што ў гэтых адносінах я абавязаны Вам. Аднак я не бачу, чым мая праца супярэчыць кнізе Рогава. Тое, што літоўцы нібыта не атрымлівалі перамог над татарамі, што сцверджанне Стрыйкоўскага аб Барысавым камні, на якім быццам было напісана "Борис сын Гингвилов" з'яўляецца выдумкай і т.п., — аб усім гэтым гаворыцца ў Рогава. Мой недагляд у тым, што я ў адпаведных месцах сваёй працы не даў спасылак на гэтага аўтара, што я і выпраўляю.

З працай Лаўмянскага я таксама знаёмы, добра ведаю, як ён праводзіць межы паміж паасобнымі літоўскімі плямёнамі. Я лічу, што Лаўмянскі, як і амаль усе польскія вучоныя – тыповы фальсіфікатар, асабліва там, дзе ідзе гаворка аб гісторыі Беларусі. Лаўмянскі сваёй з пальца высмактанай мяжой паміж літоўскімі і славянскімі плямёнамі ў XII ст. увёў у заблуджэнні ні аднаго даследчыка (Пашуту, Гурэвіч, Грынблата і др.). Каб як-небудзь абгрунтаваць сцверджанне аб гэтай мяжы, другі польскі фальсіфікатар І. Сафарэвіч падганяе пад яе ўсходнюю мяжу тапанімаў на "ішкі", гэта запазычваюць у свае працы Л. Аляксееў і Г. Грынблат... і ўсе трое садзяцца ў лужыну, бо ўсходняя мяжа тапанімаў на "ішкі" знаходзіцца значна далей на ўсход і праходзіць амаль каля Менску. Каму-каму, а Грынблату гэта не даравальна. Вашу заўвагу аб Лаўмянскім я ўлічу і дам кароткую ацэнку яго працы. Думаў я і раней гэта зрабіць, але ў мяне і так палемікі хапае. Аб апошняй працы Любаўскага я ведаў, але ўсе мае старанні пазнаёміцца з ёй аказаліся дарэмнымі. Але я чытаў працу гэтага даследчыка па таму ж самаму пытанню ў зборніку "400лецце беларускага друку" і калі яна падобна на гэту работу, то я не асабліва многа страціў, не прачытаўшы яе.

Адносна таго, што ў маім меркаванні абВаруце ёсць нацяжка, зараз цяжка гаварыць, бо яно (меркаванне) можа ў цэлым аказацца непадцверджанным.

**Літоўскія (ці як іх называе В. Чамярыцкі, беларускія) летапісы** вельмі складаныя па свойму зместу творы. Адно толькі ж, што яны напісаны па-беларуску, не дае яшчэ падставы называць іх беларускімі. У той час беларуская мова была дзяржаўнай і агульнаўжывальнай, і на ёй пісалася ўсё: і беларускае, і антыбеларускае. **Самы патрыятычна-беларускі твор Д-Марцінкевіча "Клопаты .....”напісаны на польскай мове, а "Плач земли белорусской” нейкі невядомы аўтар [Е. Раманаў] напісаў на расійскай мове.** Аднак ніхто не будзе адмаўляць таго, што гэта беларускія творы. Паказ Навагародка ў гэтых летапісах, як сталіцы літоўскай дзяржавы, ніколькі не абвяргае, а яшчэ больш пацвярджае іх пралітоўскі характар: Навагародак у іх паказаны як завяваны, правільней заняты літоўскім князем пасля татарскага разбурэння.

Узнятая мною праблема адна: "Ці было літоўскае заваяванне Беларусі?” і яе нельга раскласці на больш дробныя праблемы. Яна можа рашацца толькі комплексна. Я паставіў сваёй мэтай: на падставе тых матэрыялаў, якія маюцца ў распараджэнні сённяшняй навукі, **паказаць усю безгрунтоўнасць міфа аб літоўскім заваяванні**. Я ўважліва разгледзеў матэрыялы, якімі карысталіся і карыстаюцца даследчыкі, сцвярджаўшыя і сцвярджаючыя аб заваяванні Літвой Беларусі, не абыйшоўшы ніводнага вострага пытання, і прышоў да вываду, што гэтыя матэрыялы не даюць падставы для сцвярджэння аб літоўскім заваяванні. Таму мне здаецца, што не я, а тыя, каго я абвяргаю, павінны правесці дадатковыя даследаванні, каб пацвердзіць свой пункт погляду, бо прыводзячыя мною факты і вывады з іх не могуць быць абвергнуты маімі праціўнікамі., самі ж яны будуць карыстацца тымі ж самымі "фактамі”.

Я дазволю сабе коратка падагуліць тое, што сцвярджаюць прыхільнікі літоўскага заваявання, і тое, што даказваю я.

1. Яны гавораць: беларускія землі пагразлі ў міжусобіцах, аслаблі, і таму іх лёгка заваявалі літоўцы. Якія доказы? Міжусобная барацьба полацка-мінскіх князёў у 50-60 г. г. XII ст. Я даказваю на падставе гістарычных дакументаў, што міжусобная барацьба полацка-мінскіх князёў заціхла ўжо прынамсі да 80 г. г. XII ст. і к часу ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, гэта значыць к палавіне XIII ст. ніякіх міжусобіц у беларускіх землях не было, а ішоў працэс эканамічнага, палітычнага і культурнага збліжэння між імі. Я асабліва падкрэсліў тое, што ў беларускіх землях міжусобная барацьба пачалася раней і закончылася раней, чым у другіх рускіх землях..

2. Яны гавораць, што літоўскія землі у канцы XII – пачатку XIII ст. пачалі аб'ядноўвацца, што прывяло да іх узмацнення. Доказы? Ніякіх. Я на

падставе канкрэтных гістарычных дакументаў даказаў, што ніякага аб'яднання літоўскіх земляў не было і не магло быць. Там панавала самая непрыглядная міжусобіца.

3. Яны гавораць: літоўскія набегі падрыхтавалі глебу для літоўскага заваявання Беларусі. Доказы? Спасылка на "Слова аб палку Ігаравым". (Двина болотом течет под клики поганых). Я даказваю ўсю безгрунтоўнасць спасылкі на «Слова», паказваю, што набегаў літоўцаў на беларускія землі не было, а калі нават і былі, то яны не маглі перагарадзіць шырокую раку беларускай каланізацыі і асіміляцыі Літвы. Я даказваю, што ніякага наступлення Літвы не было, а было толькі яе паступовае адступленне.

4. Яны сцвярджаюць, што пагроза татарскага нашэсця і нямецкая агрэсія аблегчылі літоўскае заваяванне. Доказы? Ніякіх, калі не лічыць міфаў XVI ст аб перамогах літоўцаў над татарамі. Я даказваю, што беларускія феадалы не маглі шукаць ратунку ад татараў і немцаў у літоўскіх феадалаў, бо апошнія самі яшчэ ў большай меры былі запалоханы татарамі, ад якіх цярпелі паражэнні, і немцамі.

5. Яны сцвярджаюць, што Літва была Аўкштайціяй і што апошняя заваявала Чорную Русь ці то ў 30, ці тоў 40 г. г. XIII ст. Доказы? Міндоўг валодаў Чорнай Руссю, што бачна з Іпацьеўскага летапіса. Я даказваю, што Літва была не ў Аўкштайціі, а ў Верхнім Панямонні, і што Войшалак з'явіўся, такім чынам, сапраўдным стваральнікам Вялікага княства Літоўскага.

6. Яны сцвярджаюць, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага было прадыктавана інтарэсамі літоўскіх феадалаў. Доказы? Ніякіх. Я даказваю на падставе летапісных сведчанняў (гэта і даказваць асабліва не трэба, варта толькі зазірнуць у летапісы), што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага было перш за ўсё ў інтарэсах навагародскіх феадалаў. Гэта падцвярджаецца тым, што літоўскія феадалы ў працэсе ўтварэння Вялікага княства Літоўскага бязлітасна знішчаліся ці выганяліся.

Сумняваюся, што гэтыя асноўныя палажэнні маёй працы могуць быць кім-небудзь абвергнуты (вядома, навукова, а не пры дапамозе вокрыка "Не сметь!").

Хаця я ўнясу шэраг паправак, сыходзячы з Вашых заўваг, але я лічу сваю працу ў цэлым закончанай. Думаю таксама, што яна варта для навуковага абмеркавання ў асяроддзі спецыялістаў. Таму я вельмі шкадую, што Вы ў сваёй рэцэнзіі не парэкамендавалі яе для абмеркавання (перад тым, як яе надрукуюць). Аб гэтым прасіў Вас і П. Ф. Глебка. Я ж ведаю, што Вы яму адказалі і ці, наогул, яму адказвалі, але з Вашай рэцэнзіі я зразумеў, што Вы лічыце гэту тэму непасільнай для мяне, як чалавека не зусім кампетэнтнага ў гэтым пытанні. Ва ўсякім выпадку, калі Вы напісалі падобнае П. Глебку, то і ён так зразумее Вас і не дасць дазволу на абмеркаванне маёй працы ў інстытуце гісторыі. А

гэта будзе досыць адчувальным ударам для мяне і адмоўна адаб'ецца на прасоўванне маёй працы. Для П. Ф. Глебкі асабліва важна ведаць, наколькі я кампетэнтны ў гісторыі чалавек, наколькі мая работа з'яўляецца самастойнай.

Адкладваць абмеркаванне на няпэўны час, мне здаецца няма сэнсу. **Мы і так спазніліся. Чатырыста гадоў** нас, беларусаў, водзяць за нос літоўскім заваяваннем і прадаўжаюць вадзіць, а мы не толькі не аспрэчваем гэта, а самі паўтараем гэтыя байкі. Бачыце, літоўцы ўжо даказваюць, што першапачатковай сталіцай Вялікага княства Літоўскага была Вільня. Яны людзі разумныя і разумеюць, што на старых байках далёка не заедзеш, што яны немінуча знікнуць, вось і пачалі прыдумаваць новыя байкі.

Нам жа нічога выдумляць не трэба. Нам трэба разабраць завалы фальсіфікацыі нашай гісторыі і паказаць яе такой, якой яна была. Наконт Пашуты можна сказаць, перафразіраваўшы прыказку: «Пашут баяцца – у навуку не хадзіць». Культ, як паказалі падзеі, справа ненадзейная. **На шляху нашай беларускай навукі стаялі і будуць заўсёды стаяць Пашуты.** Але гэта не рэзон, каб не ўступаць з ім у барацьбу.

Я думаю, што Вы не пакрыўдзіцеся на мяне за тое, што я часамі ўступаю з Вамі ў спрэчку. Я лічу навуку справай вельмі сур'ёзнай, якая можа мець месца толькі там, дзе ідуць спрэчкі, барацьба думак і г. д.

Яшчэ раз дзякую за Вашы заўвагі.

Застаюся з вялікай пашанай да Вас

М. Ермаловіч

6/III — 1969 г.

## *Мікалай Улашчык — Міколу Ермаловічу*

Шаноўны Мікалай Іванавіч!

Я ізноў доўга не адказваў Вам, бо прабаваў уявіць сабе перспектывы Вашых доследаў, а таксама трэба было пагаварыць з археолагамі.

Ведаючы ўмовы ў інстытутах і рэдакцыях, мне здаецца, што Вам ні падаваць увесь Ваш рукапіс на абмеркаванне, ні падаваць яго ў рэдакцыю няма сэнсу. Тая частка рукапісу, дзе гаворыцца, што думка аб захопе літоўцамі беларускіх зямель слаба абгрунтавана, ці зусім ня мае грунту, будзе прынята (думаю, часткова), але ў другой, дзе гаворыцца пра захоп

Літвы Наваградкам, аргументаў таксама зусім мала і Вашы слухачы, можна думаць, не захочуць мяняць прывычную гіпотэзу на новую, калі новая абгрунтована не надта капітальна.

Думаю, што Вам пры гэтым будзе пастаўлена шмат пытанняў, напрыклад, чаму крыніцы лічылі Літву народам іншамоўным; інакш кажучы, як будзе растлумачыць, што толькі невялікі куточак усходніх славян так грунтоўна адчапіўся ад іншых, што яго скрозь прымалі за чужакоў (литва поганая). Таму мне і здаецца, што Вам нельга ставіць на абмеркаванне ўвесь артыкул, а толькі археалагічкую частку (ці лепш кажучы, тапанімічную), бо без грунтоўнага даследавання літоўска-славянскіх рубяжоў IX-X ст. усё іншае павісне ў паветры.

Карту я Вашу бачыў, але ведаючы трохі ўмовы працы археолагаў, магу сказаць, што гэта іх не упэўніць, што патрэбна больш грунтоўная. Таму я Вам і напісаў, што патрэбна яшчэ карта.

Пра паходжанне назвы "Крэва" не ведаю, але ведаю, што "крэвамі" латышы завуць сучасных рускіх, беларусаў – балта-крэвамі, раней жа, сутыкаючыся толькі з беларусамі (па тагачаснай тэрміналогіі рускімі) звалі крэвамі беларусаў літоўцы.

Аб літоўска-славянскіх адносінах па Нарбуту ў свой час зрабілі выбаркі аўтары прадмовы да кнігі "Собрание древних грамот и актов городов: Вильно, Ковно, Троки" . Вильно, 1843 г.

Глебку я нічога не пісаў і покуль мы з Вамі не пагодзімся, пісаць ня буду (і наогул нікому).

Шлю Вам нумар "Советской этнографии» з артыкулам Сядова. На мой погляд гэта самы кваліфікаваны даследчык славяна-балтскіх адносін.

Калі ў Вас жаданне напісаць што-небудзь яму, то яго адрас:

Москва, ул. Д. Ульянова, д. 19, Институт археологии АН СССР.

З пашанаю да Вас М. Улашчык.

21. IV. 1969 г.

*Лісты М. Ермаловіча, П. Глебкі, М. Улашчыка (ксераадбіткі) – з асабістага архіва ўладальніка (арыгіналы – у аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Беларускай Акадэміі Навук).*

*Сяргей Дубавец*

## Беларусь і Літва: мадэль добрасуседзтва

*Інтэрвію І.Герменчуку, рэдактару газеты "Свабода" № 3, 1995 г.*

**І.Г. Раз ці два на месяц нашая прэса паведамляе пра беларуска-літоўскія перамовы ў справе дэлімітацыі і дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы. Часам згадвалі, што перамовы зайшлі ў тупік з прычыны спрэчкі вакол чыгуначнай станцыі Гадуцішкі. Праходзіў месяц — і ўсё паўтаралася зноў. Паспаліты чытач паціскае плячыма: папярэдні Вярхоўны Савет Беларусі выказваў прэтэнзіі на Вільню, а гэты ўсё зьвёў да нейкіх там Гадуцішак... Палітыкі спрачаюцца, а што пра гэта думаеш ты, культурнік, назіраючы за падзеямі зь Вільні?**

С.Д. Гадуцішкі «прыдумаў» Кебіч. Дакладней, Кебіч пачаў гутарку пра санаторыю Чацьвёртай управы «Беларусь» у Друскеніках, збудаваную за беларускія грошы пераважна для цэкоўскіх „сардэчнікаў", якім на поўдзень езьдзіць не рэкамэндавалі дактары. А тут — свой клімат, Нёман, сосны, воды, гразі... Літоўцы за "Беларусь" вырашылі запатрабаваць Гадуцішкі. Завязалася міждзяржаўная спрэчка, якую кожны адукаваны беларус інакш як ячшэ адну правакацыю адчужэньня разглядаць ня можа.

Кебіч і ягоная каманда не былі адукаванымі беларусамі і таму нічога іншага, апроч роднай сэрцу цэкоўскай санаторыі «Беларусь», за паўночнаю мяжою ня бачылі. Сёньняшняя прэзыдэнцкая брыгада на чале са сваім кіраўніком ня бачыць там увогуле нічога. Пакет эканамічных дамоваў зь Літвой стандартны і прыдатны для любой іншай краіны. Між тым тут існуе, высьпявае, часам нагадвае пра сябе вялікая культурная праблема, якая з Гадуцішкамі ня мае нічога агульнага.

**І.Г. Ты маеш на ўвазе беларускія прэтэнзіі на Вільню?**

С.Д. Не прэтэнзіі, а разуменьне праблемы з абодвух бакоў. Прэтэнзіі — гэта калі крыкнуў і чакаеш зваротнага крыку... Пакуль не завяжацца бойка. А ў мяне кулакі не сьвярбяць. Мне цікава ўбычыць магчымую мадэль нашага добрасуседзтва. Але для гэтага трэба ўлічыць вельмі многае, найперш — нашую агульную зь літоўцамі гісторыю.

Старадаўні традыцыйны рэгіён Віленшчына на тэрыторыі сучаснай Беларусі даходзіць пад Маладэчна, мае сваю спецыфіку і цэнтар усіх памкненьняў насельніцтва — горад Вільню. Сюды, а ня ў Менск ці Горадню спрадвеку ехалі ашмянскія, смаргонскія, пастаўскія людзі на рынак, на вучобу, на працу. Прычына ўзьнікненьня гэтага рэгіёну — моцная эканамічная і культурная прыцягальная сіла Вільні і тое, што паміж ёю і сучаснай беларускай тэрыторыяй да 1990-х гадоў ніколі ў гісторыі не было міждзяржаўнай мяжы.

Вільня — сталіца Вялікага княства Літоўскага, у якім дамінавалі сучасныя беларускія землі і беларуская культура. 200 гадоў таму, калі Вільня была захопленая Расеяй, яна стала цэнтрам расейскай губэрніі, тут на роўных правах існавалі прадстаўнікі ўсх паняволеных імпэрыяй народаў. На мяжы нашага стагодзьдзя гэтыя прадстаўнікі пачалі ствараць свае нацыянальныя культурныя і палітычныя групы, якія абмяркоўвалі магчымасьці адраджэньня ВКЛ. Але ў часе першай сусьветнай вайны пад нямецкай акупацыяй найбольшую актыўнасьць выявіла літоўская група — Тарыба. Неўзабаве прыйшлі бальшавікі — і Тарыба ўцякла ў Коўна. На зьмену бальшавікам у 1919 г. прыйшлі палякі і гаспадарылі тут да 1939 г. Пасьля зноў прыйшлі бальшавікі, захапілі горад і неўзабаве паводле пакту Молатава—Рыбэнтропа аддалі яго Літве. Пасьля зноў былі немцы, зноў бальшавікі, толькі ўжо літоўскія. У 1950 г. БССР передала Літве некалькі сваіх раёнаў. А ў 1991 г. паміж Беларусяй і Літвой пачала ўзводзіцца дзяржаўная мяжа, якая сёньня выглядае больш "непралазна", чым нават былая заходняя мяжа СССР. За мяжою засталіся: 60 тыс. пашпартных беларусаў, Вільня, у якой нарадзілася і пакінула мноства памятак беларуская культура, і кавалак традыцыйнага рэгіёну — Віленшчына. Ну і, зразумела, санаторыя "Беларусь".

У часе міждзяржаўнае спрэчкі Беларусь сутнасна не паставіла праблемы сваіх гістарычных правоў. Праігнаравала гэтую праблему і Літва. Варыянт добрасуседзкае згоды быў заменены на жалезную заслону-мяжу і грызьню за Гадуцішкі.

### І.Г. Значыць, ня выйграў ніхто?

С.Д Тут немагчыма выйграць, бо самая гульня пачнецца толькі заўтра, калі гульцы «набяруць форму». Сёньня беларускай пазыцыі — афіцыйнай ці неафіцыйнай — яшчэ не існуе. Але яна непазьбежная, і выпрацоўваць яе трэба вельмі прадумана, каб яна ўлічвала ўсе фактары і не вяла да канфрантацыі.

Што тычыцца гэтых перамоваў... Можна зразумець літоўцаў. Па-першае, гэта ня тыя літоўцы, якія запрасілі БНФ правесьці свой першы з'езд у Вільні, разумеючы, што лепей мець у абліччы Беларусі сябра, чым ворага, і што Літва як менш саветызаваная краіна можа выступіць носьбітам дэма-

кратычных каштоўнасьцяў «на ўсход». Тыя літоўцы сёньня ў апазіцыі. Падругое, гэта ня тыя беларусы, зь якімі можна размаўляць пра каштоўнасьць гістарычнай традыцыі, бо яны ня ведаюць, што гэта такое. Можна зразумець літоўцаў, якія сьпяшаюцца ў аб'яднаную Эўропу і таму ім трэба як найхутчэй "закрыць" пытаньні "з другога боку". Але гэта таксама недальнабачная палітыка.

Рэч у тым, што ўчарашняе і сёньняшняе кіраўніцтва Беларусі прадстаўляе не Беларусь, а расейскую ўскраіну і яе насельніцтва. Урад Лукашэнкі ні закрыць, ні паставіць пытаньні беларуска-літоўскіх узаемаадносінаў ня можа. Бо нават калі дасьведчаныя экспэрты падрыхтуюць адпаведны матар'ял, то сёньняшнія кіраўнікі не ўбачаць у ім ані беларускіх, ані тым больш літоўскіх інтарэсаў. Але рана ці позна на зьмену гэтаму кіраўніцтву прыйдзе кіраўніцтва беларускае, з разуменьнем важнасьці традыцыі і пераемнасьці. І тады слова Вільня будзе стракацець у сродках масавай інфармацыі, школьных падручніках і ўрадавых заявах. Да сур'ёзнае канфрантацыі будзе зусім блізка. Прадбачыць яе і папярэдзіць сёння яшчэ магчыма.

**І.Г. Ты ўпэўнены, што новы ўрад Беларусі будзе сапраўды беларускі і будзе ва ўсёй паўнаце ўяўляць сабе і прадстаўляць беларускія інтарэсы?**

С.Д. Упэўнены, што рана ці позна так будзе. Бо інакш Беларусь будзе сапраўды толькі выказваць прэтэнзіі Літве па маскоўскай шпаргалцы, будзе праваднікам маскоўскай палітыкі, арыентаванай на канфлікт у рэгіёне. Масква ніколі не адмовіцца ад таго, каб паторгаць гэтых свабодалюбівых літоўцаў беларускімі рукамі.

Новы беларускі ўрад напэўна паставіць праблему дэлітуанізацыі рэгіёну, адраджэньня беларускага музэйніцтва, школьніцтва, магчымасьці для беларусаў вольна наведваць Вільню. Новы ўрад закрые мяжу з Расеяй, г.зн, выб'е ў літоўцаў галоўны аргумант супраць беларуска-літоўскай інтэграцыі. Новы ўрад будзе ставіць праблему асаблівага статусу для Віленшчыны. Усё гэта — старыя ідэі, якія ўвесь час "лётаюць у паветры" і нікуды адтуль не зьнікаюць. І калі сёньня іх як бы яшчэ можна схаваць за чыгуначнай станцыяй Гадуцішкі, то ў пэрспэктыве яны паўстануць ва ўсёй моцы, хочам мы гэтага ці не. Іх нельга зьнішчыць ці ізаляваць. Яны тояць у сабе вялізную шкоду і вялізную карысьць Іх трэба распрацоўваць, прычым разам.

Магчыма, найперш гэта мусіла б разумець Літва. Пакуль беларуская незалежнасьць мае эмбрыянальны выгляд, літоўцы маглі б шмат дапамагчы Беларусі «даганяць Эўропу» і хутчэй усприняць каштоўнасьці эўрапейскага суседзтва. Хоць бы з той інтэнсіўнасьцю, зь якой гэта робіць Польшча. Пры

падобных узроўнях эканамічнага разьвіцьця і дабрабыту людзей, дэмакратызацыі масавае сьвядомасьці і ўзаемнай інтэграцыі пытаньні прыналежнасьці традыцый, тэрыторый і гарадоў набываюць факультатыўнае значэньне.

Усё залежыць ад таго, які код узаемаадносінаў будзе закладзены. Сёньня з абодвух бакоў ёсьць і добрая, і благая воля. Прычым усё выглядае вельмі кантрасна. Я сустракаў нянавісьць беларусаў да літоўцаў і нянавісьць літоўцаў да беларусаў. Але я сустракаў і ўзаемны інтарэс. Інтарэс гэты каштоўны і надзвычай крохкі. Яму ў сёньняшніх умовах вельмі цяжка, бо ніхто яго не ўмацоўвае. Затое для нянавісьці створаныя ўсе ўмовы — тут і мяжа, і мяшчанскае мысьленьне журналістаў, і спадчына савецкай прапаганды адчужэнь-ня.

**І.Г. Якія могуць быць падставы добрае волі і ўзаемнага інтарэсу?**

С.Д. Трэба прызнаць, што Вялікае княства Літоўскае — гэта найвялікшая палітычная спадчына як літоўцаў, так і беларусаў. Калі мы не прызнаем, што гэта агульная спадчына, мы непазьбежна будзем яе дзяліць, прычым вельмі жорстка. Кожны будзе рваць на сябе. Бо і для беларусаў, і для літоўцаў гэта адзін корань, іншага, на які можна было б «сьпіхнуць» канкурэнта, няма. І таму паўтараць да страты прытомнасьці, што ВКЛ — гэта толькі сучасня Літва або толькі сучасная Беларусь абсурдна, бо гэта і тое, і тое разам.

Сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага была Вільня. Абсурдна вымагаць ад беларусаў, каб яны называлі гэты горад Вільнюсам, а Вялікую вуліцу, на якой жыў і працаваў Франьцішак Скарына, — у зусім славянскім, дарэчы, асяродзьдзі — вуліцай Діджёйі. Ніхто ня хоча зракацца свае гістарычнае спадчыны. А цывілізаваная сьвядомасьць патрабуе пераемнасьці.

Калі Віленшчыну насяляюць грамадзяне Беларусі, яны ня мусяць літоўскімі законамі разглядацца як чужаземцы, бо гэта па сутнасьці грамадзяне ВКЛ, якія жывуць у сталіцы княства і культурна арыентаваныя на поўдзень гэтай краіны. Прысутнасьць рэаліяў ВКЛ у сьвядомасьці — гэта і ёсьць падставы нашага нармальнага самапачуцьця.

Адным словам, што да Вільні і Віленшчыны, то мы мусілі б ствараць беларуска-літоўскі парытэт. Было б недальнабачна меркаваць, што гісторыя ў рэгіёне ўжо скончылася і сёньняшнія рэаліі ўсталяваныя назаўсёды. Толькі за апошняе стагодзьдзе «непарушныя» рэаліі тут усталёўваліся дзясятак разоў і кожны раз ненадоўга. І так адбывалася, бо не было прадуманага парытэту. Хіба толькі ў рэаліях ВКЛ гэты парытэт быў і дазволіў сытуацыі ў нязьменнасьці праіснаваць некалькі стагодзьдзяў.

**І.Г. Але сёньня нельга сказаць, што такі парытэт ёсьць?**

С.Д. Сёньня Вільня прызнаецца адназначна літоўскім горадам, больш за тое

— сталіцай літоўскай дзяржавы. Літоўская дзяржава, у адрозьненьне ад ВКЛ, — невялікае ўтварэньне з монакультурнай, монаканфэсійнай і монанацыянальнай арыентацыяй. Ніякага парытэту народаў тут няма. Ёсьць народ дзяржаўнььг і так званыя нацыянальныя меншасьці. Літоўцы, якія ў большасьці прыехалі з "чыстай Літвы", — людзі дзяржаўныя, а карэннае насельніцтва, якое ў большасьці сваей не літоўцы, — нацыянальныя меншасьці. Я ня маю тут на ўвазе прыбышоў савецкага часу, пасланцаў камунізму з усяго вялізнага абшару ад Буга да Курылаў. Хоць і ў гэтым патоку выразна вылучаецца плынь людзей з гістарычнай Віленшчыны, з Ашмяны, Смаргоняў, Паставаў, Воранава і г. д., традыцыйна арыентаваных на Вільню. Сёньня ўсе яны мусяць старацца вывучаць дзяржаўную літоўскую мову, калі хочуць чаго-небудзь дасягнуць у жыцці. Менавіта мусяць, што, дарэчы, не спрыяе ўсеагульнаму жаданьню. У крамах, установах, паўсюль першы зварот работніка да кліента мусіць быць па-літоўску, і два тутэйшыя беларусы (прадавец і пакупнік) пакорліва выконваюць гэтую фармальнасьць, перш чым перайсьці на даступную абодвум мову. На чатырох літоўскамоўных каналах тэлебачаньня беларуская мава гучыць толькі 10 хвілін раз на тыдзень. Прычым некаторыя наракаюць, што гэтая праграма трактуе ўсё зь беларускіх пазыцый. Але, на маю думку, у беларуска-літоўскіх дачыненьнях такія нараканьні — вузкалобыя, бо справа тут ня ў тым, каб адстойваць нейкія пазыцыі, свае трактоўкі гісторыі і г.д., а ў тым, чаго мы хочам, якая нашая ўзаемная суседзкая воля — добрая ці благая. Мы не супернікі, не спаборнікі — вось што галоўнае.

**І.Г. Дарэчы», а што робяць віленскія беларусы?**

С.Л. Яны малаактыўныя, што блага, і законапаслухмяныя, што добра. Бо праблема міждзяржаўных узаемаадносінаў вырашаецца не на іхным узроўні (яны, «дыяспара» без «мэтраполіі» за плячыма, нічога ня значаць), а на ўзроўні дзяржаваў, на ўзроўні парытэту.

Парытэту сёньня няма. Воляю лесу беларусы далі літоўцам вялізную фору ў рэгіёне. Можна зразумець, чаму, і зваліць усё на беларусаў. А можна зваліць усё на літоўцаў. Але з такіх падыходаў не вынікае нічога добрага. Прызнаньне савецкага status quo з усімі ягонымі дэфармацыямі — гэта прызнаньне тае ільдзіны адчуджанасьці і ўзаемнай нянавісьці, якая за савецкім часам нарошчвалася тут крамлеўскімі геапалітыкамі. Але ні першая, ні другая, ні трэцяя пазыцыі не вядуць да дабра.

Рэч у тым, што літоўцы маюць пад бокам у тры разы большы этнас, які сёньня пачынае імкліва пасьпяваць, фармавацца ў нацыю. Адгарадзіцца ад яго каменнай сьцяной нерэальна. Пры ўсіх сённяшніх рэаліях, якія зьявіліся паміж намі, маладая нацыя ня будзе доўга перабіраць у пошуках верагоднага ворага. А калі вызначыцца "мэтраполія", заварушыцца і "дыяспара". Джын, якога сёньня імкнуцца не заўважаць, улагоджваць або проста затыкаць у ягонай хліпкай пасудзіне, выскачыць адтуль, і тады пра добрасуседзтва гаварыць будзе ўжо немагчыма.

Мэтадалягічна падставы добрасуседзтва можна сфармуляваць так: беларускі бок дбае пра літоўскія інтарэсы (зважаючы на працэсы дасьпяваньня нацыі ў самой Беларусі), а літоўскі бок дбае пра інтарэсы беларускія (думаючы адначасова пра ўлагоджваньне сваіх правых радыкальных нацыяналістаў). З такімі настроямі можна сядаць за стол перамоваў. Але гэтага мала.

Ужо сёньня паміж нашымі краінамі існуе інфармацыйны вакуум. Хоць якраз Віленшчына мае патрэбу ў поўнай двухбаковай інфармацыі. Гэта першая падстава «народнай дыпляматыі». Мы мусілі б зьведаць адно аднога і пачаць выяўляць адныя да адных цікавасьць. Нельга сказаць, што гэтага зусім няма ў прыродзе літоўцаў і беларусаў. Між тым вакуум робіцца ўсё больш непралазны. Сёньня літоўцам найбольш цікавыя яны самі, а беларусам яшчэ не цікавы ніхто.

**І.Г. Паспалітаму беларусу што-небудзь уявіць сабе пра літоўскія інтарэсы немагчыма. Дый беларускаму палітыку, каб дбаць, як ты кажаш, пра гэтыя інтарэсы, трэба нешта з сабой зрабіць...**

С.Д. У тым і рэч. А бяз гэтага мы адкрыта ідзем да канфлікту. Дзьве «чужыя», «халодныя» краіны, у якіх больш за 700 км агульнай мяжы.

Літва сёньня, па-мойму, імкнецца ўнікнуць усіх сваіх праблем зь Беларусяй, пакуль Беларусь іх не паставіла. Літва хоча ўскочыць у Эўропу і сказаць: "мяне тут няма" альбо: "за вамі расейскі мядзьведзь, а за мной Эўропа, NATO і г.д.". Але пры такой лёгіцы якім трэба ўяўляць сабе наш сьвет і рэгіён заўтра? Міндоўг і Вітаўт кульнуцца ў труне ад такіх кашмараў!

Што такое згода і паразуменьне? Гэта калі я разумею, чаго ты хочаш, і імкнуся, каб ты быў гэтаксама задаволены нашым суседзтвам, як і я.

Я ўжо казаў пра фору Літвы ў гэтым стагодзьдзі. Як нацыі мы пачыналі з аднолькавых стартавых узроўняў і ў аднолькавых умовах, але Літве тройчы пашанцавала больш: міжваенная дзяржаўнасьць, Вільня, выхад з СССР. І таму я бачу літоўскія інтарэсы ў збалянсаваньні гэтага шанцунку з намі, пакуль мы не ператварыліся ў рэваншыстаў-рабаўнікоў.

На маю думку, ёсьць некалькі агульных захадаў, якія маглі б зьняць праблему нашых узаемаадносін на будучыню.

1. Літва мусіла б вярнуць сталіцу ў Коўна. Я прадбачу. што гэта будзе тэмай найгучнейшага крыку маладога беларускага нацыяналізму, а таксама крайніх літоўскіх правых. Але заўваж, што ад Літвы тут нічога не адымаецца. Наадварот. Такія крокі сьведчаць пра веліч краіны і яе ўпэўненасьць у сваіх сілах. Што да Літвы, то ў ёй мудрасьць адных палітыкаў кантрастуе з хутаранскай закрытасьцю іншых. Першыя могуць мысліць вобразна, і ў нашых гутарках ніколі не бывае тупіковых сытуацый. Яны кажуць: «Калі вы прэтэндуеце на Вільню, то мы прэтэндуем на Менск». Я адказваю: "Цудоўна! Тады забірайце нас разам з Гомлем". Вось гэта мысьленьне грамадзян Вялікага княства Літоўскага. Мы як два народы гэтай дзяржавы разглядаем Вільню як сталіцу ВКЛ, а Коўна і Менск — як сталіцы сучасных палітычных утвараньияў ЛР і РБ. Сёння ВКЛ няма. Літоўцы па сутнасьці адрадзілі ковенскую незалежнасьць, а мы блізкія да незалежнасьці БНР. І калі прыйдзе час аднаўляць ВКЛ (няхай праз трыста гадоў), у нашых нашчадкаў з выбарам сталіцы не павінна быць праблемаў.

2.Літва мусіла б увесьці для Віленшчыны асаблівы статус шматмоўнага, шматканфэсійнага рэгіёну, што вярнула б Вільні яе неафіцыйны статус культурнай сталіцы Усходняй Эўропы. Колісь з такім статусам Вільня дала сьвету мноства выдатных беларусаў, летувісаў, палякаў, французаў, гэбраяў, расейцаў... Доўга пералічваць, бо тут варта называць усіх. А цяпер што яна дасьць? Толькі літоўцаў і толькі Літве? Заўваж, што я зноў дбаю найперш пра літоўцаў.

3.Літва мусіла б паставіць Беларусі ўмову адкрыцьця мяжы пры папярэднім закрыцьці мяжы Беларусі з Расеяй.

Вось і ўсё. Я думаю, што гэтага дастаткова, каб цалкам апраўдаць у вачох беларусаў літоўскую юрысдыкцыю Вільні і Віленшчыны, а таксама прынцып непарушнасьці сучасных межаў.

**І.Г. А што мусіла б Беларусь?**

С.Д. Пакуль што — правесьці дэмакратычныя выбары, дасьпець да нармальнага прэзыдэнта і ліквідаваць інфармацыйны вакуум вакол Літвы.

Любы поступ у нашых узаемаадносінах і наша добрая воля ляжаць толькі ў прасторы спадкаемніцтва традыцыяў ВКЛ. Магчыма некалі ў гэтым партнэрства павядзе Беларусь. Сёньня ж такую місію мусіць выконваць Літва. Інакш, баюся, Беларусь празь нейкі час павядзе не ў партнэрстве, а ў канфлікце. А гэта ўжо ня тая тэма, якая б дазваляла будаваць мадэлі добрасуседзтва.

*"Свабода" № 3, 1995 г.*

* * *

## Пятнаццаць гадоў безь перамен

Ня так даўна тэму гэтага інтэрвію мне давялося працягнуць у эсэ "Вайна палітыкі з культурай. Спадчына ВКЛ у абсурдным сьвеце" для "Кнігі Вялікага княства Літоўскага" (Сейны, 2008). Праўда, гаворка цяпер ішла ня столькі пра мадэлі добрасуседзтва, колькі пра небясьпекі, што тояцца ў супольнай спадчыне ВКЛ. Беларускі фактар у ёй амаль ня ўлічваецца суседзямі і амаль замоўчваецца афіцыйнай прапагандай РБ. Між тым, пачуцьцё голаду маладое нацыі што да ўласных гістарычных мітаў ад гэткага ігнараваньня робіцца толькі больш драпежным і, патрапіўшы раптам у палітычную кан'юнктуру, можа выбухнуць непрадбачнымі наступствамі.

За мінулыя пятнаццаць гадоў Беларусь і Літва фармальна сталі яшчэ далей адна ад аднае. Літва ўступіла ў NATO, Эўразьвяз і шэнгенскую зону. Колькасьць пашпартных беларусаў тут з часоў распаду СССР зьменшылася роўна ўдвая й цяпер складае 37 тысяч чалавек. Атрымаць візу ў Літву або Беларусь – справа надзвычай турботная, марудная й дарагая. У Беларусі Літву па-ранейшаму называюць "краінай дальняга зарубежжа", маючы зь ёю каля 700 км агульнай мяжы. Зрэшты, падобны вобраз фармуецца пра Беларусь і ў літоўскіх школьнікаў, якія імкліва забываюць пра спрадвечную блізкасьць Літвы да сьвету славяншчыны, асацыючы апошнюю выключна з далёкай імпэрскай Масквой. Дастаткова сказаць, што першая сталіца ВКЛ, у якой каранаваўся Мяндоўг, у літоўскіх падручніках гісторыі "пераехала" з Наваградка ў Кернаву (40 км на поўнач ад Вільні).

Што тычыцца добрасуседзтва, дык творыцца яно не палітыкамі, а паспалітымі людзьмі й культурамі. І на сёньняшні дзень зроблена вельмі шмат, каб гэтыя людзі й культуры нефармальна й самахоць кантактавалі міжсобку як найменей. Асобныя факты ды прыватныя ініцыятывы й блізка не адлюстроўваюць таго патэнцыялу, што дадзены нашым народам і краінам агульнай прыродай, гісторыяй і лёсам.

З уласнага досьведу скажу безапэляцыйна: на першасным узроўні – там, дзе непасрэдна ўзьнікаюць дачыненьні й робяцца справы, – беларусаў і літоўцаў нічога не падзяляе. Але казаць пра паўнавартаснае добрасуседзтва – каб кожны дбаў пра інтарэсы іншага – пакуль не выпадае.

*Сяргей Дубавец,*

*Вільня, верасень 2009*

*Яніна Кахано́ўская*

## Успаміны вучаніцы

Прайшло поўстагоддзя з тае пары, як мае школьныя гады адышлі ў мінулае. Час зацёр у памяці твары, імёны, падзеі. Калі вяртаюся думкамі да дзён майго юнацтва і стараюся адтварыць у свядомасці школьныя часы, пераконваюся, што некаторых вучыцялёў зусім не памятаю; іншыя, хаця і засталіся ў памяці, цяпер не магу сабе дакладна ўявіць, які наказ далі яны мне на мой жыццёвы шлях.

Толькі постаць Антона Луцкевіча вырысоўваецца перад вачыма так выразна, як быццам ён зусім нядаўна чытаў нам свае лекцыі.

У чым жа прычына, што якраз гэты вучыцель пакінуў такі глыбокі след у памяці, што яго не можа сцерці бязлітасны час?

Прабую тлумачыць гэта яго педагагічным талентам, які магчыма быў выдатны. Але былі і іншыя педагогі, добрыя выкладчыкі, а вось іх вобразы ў маёй памяці зрабіліся нявыразнымі, расплыліся.

Сілай яго інтэлекту? Гэта быў чалавек бясспрэчна моцны духам, які не мог не зрабіць уражання на тых, каго зводзіў з ім жыццёвы шлях.

Але была яччэ прычына, чаму гэты нявысокага ўросту з ціхім голасам, вельмі ветлівы чалавек зачароўваў увагу юнакоў і дзяўчат на сваіх лекцыях. Прычынай гэтай была сіла яго пачуцця, якое перадавалася вучням разам з ведай.

Як жа любіў ён свой прадмет – беларускую літаратуру і тую глебу, з якое яна вырасла. З якім пачуццём чытаў нам адрыўкі з “Сымона-Музыкі”, якія не ўвайшлі ў друк.

Аднойчы на лекцыі ўзнікла дыскусія, — чым яна была выклікана, цяпер не магу прыпомніць. У часе дыскусіі нехта з вучняў выказаў жаль, што на беларускім грунце не ўсё робіцца так, як было б трэба. Антон Луцкевіч сказаў: “Калі збліжаецца вясна, яе заўсёды папераджвае прадвесне, а з прадвеснем заўсёды неразрыўна звязана балота. Вось і ў нас цяпер прадвесне”.

Памыліўся тады наш вучыцель адносна пары году. Але ён сказаў гэта з такім шчырым пераконаннем, з такой непахіснай верай, што мы таксама паверылі ў хуткую вясну.

І яччэ аднаму вучыў нас вучыцель – “людзьмі звацца”. Не толькі ў тым значэнні, якое меў на ўвазе паэт, але вучыў шанаваць чалавечую годнасць у самых сабе і ў іншых. Не змяняць сваіх поглядаў залежна ад варункаў, як хамелеон змяняе колер скуры. Не жыць так, як жыве маленькая звярынка – хамячок, усё жыццё занятая тым, што носіць запасы ў сваю норку.

Нялёгка склаўся жыццёвы шлях тых з нас, хто пайшоў следам яго навукі, як нялёгкі быў шлях яго самога. Але сёння, калі аглядаюся на

мінулае жыццё, з задавальненнем магу сказаць: мы не жылі так, як той хамячок і не гандлявалі сваімі пераконаннямі. Ён навучыў нас людзьмі звацца. За гэта шчырае яму дзякуй.

Цяпер разгарэлася палеміка навокал пытання: кім жа быў А.Луцкевіч? Як прадставіць яго для гісторыі? Некаторыя прадстаўляюць яго як палітыка. Палітыкам ён якраз не быў і не мог быць па свайму бескампрамісоваму характару, па сваёй ідэйнасці і даверлівасці. Такія людзі палітыкі рабіць не могуць. Іншыя бачаць у ім марксіста. А ў сапраўднасці Антон Луцкевіч быў шчырым беларусам. А шчыры беларус не можа быць нікім іншым, як толькі шчырым беларусам.

Кім жа ячшэ мог быць чалавек, у якога было столькі пачуцця да ўсяго, што звязана з беларушчынай, які так выхоўваў моладзь.

Ён быў адным з тых першых, якія вучылі народ шанаваць сваю мову, традыцыі сваіх продкаў, шанаваць самаго сябе. Якія марылі аб тым, каб народ надняўся і пачуў у сябе сілу, як той купалаўскі Лявон.

У гэтым заслуга Антона Луцкевіча і з гэтым ён войдзе ў нашу гісторыю.

[1979?]

*Архіў укладальніка. Машынакопія (атрымана ад Лявона Луцкевіча. Вільня, 1980 г.)*

*Іллары Барашка*

# Сьцяпан Булат
(да пятай гадавіны яго сьмерці 1921—1926)

Уступ

Комуністычная Партыя (бальшавікоў) Беларусі і Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі на працягу рэволюцыйнае барацьбы страцілі з сваіх шэрагаў адданых таварышоў-барацьбітоў за рабоча-сялянскую Савецкую Беларусь. Шмат загінула ў часе грамадзянскае вайны, у часе вайны з белапалякамі, шмат загінула ў часе нямецкай і польскай окупацыі — у падпольлі. Але шмат загінула ўжо пасьля перамогі, у часе будаўніцтва маладой Рэспублікі Саветаў, ад тэй пераўтомленасьці, якую вынесьлі гэтыя таварышы з часу барацьбы.

Да ліку страт, якія панесла Комуністычная Партыя Беларусі ўжо пасьля перамогі, у часе будаўніцтва маладой Беларусі, адносіцца і сьмерць аднаго з шчырых змагароў — спачатку беднага селяніна, потым настаўніка-беларуса, потым адданага паўстанца, урэшце, адказнага сакратара Цэнтральнага Бюро Комуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі — таварыша Сьцяпана Булата.

Сабраны мною, часткай па неапублікаваных дакумантах, часткай па тагачаснай пэрыодычнай прэсе, часткай па асабістых успамінах, матэрыял не прэтэндуе на паўнату. Аднак, ён у большай-меншай ступені можа даць чытачу ўяўленьне аб жыцьці, працы і думках тав. Сьцяпана Булата, і можа быць у будучыне выкарыстаны, як сыры матэрыял у гісторыка-біографічны слоўнік рэвалюцыйных дзеячоў Савецкай Беларусі.

Жыцьцёвы рэйс тав. Булата

С. Булат радзіўся ў 1894 г. ў в. Слабадзе-Пырашавай Чэрвеньскага раёну. Маемасьць яго бацькі сумесна з братамі складалася з 3-4 дзесяцін зямлі. Дзіцячыя гады прайшлі ў самых цяжкіх умовах. Часта галодны і напоўадзеты т. Булат лётаў у народнае вучылішча за 3-4 вярсты ад маёнтку, дзе працаваў яго бацька. Скончыўшы вучылішча, працаваў фізычна побач з бацькам, адначасова чытаў кніжкі, марачы стаць настаўнікам. Потым вучыўся на курсах школьных працаўнікоў. Скончыўшы курсы, т. Булат настаўнічае ў в. Докшыцы (Меншчына), у 1914 г. паступае ў Менскі Настаўніцкі Інстытут, дзе вучыцца да 14 жніўня 1915 г., калі яго мобілізуюць у армію, і ён там служа радавым салдатам да 22 лістапада 1916 г., затым паступае ў Віленскае ваеннае вучылішча і канчае яго ў 1917 г. ў чыне прапаршчыка.

Скончылася вайна, т. Булат зноў зьвяртаецца з арміі ў Інстытут.

У часе белапольскай акупацыі т. Булат уваходзіць у падпольную "Беларускую комуністычную організацыю", якая працавала пад кіраўніцтвам компартыі, дзе зьяўляецца адказным членам Цэнтральнага Камітэту. У падпольлі т. Булат бязупынна працуе па вызваленьні працоўных Беларусі ад белапольскага прыгнечаньня, зарабляючы на існаваньне праз настаўніцтва ў беларускай школе ў Менску. Па даручэньні Цэнтральнага Камітэту т. Булат становіцца членам Паўстанцкага Камітэту. З прыходам Савецкай улады ў Менск, т. Булат у той час, калі па вуліцам Менску ішла рэшта адступаючых белапалякаў, ён першы прымае ўдзел у організацыі ўлады ў Менску. Сумесна з таварышамі ён разьмяшчае прыбыўшыя Чырвонаармейскія часьці.

Пасьля некалькіх тыдняў Савецкай улады ў Менску, калі "Беларуская комуністычная організацыя" ўліваецца ў комуністычную партыю Беларусі, т. Булат назначаецца Загадчыкам Політычнага Аддзелу Наркамасьветы. Але праз некаторы час Цэнтральнае Бюро Компартыі Беларусі адклікае яго для загадваньня аддзелам па працы ў вёсцы. Закладваецца саюз працаўнікоў асьветы Беларусі, т. Булат абіраецца членам кіраўніцтва саюзу. Цэнтральнае Бюро Компартыі Беларусі назначае яго адказным рэдактарам газэты "Савецкая Беларусь", дзе ён працуе бязупынна да кастрычніка м-ца. Пачынаецца кастрычнікаўская окупацыя.

Па даручэньні Цэнтральнага Бюро т. Булат назначаецца начальнікам па эвакуацыі савецкіх установ г. Менску на вузьле Заходніх чыгунак.

Пакідае ён Менск з апошнім адыходзячым цягнікам. Як вядома, окупацыя цягнулася ўсяго адзін дзень. Па звароце ён пачынае зноў працу па лініі Наркамасьветы. Працуе з раніцы да позьняй ночы то ў Наркамасьвеце, то ў рэдакцыі, то ў Аддзеле па працы ў вёсцы.

У сьнежні 1920 г. т. Булат абіраецца сялянамі на павятовы зьезд саветаў, затым і членам Менскага Павятовага Выканкаму і адначасова дэлегатам на 2 Усебеларускі Зьезд Саветаў.

У тым-жа годзе на гарадзкіх выбарах т. Булат абіраецца членам Менскага Гарадзкога Савету.

15 студзеня 1921 г. адчыняецца сялянская газэта "Белорусская Деревня", і т. Булат, зьяўляючыся організатарам, прызначаецца адказным рэдактарам выданьня.

У лютым 1921 г. т. Булат абіраецца на партыйную конфэрэнцыю Беларусі, дзе абіраецца ў члены Цэнтральнага Бюро Комуністычнай Партыі Беларусі, а праз некаторы час — адказным сакратаром Цэнтральнага Бюро і Загадчыкам Аддзелу Агітацыі і Пропаганды: аднак, дзякуючы старай хронічнай хваробе (васпаленьне сярэдняга правага вуха з разбурэньнем косьці), якую ён за адсутнасьцю сродкаў ня мог вылечыць, і яна пусьціла глыбокія карэньні, да працы ня здолеў прыступіць і 24 мая 1921 г. быў накіраваны ў Маскву для опэрацыі. Будучы ў Маскве, т. Булат не пакідае

працы, — арганізуе беларускае студэнцтва, сярод якога працуе да апошніх дзён.

Булат ня вытрымаў опэрацыі. Ён памёр у клініцы проф. Сьцяпанава 24 ліпня 1921 г. а 10 гадзіне ўвечары. Цела было перавезена ў Менск, дзе і пахавана на Старажоўскім могільніку.

II

Партрэт т. Булата як барацьбіта за Савецкую Беларусь (цытаты з розных артыкулаў Сьцяпана Булата)

"Як ні цяжка жывецца, але трэба самім узяцца за паляпшэньне жыцьця. Годзе енку і жальбы. Пара ўзяцца за працу. Змучаны, гаротны народ чакае нас" (Сав. Бел. №77 за 23-II-20 г.)

"Цярплівасьць і вытрываласьць надалей, Памалу, крок за крокам, але праўда і цьвёрда будзем совацца наперад. Без асьляпленьня, а з халоднай крывёю будзем глядзець на зарніцу нашай будучыны" (Сав. Бел. №76 за 21-II-20 г.).

"Будзем прымаць актыўны ўдзел у адбудове свайго краю, будзем пільна глядзець на ўсё, што робіцца вакол нас. Аб'яднаўшыся ў свае моцныя пролетарскія організацыі , стаўшы актыўнымі, мы ў хуткім часе пабачым карысьць незалежнай, ад паноў і ўсіх ім спачуваючых, Беларусі, незалежнасьць не на словах толькі, але і на справе" (Сав. Бел. 3-II-20 г.).

"Ад прыроды ў беларуса заложана многа моцы і трываласьці. Толькі трэба часу, каб ён раскалыхнуўся. А як зварухнецца беларус да працы -тады для яго пустое ўсе перашкоды. Ён упарта і цьвёрда пойдзе па выбранай і зразумелай дарозе" (Сав. Бел. №59 ад 12-II-20 г.).

"Дык будзем-жа гатовымі. Хай свабодны народ Беларусі пакажа ўсім сваім ворагам — паном і капіталістым, што бяз іх ён не загіне" (Сав. Бел. №58 ад 31-X-20 г.).

"Беларуская мова і культура перажылі многа зьдзекаў, як з боку польскіх паноў, так і з боку многіх расійскіх чыноўнікаў-бюракратаў царскае пары. Соцыяльная рэволюцыя ў Расіі разьбіла путы, якімі моцна былі зьвязаны "малыя народы" ў "адзіную і непадзельную вотчыну" (Сав. Бел. №56).

III

Апошнія словы з Масквы

У Беларускім Дзяржаўным Музэі захаваліся тры лісты т. Булата да Ўс. Марк. Ігнатоўскага, у якіх ён яскрава малюе сваё жыцьцё ў Маскве, працу, імкненьні, і выказвае свае думкі аб Беларусі. Падаем найбольш цікавыя выняткі з іх.

З першага лісту
(даты няма)
"... З 25 траўня я ў Маскве. Цяжкая праца, якая ўзвалілася на мае плечы ў апошнія часы, бяссонныя ночы зусім выбілі мяне з сіл. Старая, хранічная хвароба (васпаленьне сярэдняга правага вуха з разбурэньнем косьці) стала адчувацца мацней, і як ні хацелася, але прышлося кідаць усю працу і ехаць у Маскву шукаць здароўя".
"... Вельмі прыхільна аднёсься да мяне Сямашка. Дзякуючы яму, я папаў у клініку проф. Сьцяпанава. Але вось ізноў бяда. Клініка хутка зачыняецца, і што прыдзецца рабіць — сам ня ведаю. Проф. сказаў, што трэба рабіць сур'ёзную і небясьпечную опэрацыю, пасьля якой прыдзецца праляжаць ня менш 2-х месяцаў...
Для мяне чуць такія рэчы няпрыемна, асабліва ў такі момант, які зараз перажывае Беларусь. Беларуская справа ўжо зышла з таго мёртвага пункту, на якім яна знаходзілася такі доўгі час. Зьявілася магчымасьць вялікай і адказнай працы. Працы ў мясцовым сэнсе. Вось зараз мы маем у Менску друкарню Грынблята, якая згодна з пастановаю сакратарыяту ЦБ павінна быць расшырана і друкаваць толькі беларускія кніжкі. Далей, пры Беларуск. аддзеле Кампросу з'арганізавалася экспэдыцыя, зацьверджаная Саўнаркомам, якая ставіць сваёй мэтай вывучэньне і разьвіцьцё беларускай народнай творчасьці. Беларуская мова часьцей адчуваецца і на вуліцах і ў дзяржаўных установах. З усіх канцоў Савецкай фэдэрацыі ідуць запатрабаваньні на беларускія кніжкі, газэты. У вапошнія часы ў зьвязку з тыднем чырвонага аратая, днём 1 мая мне прышлося разьяжджаць па вёсках. І вось там я бачыў, як зацікаўлен сам народ у сваім родным, бачыў, як моладзь організована каля клюбаў прагне йграць беларускія п'есы. Адным словам, грунт для працы ёсьць і вельмі добры"...

З другога лісту
(Ад 11 чэрвеня 1921 г.)
"...Мне здаецца, што ў сучасны момант на Беларусі ёсьць і грунт для працы, і ёсьць працаўнікі. У Маскве на нашы патугі, паставіць як можна лепш беларускую працу, не глядзяць варожа. Я падаў т. Яраслаўскаму ад імя ЦБ дакладную запіску, у якой ЦБ прасіла мобілізаваць комуністых-беларусаў і зьвярнуць усіх беларусаў, якія хутка канчаюць комуністычны унівэрсытэт. Апрача гэтага, пачаў проект цыркулярнага пісьма губкомам Гомельшчыны, Віцебшчыны і Смаленшчыны, у якім забараняюцца ўсякія варожыя адносіны па тэрыторыі гэтых губэрань да беларускай працы. Шкада толькі, што Яраслаўскі выехаў на некаторы час на Урал, нашых папер другія ня могуць знайсьці ў ЦК. Прыдзецца чакаць яго звароту. Ня ведаю, як зараз, але ў часы майго жыцьця на Беларусі ўся наша беларуская "публіка" была вельмі інэртнай і цяжкой на пад'ём да працы. Усе ўсё адмахіваліся рукамі ад працы, калі потым паміж сабою гутарылі: глядзеце, шкодзяць

працы, няма ніякай магчымасьці працаваць. Мне здаецца, што ўся магчымасьць ёсьць, толькі трэба, як мага хутчэй, выкалціць з мазгоў нашых хлапцоў мяшчанства і шкадлівую надзею на другіх, што нехта нешта зробіць. І вось дзеля гэтага я лічыў-бы патрэбным узяць гэту "публіку" моцна ў рукі, тады-б праца пашла шпарчэй і была-б пэўная карысьць. А я, як відаць па ўсяму, ня хутка зьвярнуся на Беларусь, хоць гэтага звароту, як мага хутчэйшага, мне вельмі і вельмі жадаецца. Праклятая хвароба вывела мяне з строю і якраз у той час, калі-б можна было працаваць у другіх варунках..."

"...Крапіўся колькі мог, але зусім выбіўся з сіл і вось апынуўся ў Маскве; ня ведаю толькі, ці зьверне мне Масква мае сілы, маё здароўе"...

З трэцяга лісту

(Ад 21 чэрвеня 1921 г.)

"...А я ўсё ў Маскве. Паміж мною і Беларусьсю лягла вялікая кітайская сьцяна, якая разваліцца толькі тады, калі мне будзе зроблена і калі я перажыву опэрацыю. Часу многа пройдзе, пройдзе дарэмна, без усялякай карысьці. А як-бы хацелася папрацаваць на Беларусі! Адзін час у пачатку гэтага месяцу, калі мы рыхтаваліся да агульнага сходу ўсіх студэнтаў-беларусаў Масквы, было і ў Маскве добра. Але сход адбыўся, студэнты ў большасьці сваёй разьехаліся па сваіх хатах і працы ніякай няма. Маркотна, іншы раз усьцішна становіцца, але нічога ня зробіш, трэба цярпець, пакуль ёсьць крыху сілы"...

Надзвычайна яскрава адбіў свой настрой т. Булат у лісьце, цытату зь якога прывёў у сваім артыкуле тав. Асташонак ("Белорусская Деревня" 33-1921 г.):

"Гадоў 20 таму назад, за год да майго паступленьня ў народнае вучылішча была эпідэмія скарлятыны, і я захварэў. Хвароба прыняла абвостраную форму. Доўга жыцьцё змагалася са сьмерцю і ўсё-ткі перамагло. Я паправіўся, але застаўся глухім. З правага вуха пачало цячы, гэта-ж ня спынілася і да гэтага часу. Мае дзіцячыя і юнацкія гады прашлі ў страшэннай беднасьці, у ўпартай барацьбе за навуку. Ня было сродкаў, ня было часу лячыцца, калі хвароба не пасьпела яшчэ пусьціць глыбокіх карэньняў.

А цяпер, калі для мяне зьявіліся магчымасьці працаваць і працаваць, я не здолен да працы. Перамагаючы ўсе пакуты, дацягнуў я да опэрацыйнага стала. Будучына зацягнена цёмнай заслонай і няма чаго імкнуцца зірнуць у яе. Будзь што будзе"...

IV

<...> Ня стала тав. Булата ў шэрагах беларускага працоўнага люду.

Уся сярмяжная Беларусь і авангард працоўных – комуністычная партыя згубілі аднаго з адданых працаўнікоў-барацьбітоў.

Беларускі працоўны Менск апрануўся 28 ліпеня ў чырвона-чорную жалобу.

А беларускі народны поэта Янка Купала калыханку сумную, мінорную над магілкай прапяяў:

Задрамаў ты з доляй, з хваляй,
Жвір халодны прыгаруніў...
Ой, скасіла ня спытала!..
- Сьні, таварыш, аб Комуне!

*Маладняк, №13, 1926 г.*

***Віталь Скалабан***

# “Незабыўнае дзесяцігоддзе” Панцеляймона Панамарэнкі (1938—1948 гг.)

## Погляд архівіста

Сярод кіраўнікоў Савецкай Беларусі сваё асаблівае месца займае Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка (1902–1984). Ён прыехаў у Мінск летам 1938 г. на пасаду першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі і ў 1948 г. выехаў у Маскву «на павышэнне». Гэта дзесяцігоддзе ва ўспамінах Панамарэнкі, старонкі з якіх надрукаваў ў «Нёмане» у 1992 г. філосаф Ф.Т.Канстанцінаў (месца захоўвання арыгінала невядома), названа «незабыўным часам»[1]. Менавіта Панамарэнка стаў «збіральнікам» беларускіх зямель, «далучыў» у 1939 г. Заходнюю Беларусь, пераканаў Сталіна ў тым, што Палессе з Брэстам і Пінскам павінна быць у БССР. Пазней, паводле яго ўспамінаў, адстаяў перад Палітбюро ЦК ВКП(б) Полацк у межах Беларусі[2]. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён узначальваў Цэнтральны штаб партызанскага руху, у вызваленай Беларусі шмат зрабіў для аднаўлення гаспадаркі і культуры рэспублікі. Пасляваенны план забудовы Мінска рыхтаваўся архітэктарамі па прапановам і пад наглядам Панамарэнкі. У сучасным Мінску пра яго напамінаюць і праспект Незалежнасці, і мемарыяльная дошка на знакамітым 2-м Доме Саветаў, і вуліца яго імя.

Але ёсць і іншая памяць. Адно з першых сваіх выступленняў, што адбылося 8 ліпеня 1938 г. у Гомелі, ён прысвяціў задачы “выкарчоўванню ворагаў”. Вядома яго шыфроўка І.В.Сталіну з просьбай павялічыць колькасць рэпрэсаваных для БССР па першай катэгорыі

---

[1] Пономаренко П. К. События моей жизни. Публикация, подготовка текста Ф.Т. Константинова // Нёман. 1992. № 3. С. 150—177; № 4. С. 132—158.

[2] Пытанне патрабуе далейшага вывучэння. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь сярод матэрыялаў асобага сектара ЦК КП(б)Б за 1944—1945 гг. зберагаецца недатаваная даведка аб нацыянальным складзе насельніцтва паўночных раёнаў Віцебскай вобласці паводле дадзеных перапісу 1939 г. і дадзенымі абследавання 1924 г. і перапіса 1926 г. па Полацкай акрузе (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 29. Спр. 6. Л. 51). Верагодна, гэты дакумент з’явіўся ў сувязі з барацьбой П.К. Панамарэнкі супраць праекта далучэння Полацка да РСФСР.

(расстрэл) на 2 тысячы, а па другой (турма або лагер) – на тры тысячы[3]. Ён дзейнічае тымі ж самымі метадамі і прыёмамі, што і яго папярэднікі. Яму ўдаецца выйграць супрацьстаянне з наркомам НКУС БССР Наседкіным, які да мая 1938 г. з'яўляўся начальнікам УНКУС па Смаленскай вобласці.

У Маскве, на Кутузаўскім праспекце, недалёка ад яго дома, дзе жыла партыйная эліта – Брэжнеў, Андропаў, Панамарэнка, пастаўлены (але афіцыйнага адкрыцця не было) помнік Янку Купалу. Існуе легенда, што калі Панамарэнка ў канцы 1938 г. дакладваў Сталіну пра настойлівую прапанову НКУС аб арышце Купалы і Коласа, то Сталін адказаў: «Замяніце ардэра на ардэна». Ці не запусціў легенду аб "ардэрах і ардэнах" сам Панамарэнка, спрабуючы ў "адлігу" засцерагчы сябе ад небяспекі? Іван Шамякін у сваіх «Начных успамінах» аб «Панцеляймонавым кіно» падводзіць да такой думкі. Пра трагічную гібель Купалы 28 чэрвеня 1942 г. Панамарэнка дакладваў Сталіну, што паэт сарваўся з «высаты дзевятага паверха гасцініцы "Масква" паміж лесвіцамі». Хавалі Купалу з удзелам Панамарэнкі. Але іншых сведчанняў Панамарэнкі пра трагічны палёт беларускага песняра не выяўлена. Недаступна і следчая справа, якая вялася ваеннай пракуратурай Масквы і, верагодна, 1-м аддзелам НКУС СССР.

Даследчыкі шырока выкарыстоўваюць не аднойчы друкаваную гутарку гісторыка Г.А.Куманева з Панамарэнкам[4], таксама дзённік Панамарэнкі за 1939–1943 гг.[5] і запісы размоў 1983 г. К.Т. Мазурова з Панамарэнкам[6]. Усе гэтыя тэксты змяшчаюць багаты матэрыял для аналіза, шэраг фактаў і ацэнак адрозніваюцца, асобныя сюжэты не паўтараюцца, а падаюцца толькі ў адным з варыянтаў.

Іншы раз сцвярждаюць, што Панамарэнка быў любімцам і магчымым пераемнікам Сталіна[7]. Захавалася вялікая колькасць дакладных і аналітычных запісак П.К.Панамарэнкі на імя Сталіна, шэраг з іх ўжо надрукаваны, але крыніцазнаўчы аналіз не праводзіўся. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь зберагаюцца машынапісныя адбіткі такіх дакументаў, а таксама шэраг рукапісных чарнавікоў, у тым ліку першыя варыянты запіскі 1943 г. «О поведении поляков и некоторых наших

---

[3] Великий А. Пономаренко: штрихи к портрету // Советская Белоруссия. 2002. 21 декабря.

[4] Куманев Г.А. Рядом со Сталиным. Смоленск, 2001. С. 125—169.

[5] Пономаренко П. Дневник. Предисловие, публикация и комментарий В. Невежина, В. Селеменева, В. Скалабана // Нёман. 2008. № 7. С. 169—178; № 8. С. С. 173—183.

[6] Кирилл Мазуров – Пантелеймон Пономаренко. Беседы 1983 года. Публикация и комментарии В. Селеменева, В. Скалабана //Нёман. 2009. № 7. С. 143—148.

[7] Миронин С. Сталинский порядок. М., 2007. С. 240.

задачах», што захоўваецца ў Архіве Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі і Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычная гісторыі (гл. публікацыі А.Ф. Насковай[8]).

Прывядзем вытрымку з ліста П.К.Панамарэнкі І.В. Сталіну за 25 верасня 1939 г., у якім паведамлялася пра становішча ў Заходняй Беларусі: «Повсеместно организованы крестьянские комитеты, приступившие к разделу помещичьей земли. Многих осадников и помещиков крестьяне истребляют (вешают, расстреливают, убивают) или приводят и сдают Временным управлениям»[9]. Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі нясе асабістую адказнасць за рэпрэсіі, за тэрор супраць насельніцтва сваёй краіны. Сведчанняў гэтаму шмат. Адно з іх – гісторыя з сям'ёй сакратара Мінскага падпольнага гаркома партыі Кавалёва[10].

Значнай увагі патрабуюць стэнаграмы выступленняў П.К.Панамарэнкі, патрэбен асобны аналіз яго рукапісных правак. Гісторык і архівіст Міхаіл Шумейка надрукаваў вытрымкі з выступлення П.К.Панамарэнкі на VI Пленуме ЦК ЛКСМБ 29 сакавіка 1945 г. Сярод іншых сюжэтаў Панамарэнка спыніўся і на крытыцы акадэміка Пічэты, які быццам бы хацеў «повернуть историю вспять», у выніку «после таких выводов Пичету немного поддержали в тюрьме, а потом его выпустили»[11].

Цікавасць выклікае рэзалюцыя П.К. Панамарэнкі на дакладной запісцы наркома ўнутраных спраў Л. Цанавы ад 29 снежня 1940 г. пра арышт святара праваслаўнай царквы г. Клецка. У запісцы дакладвалася, што святар перад яго адпраўкай у турму «был подвергнут санобработке, в результате чего ему остригли голову и бороду». Рэзалюцыя Панамарэнкі гучала так: «Тов. Тур [секретарь Барановичского обкома КП(б)Б]. Что это за дураки, которые попов стричь начали? Неужели до сих пор не ясно, что к служителям культа надо проявлять осторожность, особенно в местах, где много верующих. Без нужды и особой санкции не репрессировать»[12].

Асобная тэма – Панамарэнка-гісторык. Прычым аналіза патрабуюць не толькі яго надрукаваныя працы, але і перапіска, рэцэнзіі, выступленні на

---

[8] Носкова А.Ф. Сталин и Армия Крайова (К формированию позиции советского руководства) // Российские и славянские исследования. Выпуск III. Минск, 2008. С. 318—319.

[9] Назаўсёды разам. Мн., 1999. С. 172.

[10] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 29. Спр. 23. Л. 4. Інфармацыя В.Д. Селяменева.

[11] Шумейко М.Ф. Пичета и власть (источниковедческий аспект) // Проблемы славяноведения. Сборник научных статей и материалов. Вып. 6. Брянск, 2004. С. 210.

[12] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 21. Спр. 2081. Л. 270.

розных нарадах. Так, 19 красавіка 1974 г. адбылася нарада супрацоўнікаў Галоўнай рэдакцыі БелСЭ і Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З Масквы прыехаў Панамарэнка. Фрагменты стэнаграмы захаваліся і надрукаваны[13].

Значны матэрыял для даследчыкаў можа даць даведнік па асабістых архівах Панамарэнкі, што зберагаюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі і Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Фонд № 625 РДАСПГ налічвае 108 спраў за 1946—1981 гг. Гэта лісты на імя П.К. Панамарэнка, дакладныя запіскі, копіі данясенняў, падрыхтоўчыя матэрыялы (рукапісы, выпіскі з друкаванных выданняў) па гісторыі партызанскага руху. Дакументы пасля смерці П.К. Панамарэнкі паступілі ў ЦК КПСС, зберагаліся спачатку ў Цэнтральным партыйным архіве Інстытута марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС, цяпер – у РДАСПГ. Фактычна справы не перепрацоўваліся архівістамі і зберагаюцца ў тым выглядзе, у якім яны знаходзіліся ў П.К. Панамарэнкі і паступілі ў ЦК КПСС. Таму большасць спраў – аб'ёмныя, некаторыя нават налічваюць звыш 1000 аркушаў.

Фонд № 1466 Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь налічвае 71 справу за 1930—1950, 1981—1982 гг. Справы на захоўванне ў архіў паступілі ў ліпені 2000 г. ад унучкі П.К.Панамарэнкі Святланы Валер'еўны Панамарэнкі. Сярод дакументаў – фотаздымкі, даклады, выступленні, артыкулы, рукапісы манаграфій, кніг, даведнікаў П.К.Панамарэнкі, дакументы, сабранныя ім па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Заходняй Беларусі і інш. Справы па аб'ёму значна больш сціплыя за справы ў РДАСПГ, за рэдкім выключэннем не перавышаюць 100 аркушаў, асобныя – да 10 аркушаў.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музее літаратуры і мастацтва таксама зберагаюцца дакументы П.К.Панамарэнкі – фонд № 39, аднак фонд яшчэ не апрацаваны.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я.Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук зберагаецца значная частка асабістай бібліятэкі П.К.Панамарэнкі. Гэта кнігі, рэдкія перыядычныя выданні часоў Вялікай Айчыннай вайны, лістоўкі і інш.

У Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі зберагаюцца кнігі з бібліятэкі Панамарэнкі. Шмат з іх, у асноўным беларускія выданні, папалі да Панамарэнкі ў пасляваенны час, калі быў арыштаваны яе

[13] Селяменеў В., Скалабан В., Календа Л. Пятрусь Броўка – энцыклапедыст. Да гісторыі Беларускай Энцыклапедыі. 1966—1980 гг. // Імя Пятруся Броўкі Беларуская Энцыклапедыя. Мн., 2005. С. 94—102.

уладальнік Кастусь Езавітаў, вядомы палітычны дзеяч Беларусі[14]. Кнігі з бібліятэкі П.К.Панамарэнкі трапілі таксама ў іншыя дзяржаўныя бібліятэкі і прыватныя зборы.

У Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны і Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі таксама захоўваюцца некаторыя экспанаты, звязаныя з жыццем і дзейнасцю П.К.Панамарэнкі..

Падрыхтоўчая праца па стварэнню архіўна-бібліятэчна-музейнага даведніка пра асабістыя зборы П.К.Панамарэнкі ўжо вядзецца.

---

[14] Каўка А. Па сьлядох бібліятэкі Кастуся Езавітава // Каўка А. Будам жыць! Пра тое самае. Менск—Масква, 1998. С. 57—66; Кавко А.К. Книги и судьбы. Белорусская коллекция П.К.Пономаренко, К.Б. Езовитова в фондах "Исторички" // Нёман. 1999. № 5. С. 208—216; Его ж. Белорусская коллекция П.К. Пономаренко, К.Б. Езовитова в фондах "Исторички" // Библиотека личная – библиотека общественная: материалы конференции. М., 2001. С. 25—34.

Нераўнадушша да кніжнай беларусікі, як мяркаваў блізкі да Панамарэнкі Ф. Канстанцінаў, дыктавалася яго намерам – нездзейсненым – напісаць гісторыю Беларусі *(Заўвага ўклад.)*.

*Алесь Петрашкевіч*

# П.М.Машэраў: "Цяпер я ведаю..."

Пра гэтага неардынарнага чалавека напісана нямала, але вобраз яго, як мне здаецца, яшчэ не раскрыты, не створаны. Ужытыя фарбы для абмалёўкі партрэта не вызначаюцца шырынёй спектра. Перад намі пакуль што манументальная фігура дзеяча, гэтакая постаць рыцара без страху і папроку. Можа, менавіта таму афіцыйная прапаганда і падае яго як прыклад для пераймання «подрастающему поколению». На прыкладзе яго жыцця сапраўды ёсць чаму павучыцца, але ў першую чаргу дзядзькам дарослым, якія ўжо самі з вусамі. Мяне ж асабіста П.М.Машэраў цікавіць не як бронзавы манумент, узведзены людской фантазіяй, а як чалавек, як асоба, якому дала жыццё звычайная жанчына-сялянка.

І бацька ў яго быў селянін, але крыху незвычайны. Вылучаўся на вёсцы нейкай сваёй адметнасцю. Было ў яго нешта ад інтэлігента. Можа, большая адукаванасць, чым у іншых мужыкоў. Можа, прыродны розум, натуральная павага да людзей. Але як бы там ні было, а аднавяскоўцы з Міронам здароўкаліся першымі і, калі з некім трэба было параіцца па якой важнай справе, то ішлі да яго. Так і казалі: Мірон Машэра ўсё ведае. З прозвішчам я не памыліўся. Бацька Пятра Машэрава насіў афіцыйнае прозвішча Машэра. У 30-я гады, калі бурылі храмы і грамілі рэлігію, ён заступіўся за мясцовага святара. Уладам гэтага хапіла, каб пазбавіць яго волі і самога жыцця.

Лёс мой склаўся так, што меў я магчымасць больш за 20 гадоў назіраць за Пятром Міронавічам, пры тым гадоў 5 з іх не здалёку, а зблізу, пры дзелавых сустрэчах па разу, а здаралася і болей на тыдзень. Пагадзіцеся, што я маю пэўнае права на свой погляд. Многія іншыя, хто быў намнога бліжэй да Першага і, безумоўна, ведаюць пра яго больш, але сказаць па нейкай прычыне не хочуць, а хутчэй за ўсё не могуць, не ўмеюць. А таму мо і лепш, калі змоўчаць. Я ж з лепшых намераў і пабуджэнняў выключна па ўласнаму жа-данню распавяду пра тое, якім я яго бачыў, якім ведаю, якім ён мне запомніўся праз асабістыя сустрэчы, гутаркі, стасункі па службе, падгледжаныя асаблівасці і дэталі характару, паводзін і іншае, што, спадзяюся, і дабавіць нешта істотнае да стэрэатыпнага ўяўлення большасці маіх суайчыннікаў пра свайго былога лідэра. Ад слова «кумір» я тут свядома ўстрымаўся, бо яно не лепшае азначэнне для разумнага чалавека і ў слоўніку расшыфроўваецца як бажаство, ідал, балван (беларускі варыянт). «Не сотвори себе кумира!» — папярэджвае, як вядома, Свяшчэннае Пісанне на ўсе часы чалавечай гісторыі ...

Раней чым узяцца за сціло, каб адзначыць нешта ў пісьмёнах, задаў я сам сабе шэраг пытанняў і сам паспрабаваў адказаць, на якія змог:

— Пётр Машэраў — нацыянальны герой?

— Безумоўна!
— Яго зрабіла героем прапаганда?
— Ён яшчэ і сам здолеў сябе сцвердзіць героем.
— Адукаваны, інтэлігентны чалавек?
— Святая праўда. А то адкуль бы тая павага людская?
— Добры сем'янін? Любячы муж і бацька?
— А чаму б і не? І не роўня іншым ...
— Узор дзяржаўнага дзеяча?
— Так, але для свайго часу, калі ўсе вялікія начальнікі ўяўляліся ўзорамі.
— Сумленны і справядлівы грамадзянін?
— Роўна пастолькі, наколькі дазвалялі абставіны і час.
— Адкрыты чалавек?
— Роўна настолькі, наколькі лічыў гэта патрэбным.
— Добры дыпламат? — Дыпламат выдатны.
— Здольны артыст?
— Артыст таленавіты.
— Быў летуценнікам? Рамантыкам?
— І прагматыкам таксама.
— Паслухмяны перад тымі, хто быў над ім?
— З болем у душы, з пакутаю, але паслухмяны.
— Ці быў наіўны?
— Быў, бо верыў, што яго ідэі, дырэктывы, даручэнні выконваюцца.
— Верны сын сацыялістычнай эпохі?
—Так. І вельмі падобны да іншых кіраўнікоў свайто рангу, толькі больш здатны і разумны.
— Кіраўнік, які не памыляўся?
— Памыляўся, і па вялікім рахунку, але меў сілу, калі не прызнаць гэта прынародна, то ўсвядоміць.
— Каяўся ў грахах?
— Не ведаю.
— У жыцці лавіраваў?
— Наколькі было неабходна, а больш дакладна, наколькі былі магчымасці.
— Ці мог аддаць на закланне маскоўскім апрычнікам невінаватага чалавека?
— Мог, калі абараніць ужо не спадзяваўся ці пабойваўся, хоць і герой.
— Ці хаваў бы ад людзей катастрафічныя паследкі Чарнобыля? Ці адмовіўся б ад гуманітарнай дапамогі дзяржаў свету на наша пагарэлае?
— Думаю, што і не хаваў бы, і не адмовіўся б. А можа, і зрабіў бы, як загадалі, хто ведае?
— Ці пераконваў бы цёмных і недасведчаных заставацца ў «зоне» ці вяртацца ў яе?

— Выселіў бы ўсіх, нават пад прымусам, і зрабіў бы іх лёс сваім клопатам. Зону закрыў бы неперасягальнай заслонай. Радыяцыйны кантроль зрабіў бы законам, бо быў чалавекам адукаваным, дасведчаным.

— Ці жадаў сваім суайчнннікам шчасця?

— Жадаў, але даць не змог, у чым сам пераканаўся.

— Ці меў расчараванні ў сваіх дзеях?

— Меў, ды яшчэ якія.

— Калі б быў жывы, як бы сябе паводзіў падчас "перабудовы"?

— Прыкладна так, як паводзілі сябе яго сябры Гейдар Аліеў і Эдуард Шэварднадзэ, але аўтарытэтам карыстаўся б большым, чым названыя дзеячы. А можа, і пайшоў бы за Бразаўскасам. Шляхі такіх людзей неспавядзімы, а Масква яго добра-такі дапякла.

— Ці палез бы ў расійскі хамут, які яму дастаткова набіў плечы і намуляў шыю?

— Гістарычны шанс вызвалення ад каланіяльнай залежнасці выкарыстаў бы напаўніцу. А можа, кажу так, шта мне гэтага хацелася б... Хоць незалежнасць была ў яго характары.

— Ці меў пачуццё ґумару?

— Меў, і высокае. Да тага ж, быў насмешлівы і нават саркастычны, але ў межах прыстойнасці і інтэлігентнасці.

— Ці быў шчаслівы?

— Такія людзі шчаслівымі, бадай што, не бываюць. Наколькі мне здаецца, Пётр Міронавіч Машэраў — фігура наколькі неардынарная, настолькі і трагічная, нават без той трагедыі, якая літаральна напаткала яго на крутой жыццёвай дарозе.

Адказаўшы ці не адказаўшы на самапытанні, усумніўся я, што не нарабіў памылак, і выпрашыў праверыцца на чалавеку, які быў не каля, а пры П.М.Машэраве, і намнога даўжэй за мяне. Дык вось, таварыш К. з большасцю маіх адказаў на мае ж пытанні пагадзіўся, на паасобныя не адрэагаваў, а з тым, што Пётр Міронавіч лавіраваў, не быў шчаслівы і не даў шчасця сваім суайчыннікам, катэгарычна не пагадзіўся. У пытанні: ці палез бы ён сення ў расійскі хамут, які яму «набіў плечы і намуляў шыю», мой суразмоўца ўбачыў не столькі машэраўскі адмоўны адказ, колькі маё жаданне і адразу ж папярэдзіў:

— Не трэба з Пятра Міронавіча рабіць апазіцыянера савецкай уладзе. Ён быў сам ва ўладзе, ён быў сам уладаю. Ён быў яе ўвасабленнем. Думаю, што ён хацеў яе больш. Відаць, не мог змірыцца і з тым, што самай высокай уладаю ў звышдзяржаве валодае нікчэмнасць.

<... >

— Тады пытанне: як бы ён павёў сябе сёння, хоць я і разумею, што гісторыя не мае «сослагательного наклонення».

— Мяркую, калі б не яго трагічная смерць, то ў пэўных варунках ён мог бы падняцца, як вы кажаце, над нямоглым Палітбюро. Для гэтага ў яго

былі ўсе падставы і даволі высокі аўтарытэт у краіне. Мог дапамагчы і збег абставінаў. Мог жа з'езд партыі абраць Генсекам Гарбачова. Пры той раскладцы сіл у Палітбюро на месцы Гарбачова мог бы апынуцца і Машэраў... Калі б Машэраў узначаліў КПСС, гэта мела б сусветна-гістарычнае значэнне. СССР не стаў бы развалінай. Краіна Саветаў засталася б вялікай дзяржавай. Машэраў — гэта не Сакалоў з Малафеевым разам узятыя... Машэраў пайшоў бы на крутыя рэформы. У яго хапіла б розуму і волі, каб утрымаць сітуацыю...

<...>

Шчаслівым Першы сакратар ЦК КПБ П.М.Машэраў быў пад той час, калі атрымаў ад цэнтра велізарныя, як тады здавалася, грошы на так званае «преобразование Полесья», а дакладней, на яго асушэнне. Злосным і раздражнёным ён быў, калі невялічкая група пісьменнікаў і навукоўцаў выступіла супраць загубы краю. Ён не мог зразумець, як гэта адукаваныя, інтэлігентныя творцы не могуць зразумець і прыняць таго шчасця, якое ён нясе людзям спрадвеку забітага Палесся, якое вякамі гніе ў балоце. Ён быў сканфужаным, абураным і гнеўным на псеўданавуку і вучоных-меліяратараў, калі праз некалькі гадоў зразумеў, што загубіў цэлы край, нанёсшы яго прыродзе непапраўную шкоду, не атрымаўшы таго эфекту, на які разлічваў. А разбуранай апынулася не толькі прырода, але і спрадвечны ўклад жыцця палешукоў, іх традыцыйная культура, іх мараль.

<...>

Другім яго расчараваннем і скрухаю быў крах яго ж ідэі суцэльнай і хуткай так званай перабудовы сяла ў маштабах усёй рэспублікі. Але Савецкая імперыя на такія дробязі не магла траціцца. Былі ў яе і больш грандыззныя затратныя планы ў космасе, на Месяцы, на Кубе, на Блізкім і Далёкім Усходзе, у Афрыцы і Бог ведае дзе яшчэ. Асігнаванні цэнтра (у параўнанні з тым, што з рэспублікі выпампоўвалася) на грандыёзную па маштабу перабудову сялянскага быту і сельскагаспадарчай вытворчасці былі такімі мізэрнымі, што будаўніцтва некалькіх, адзінкавых, узорнапаказальных цэнтральных сядзіб калгасаў і саўгасаў, накшталт тых жа Верцялішак ці Новага быту, зацягнулася на дзесяцігоддзі.

<...>

У адной бяседзе Машэраў пашкадаваў, што быў летуценнікам, рамантыкам, калі паспадзяваўся, што саюзная ўлада дасць сродкі на кардынальную перабудову сяла і яго гаспадаркі. Пра сродкі, якія гэта ўлада вымагала і выпампоўвала з Беларусі, змоўчыў, хоць, як мне здаецца, не падумаць пра гэта не мог. Логіка падказвала...

...Можна паспачуваць чалавеку, які без злых намераў загубіў не толькі Палессе, выклікаўшы экалагічную катастрофу, але і прынёс іншую вялікую шкоду свайму народу, за які ў свой час ішоў на смерць і здолеў стаць нацыянальным героем. Між іншым, ён быў не староннім сведкам, як вялікая

саўковая імперыя рабіла яго народ няшчасным, бедным, забітым, адурманеным і дэнацыяналізаваным. Але не будзем абвінавачваць яго асабіста ці толькі яго аднаго. Такі быў час, а ён быў з'яваю свайго часу. Ён служыў свайму часу, Служылі і тыя, на каго ён абапіраўся. Верылі ў прыгожую камуністычную казку.

Можа, хто іншы чуў ад П.М.Машэрава словы раскаяння ў тым, што менавіта ў яго гады праўлення ў сталіцы рэспублікі былі знішчаны апошнія беларускія школы. Я гэтага не чуў. <... > Пры ім пад яго наглядам амаль усе газеты былі пераведзены на мову суседа, а тыражы беларускіх кніг утрымліваліся ў пэўным, мізэрным працэнце ад тыражоў кніг на рускай мове. Падтрымлівалася ў асноўным толькі культура народна-лапцюжная, этнаграфічная. Што-што, а гэта ўжо мне вядома. Бадай што Пётр Міронавіч, пры ўсёй яго адукаванасці і інтэлігентнасці, падзяляў ідэю зліцця ўсіх моваў у адну вялікую і магутную, а культуру будучага бачыў у выглядзе нейкага кангламерату культур, што спачатку ўзбагачаюць адна адну, а потым і зусім зліваюцца ў нешта адно яркае і грандыёзнае. А можа, і ён бачыў у гэтым толькі вялікі абсурд і чакаў часу, калі ў Палітбюро і ўсёй звышдзяржаве пройдзе ачмурэнне. А можа, і спадзяваўся на нешта іншае, больш радыкальнае. Але калі яго даклад, прысвечаны 60-годдзю БССР і КПБ «Па шляху сацыялізму і камунізму ў адзінай сям'і народаў СССР» не лічыць кан'юнктурным, то ні на што такое неардынарнае ён не спадзяваўся. Жыў і думаў, як усе мы, грэшныя і замбіраваныя саўковай ідэалогіяй.

І ў той жа час ёсць у мяне сумневы на гэты конт. І глядзеў ён крыху далей за іншых. Неяк у адной гутарцы, звязанай з праблемай культуры нацыянальнай і культуры наогул, Пётр Міронавіч сказаў:

— Калі я пачуў словы Мікіты Сяргеевіча пра тое, што для поўнага шчасця народа трэба сала і каўбаса, то зразумеў, што гэта канец усяму. І захацелася кінуць усё к чортавай мацеры і сысці некуды, каб і не чуць і не бачыць... А на каго кінеш? І хто пасля цябе прыйдзе. І як падыме, і наогул, ці падыме тое, што ты кінуў…

Часам мяне здзіўляла і бянтэжыла такая яго адкрытасць і шчырасць. Потым я знайшоў гэтаму сваё тлумачэнне.

Вельмі цікава было назіраць за П.М.Машэравым на пасяджэннях бюро ЦК. На розных з'ездах, пленумах, партыйна-савецкіх актывах і нарадах ён быў вельмі афіцыйны, строгі, нават недаступны. А на пасяджэннях бюро, як бы мовіць, у вузкім коле сутаварышаў і паплечнікаў, станавіўся сам сабою, хоць талент свой акцерскі эксплуатаваў напоўніцу. Сярод сваіх ярка праяўляліся яго гумар, дабрыня, насмешлівасць і нават з'едлівасць, а часам і жорсткасць, калі таго вымагала сітуацыя. Першы ён і быў Першым. Жорсткім, помслівым і па-сапраўднаму злым я яго не бачыў, за выключэннем аднаго разу, але пра гэта ніжэй.

<...>

... Выпадак, калі Пётр Міронавіч прыйшоў у ярасць, здарыўся пры разглядзе надзвычайнай сітуацыі, звязанай з масавымі пажарамі на Палессі. Міністэрства ўнутраных спраў хавала інфармацыю пра гэта. Маўчалі абласныя і раённыя начальнікі. Выявілася ўсё вельмі нечакана, калі Пётр Міронавіч парушыў свой маршрут і верталёт завітаў на Палессе. Ён быў літаральна шакіраваны разгулам вогненнай стыхіі. Гарэлі лясы, палі, тарфянікі, сенажаці і ўсё іншае, што магло гарэць.

... Пры ім і з яго згоды вандалы зруйнавалі старую Нямігу — адзіную гістарычную суцэльную забудову, што ацалела ад войнаў. Ніхто не палічыўся з тым, што ў час нямецка-фашысцкай акупацыі тут было яўрэйскае гета, што менавіта адсюль пайшлі на смерць да знакамітай «ямы» дзесяткі тысяч людзей. Разбурана была і старэйшая сінагога Мінска. Цяпер на яе друзе стаіць вышынная будыніна, што прыціснула сваёй масіўнасцю два праваслаўныя і адзін каталіцкі храмы. Адзін з іх дадушыў ужо ў апошнія гады архітэктурны "помнік", на якім сёння красуецца шыльда «Империя».

А што ж Няміга? А нічога людскага. Была вуліцаю, а стала пустэчаю...

<... >

Даступнасць, дэмакратызм, разважлівасць Пятра Міронавіча дазваляла многім вырашаць з ім самыя складаныя пытанні і праблемы. Але ж не з кожным пытаннем і праблемай можна было дабегчы да яго. І тым не менш, заняты вышэй галавы, ён не закрываў свае дзверы наглуха. Наадварот, іншы раз здавалася, што ён рады твайму прыходу. Можа, гэтак здавалася ад яго выхаванасці і інтэлігентнасці, а можа, і не толькі ад гэтага. Неяк аднойчы, калі я зайшоў з нейкім пытаннем ці за парадаю, ён апярэдзіў мяне і з ціхім сумам сказаў:

— Толькі што пазваніў Грышын, член Палітбюро, і папрасіў... вельмі настойліва папрасіў, каб я прыслаў яму пад Новы год дзевяць тысяч малочных, распатрошаных парасятак, — і змоўк, а потым, — І самае гнюснае ў тым, што я пашлю яму гэтых парасятак, — і больш ні слова пра тую просьбу, а толькі да мяне: — Што ў цябе?..

Гадоў праз пятнаццаць пасля гэтага былы памочнік другога сакратара ЦК КПБ ад сябе расказаў пра тых загубленых парасятак, якіх вядома ж, адправілі ў Маскву пад нейкае свята. А я сёння думаю, чаму Пётр Міронавіч сказаў мне пра тых парасятак, і што ў яго было на душы ў той час? Якія яшчэ словы не зляцелі з вуснаў? Бо не толькі я ведаў пра гаспадарлівасць, беражлівасць, нарэшце, пачуццё ўласнай годнасці гэтага чалавека, якое было нахабна абражана высокапастаўленым, магутным хамам.

Парасяткі — гэта толькі дробны прыклад маскоўскага нахабства. А што да сапраўднага эканамічнага рабаўніцтва, то яно ўзмацнялася з года ў год. Прапітай метраполіі трэба было нечым закусваць... Масква патрабавала ўсе большых і большых паставак мяса, масла, каўбас, вяндліны, садавіны,

агародніны, грыбоў, ягад і іншых прысмакаў. На поўную моц дзень і ноч працавалі заводы і фабрыкі Беларусі, каб узброіць і адзець Савецкую Армію, якая к таму часу ўжо ўляпалася ў вайну з Афганістанам і аказвала «інтэрнацыянальную дапамогу» цэлым кантынентам.

Патрабаванні ад беларускага ўлуса былі пастаяннымі, настойлівымі, нахабнымі, а часам і гранічна цынічнымі — туды пасылаліся не парасяткі, а нашы хлопцы.

Такіх званкоў ад самых розных хамаў ён, напэўна ж, атрымліваў нямала. Метраполія была там. У нас была падмандатная тэрыторыя. Яго тонкая натура не магла гага не адчуваць. Адчувала, здаецца мне, і пакутавала, пазбаўленая якіх бы там ні было перспектыў на іншае абыходжанне.

Напрыканцы 70-х усё часцей і часцей можна было заўважыць кепскі настрой, самотнасць і нейкую пастаянную прыгнечанасць Пятра Міронавіча. Ён стаў хутчэй стамляцца ад уласных выступленняў нават на бюро і невялікіх нарадах, не кажучы ўжо пра доўгія афіцыйныя даклады... Прычына была не столькі ў здароўі – мужнасць яго не пакідала, — колькі ў маральным тэрору з боку «добразычліўцаў» з Палітбюро. Хадзілі чуткі, што яго пабойваецца, а таму і не любіць састарэлы Генсек. Не выключана, што гэтыя чуткі нараджаліся і ў асяроддзі Палітбюро, дзе кожны старац у перспектыве бачыў сябе Генеральным сакратаром, «выдающимся деятелем современности», «настоящим ленинцем»...

< ... >

Цвярозасць, розум і годнасць П.М.Машэрава была, бадай што, асноўнай прычынай таго, што яго так і не выпусцілі з кандыдатаў у члены Палітбюро, хоць ён узначальваў 600-тысячную партыйную арганізацыю і 10-мільённую рэспубліку. Тут, трэба думаць, і прычына таго, што ён апошнім з кіраўнікоў саюзных рэспублік атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы, хоць Беларусь – займала одно з першых месц у развіцці эканомікі і навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Як дзёрзкі выклік палітыцы партыі і ўрада была ўспрынята членамі Палітбюро катэгарычная нязгода кандыдата ў члены Палітбюро П.М.Машэрава з іх рашэннем на афганскую авантуру, а дакладней, агрэсіўную вайну супраць народа сумежнай краіны. З таго пасяджэння Палітбюро ён вярнуўся літаральна скрышаным, раздушаным, некалькі дзён не мог апамятацца. Брату Паўлу Міронавічу ў роспачы толькі і сказаў:

— Што яны нарабілі?! Яны нават самі не разумеюць, што адбылося! Усё рашылі 2-3 чалавекі. Астатніх нават не спыталі...

Цяпер ужо вядома, што кожная паездка ў Белакаменную была для Пятра Міронавіча пакутаю. Не прадуманая, а ў шэрагу выпадкаў абсурдная палітыка краіны, якая з-за гонкі ўзбраенняў, халоднай і гарачай вайны, развалу сельскай гаспадаркі, таталітарнага ўціску зверху да нізу фактычна спыніла яе развіццё і паставіла на край усеагульнага крызісу, катастрофы. Ці

не адсюль душэўны надлом чалавека, які ўсё гэта бачыў і разумеў, але штонебудзь змяніць ці перайначыць не мог.

<...>

Будучы чалавекам добрага гарту, ён быў строгім і рашучым у дачыненні да сваіх кадраў. І калі некага цярпеў ці вымушаны быў цярпець, то і пра свой, як цяпер кажуць, імідж клапаціўся. А рэйтынг быў вельмі высокім не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне. Менавіта на яго дыскрэдытацыю і была зроблена стаўка, калі Палітбюро накіравала Пятра Міронавіча на перамовы да Фідэля Кастра. Адносіны з Кубай к таму часу былі настолькі сапсаваныя, а паводзіны Палітбюро у адносінах да «свабоднай тэрыторі Амерыкі» былі настолькі непаслядоўнымі і неразумнымі, што Вялікі бунтар стагоддзя нікога не прымаў і нікога не хацеў бачыць з Саюза ССР.

Стаўка была бяспройгрышнай. Калі дружалюбныя адносіны з Кубай Саюзу ССР удасца аднавіць, то тым лепш будзе Саюзу. А калі місія Машэрава праваліцца, то яму і будзе горш. Па прыездзе на востраў Свабоды сітуацыя складвалася не на карысць сустрэчы з Фідэлем. Ніякія захады не давалі плёну. Ён адмаўляўся сустракацца з кім бы то ні было з савецкіх. І толькі за лічаныя мінуты да ад'езду П.М.Машэрава дамоў партызан і нацыянальны герой Кубы Фідэль Кастра пагадзіўся сустрэцца з партызанам і нацыянальным героем Беларусі Пятром Машэравым. На сустрэчу было адведзена паўтары гадзіны. Прагаварылі партызаны больш за чатыры. Было не толькі з бляскам выканана безнадзейнае даручэнне Палітбюро, але і засведчана пабрацімства партызан-герояў Пятра і Фідэля. У гэтым пераканалася ўся краіна, калі Кастра Рус нанёс афіцыйны візіт у Беларусь.

Для душы нашага героя гэта была маральная перамога. На нейкі час яна аддаляла непазбежную расправу над «умником».

Уціск, залежнасць, падножкі, якія нярэдка межавалі з правакацыямі, рэгламентацыя дзеянняў ад нечага важнага да дробязяў нервавала, непакоіла і злавала першую асобу ў рэспубліцы, якая не магла ступіць кроку, не ўзгадніўшы яго з так званым Цэнтрам і яго чынавенствам.

<... >

А як магла адчуваць сябе Першая асоба ў непарушным саюзе рэспублік «свободных», пазбаўленая элементарнай свабоды як у маральным плане, так і ў элементарных дзеяннях, пастаўленая ў ганебную залежнасць ад крамлёўскіх “небожителей”, пазбаўленая хоць якой-небудзь самастойнай дзейнасці і ўласнага волевыяўлення ў невымерна вялікім таталітарным калгасе пад назвай СССР. Яшчэ адзін красамоўны факт.

У гонар 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Пётр Міронавіч рашыў зрабіць ветэранам вайны падарунак і тым самым выказаць прыязнасць да абаронцаў Айчыны і сваёй уладай адмяніў для іх аплату за праезд у гарадскім транспарце. Гэты фактычна сімвалічны, а не фінансавы акт не наносіў ніякіх страт Саюзу ССР і яго эканамічнай

устойлівасці, бо білет на трамвай каштаваў 3 капейкі, а на тралейбус — 4. А якое абурэнне выклікаў у Белакаменнай. Як пасмеў?! Хто даў права самастойна прымаць такія «сепаратысцкія» рашэнні, праяўляць такую нечуваную самастойнасць?! І пакарысталіся былыя франтавікі і партызаны падарункам толькі некалькі дзён — пакуль Масква выхоўвала Мінск у паслухмянасці, пакоры і прыніжэнні.

<... >

П.М.Машэраў разбіраўся і ў прозе, і ў паэзіі, і ў оперы, і ў балеце, і ў жывапісе. Ён не жаліўся, як гэта робяць яго «спадкаемцы», на занятасць дзяржаўнымі справамі. Многа чытаў, праглядаў усе фільмы нашай кінастудыі, не прапускаў цікавыя спектаклі, наведваў усе больш-менш значныя выставы, шчыра радаваўся удачам творчых людзей.

<... >

Дарэчы, пра асобную ахову Пятра Міронавіча. На той час мы не ведалі такіх паняццяў, як спецназ, АМАП, асобы міліцэйскі батальон, мабільная брыгада МУС, міліцэйскі шчыт, шлем, бронежылет для ахоўніка і ахоўваемага. Усё гэта шчасце разам з трэніраванымі на людзей ваўкадавамі прыйдзе пазней. Нічога пералічанага, акрамя палкоўніка Сазонкіна — абаяльнага і добразычлівага чалавека — пры Пятру Міронавічу не было, калі не лічыць напарніка-зменшчыка Сазонкіна і міліцэйскага паста ў пад'ездзе дома, дзе жыла сям'я Першага сакратара ЦК КПБ і кандадата ў члены Палітбюро ЦК КПСС. Тут ужо хочаш ці не хочаш, а будзеш цярпець ахову. Тут ужо была інструкцыя і парадак па інструкцыі. Тым не менш ён вельмі часта не браў ахоўніка ні ў машыну, ні ў верталёт, з якога не вылазіў вясну, лета і восень…

<... >

Наогул жа, Пётр Міронавіч не любіў кінатэлевізійнага суправаджэння. І можа, таму, што ведаў і бачыў, як яго калегі па Палітбюро пунктуальна вядуць свой уласны кіналетапіс…

На вялікі жаль, звычайных, натурных, па-чалавечы цёплых кінакадраў пра Пятра Міронавіча засталося нямнога. А сюжэты былі непаўторныя і па форме, і па зместу і ляжалі, як кажуць, на паверхні…

… Аднойчы я папытаў у Пятра Міронавіча дазволу «паздымаць,» на кінакамеру юбілейную ўрачыстасць, калі сябры-паплечнікі і саслужыўцы прыйдуць у яго кабінет, каб павіншаваць з шасцідзесяцігоддзем. Адказ быў катэгарычны: не! І толькі калі да яго зайшлі загадчыкі аддзелаў ЦК, а ў кабінеце было ўжо даволі многа кветак, юбіляр, звяртаючыся да мяне, сказаў у добрым настроі:

— Калі ўсё гэта хараство, усю гэту прыгажосць я перавязу ў Дразды і зраблю добрую экспазіцыю на прыступках, прышлі свайго аператара, няхай здыме. Кветкі яны і ёсць кветкі і, нажаль, жывуць нядоўга...

— А пры іх — вы з сям'ёю, з унучкамі...

— Не,— адказаў, нібы шкадуючы, а я адчуў, што трэба адчапіцца.

Кветкі, якія і адцвітаюць, і вянуць, былі зазняты. Толькі кветкі... Пройдзе

больш за 19 гадоў, і я даведаюся, чаму Пётр Міронавіч не захацеў здымацца з сям'ёю на фоне кветак. Даведаюся, што, прагледзеўшы кінастужку, на якой былі зазняты кветкі, ён скажа: «Цяпер я ведаю, як мяне будуць хаваць...».

А пад юбілей і доўга пасля яго людзі будуць здзіўляцца і рабіць здагадкі, чаму гэта такому важнаму, высокаму і заслужанаму юбіляру зорка Героя Сацыялістычнай Працы не была ўручана своечасова, як гэта рабілася са звычайнымі старшынямі калгасаў, дырэктарамі саўгасаў ды свінаркамі з даяркамі.

Чарга з уручэннем узнагароды да нашага героя дойдзе не скора. I якраз гэты час — ад узнагароды да ўручэння — будзе запоўнены рознымі чуткамі, здагадкамі і плёткамі. А падчас самога акта ўручэння Залатых зорак гораду-герою Мінску і асабіста Пятру Міронавічу (уручэнне рабілася паасобку) давядзецца яму перажыць горкі дзень і брыдкія гадзіны…

Пётр Міронавіч чакаў сваю ўзнагароду даволі доўга. Бачыце, Генсек гадамі быў настолькі заняты, што не мог траціць свайго дарагога часу на такую дробязь, як уручэнне Зорак гораду-герою і лідэру нацыі беларусаў. I каню, як кажуць, было зразумела, што справа не ў занятасці яго вялікасці, а ў тым, што нацыянальнаму герою хацелі паказаць і паказалі сваё месца «под луною», якая можа крыху падсвятліць, але ніколі не сагрэе.

<... >

…Са словамі ўдзячнасці, як і прадугледжвалася сцэнарыем, за гістарычны візіт «верного ленинца» і «выдающегося деятеля», а таксама за асабістае ўручэнне высокай узнагароды наш двойчы Герой па крамлеўскай традыцыі выступаў па паперцы. I, вядома ж, не таму, што не мог без яе абысціся, а толькі з тае прычыны, што не мог прынізіць «их императорское величество», якое не здольна ўжо было сказаць ні па паперцы, ні без паперкі. Прамова ўдзячнасці па ўстаноўленых правілах павінна была пералічыць усе званні і абойму неверагодных эпітэтаў у гонар тытулаванай найвышэйшай асобы і таму аказалася не толькі трафарэтнай, але і даволі прытарнай ад залішняй патэтыкі і патакі.

— Я обещаю вам, дорогой Леонид Ильич, что и дальше буду отдавать

все свои силы...— сказаў Пётр Міронавіч, адарваўшыся ад тэксту, але фразу не скончыў.

— Что ты клянёшься… посмотрим... время покажет, — перапыніў яго Брэжнеў.

Ці то прысутныя не расшалопалі сэнс сказанага, ці то прынялі словы цара за ўдалы, свойскі жарт, бо зала страсянулася ад іх бурных апладысментаў...

<...>

Маральны тэрор з першапрастольнай актывізаваўся і ўзрос. І асабліва пасля таго, як Пётр Міронавіч прыняў дэлегацыю сенатараў кангрэса ЗША. Кіраўнік той дэлегацыі, дарэчы, наш зямляк са Слоніма, вярнуўшыся ў Вашынгтон, у адказе карэспандэнту на пытанне, хто можа быць пераемнікам састарэлага Брэжнева, нібы адказаў, што ў Палітбюро ўсе архістарыя. Ёсць, маўляў, там толькі адзін адукаваны, інтэлігентны і яшчэ не стары Пётр Машэраў з правінцыі.

<...>

...У той трагічны дзень 4 кастрычніка 1980 года ён апрануў святочны касцюм, узяў з сабой дыпламат, які некуды знік пасля катастрофы...

«Цяпер я ведаю, як мяне будуць хаваць»,— скажа ён адразу пасля свайго юбілею. Што гэта? У шэсцьдзесят гадоў чалавек прадчувае смерць? Рыхтуецца да яе? Ведае, як яго прыгожа-юбілейна будуць хаваць? Бачыць сябе мёртвым?

... Хавалі героя прыгожа, але дзіўна. Для сотняў тысяч людзей толькі ў сталіцы гэта была трагедыя, і яны настаялі на тым, каб час доступу да труны нябожчыка быў падоўжаны. Для начальства, ды даруе мне Бог,— гэта было мерапрыемства. І начальства было ў трывозе: хто заменіць Машэрава?..

Дзіўна і тое, што з Палітбюро і наогул з ЦК КПСС у адрас сям'і нябожчыка не паступіла ні аднаго тэлефоннага званка, ні адной спачувальнай тэлеграмы. Чаму там забылі на элементарную прыстойнасць, пра якую ўжо тысячагоддзі ведае звычайны homo sapiens? А можа, не забылі, а кіраваліся нечым іншым, а не прыстойнасцю? Тады чаму і чым кіраваліся? Што хацелі сказаць нялюдскім маўчаннем?

Дзіўна і тое, што кіраўнік рэспублікі, лідар нацыі гіне раніцай 4 кастрычніка, а народу пра гэта паведамляецца толькі 6 кастрычніка, хоць той жа народ ведае гэта з замежнага радыё менавіта 4 кастрычніка...

Дзіўна і тое, што Палітбюро забараняе выезд на пахаванне кандыдата ў члены Палітбюро ўсім першым сакратарам кампартый саюзных рэспублік, і тыя паслухмяна пагаджаюцца з такой грахоўнай забаронай... Адзін сусед, Першы сакратар кампартыі Літвы П.П.Грышкявічус, скажа: “Я пахаваю друга, а тады няхай са мною робяць, што хочуць!” — і прыедзе ў Мінск...

<...>

Пасля пахавання «пламенного коммуниста, известного деятеля Коммунистической партии и Советского государства... партийная принципиальность и человечность, личное обаяние и скромность» якога «снискала ему» і гэтак далей пры поўнай інфармацыйнай блакадзе імя нашага героя знікне з ужытку так званымі СМІ і не будзе ўпамінацца гадоў дзесяць.

Чаму? З якое прычыны? Пахавалі ж яго не за агароджай могілак...

Было такое ўражанне, што наступнікі яго тут, у «Северо-Западном крае России», баяцца ценю свайго папярэдніка як чорт ладану, у той самы час калі звычайныя людзі абкладваюць яго магілу тысячамі вялікодных яек...

Як некалі пісаў Францыск Скарына, «тайна сія над розумам маім...».

...Пётр Міронавіч дужа любіў слова «паісціне». Мне і хочацца скончыць гэты сумны аповед словамі: паісціне неспавядзімы шляхі твае, Госпадзі... Драмагургічная ж логіка паказвае, што ў гібелі П.М.Машэрава не ўсё можна ўспрымаць адназначна. Але гэта ўжо іншы сюжэт. І іншая, між іншым, версія гібелі...

*Петрашкевіч А. Крыніцы і каламуць. Мінск: "Медысант", 2008*

*Зянон Пазьняк*

# Нацыянальная сьведамасьць

Узровень жыцьця людзей як супольнасьці залежны ад дачыненьняў паміж асобаю (асобным чалавекам) і грамадзтвам. Дачыненьні паміж асобаю і грамадзтвам вымяраюцца супольнай сьведамасьцю.

Гістарычна чалавечая супольнасьць асэнсавала і прайшла праз розныя віды сьведамасьці й захавала яе рэлікты. Напачатку была сьведамасьць, дадзеная прыродай — усьведамленьне віду (людзі — і ўсё астатняе). Потым — родава-племянная. Затым, з разьвіцьцём цывілізацыйнага працэсу (ён пачаўся тады, калі людзі сталі жыць асела і працаваць на зямлі), узьнікае этнічная (тутэйшая) сьведамасьць. Супольны інтарэс і адзінства вымяраліся ў гэты час па тэрыторыі, па звычаях (культуры) і па мове.

Наступны этап — народная сьведамасьць. Яна зьвязаная са стварэньнем дзяржавы й дзяржаўнага віду ўлады. Супольнае адзінства і дачыненьні людзей асэнсоўваліся на ўзроўні забясьпечаньня агульных сацыяльна-культурных інтарэсаў.

У XVIII-XIX стагодзьдзях цывілізацыйны працэс прывёў да зьяўленьня нацыянальнай сьведамасьці, калі супольнасьць гуртуецца на аснове нацыянальнае ідэі, якая ўбірае ў сябе ўсе ранейшыя дасягненьні этнічнага духу, абагульняе інтарэсы й выступае ў якасьці нацыянальнай ідэалёгіі. Рэалізацыяй нацыянальнай сьведамасьці ёсьць вольная нацыянальная дзяржава, якая забясьпечвае ўсебаковае існаваньне і разьвіцьцё нацыі й кожнага асобнага чалавека. Гэта стан сьведамасьці, у якім знаходзіцца зараз цывілізаваны сьвет.

Нацыянальная сьведамасьць мае тую асаблівасьць, што зьяўляецца прыярытэтнай перад сацыяльнай сьведамасьцю і перад усімі астатнімі. Менавіта гэтая асаблівасьць забясьпечвае моц і існаваньне нацыянальнай дзяржавы й уласна самой нацыянальнай сьведамасьці, бо зьяўляецца яе найгалоўнейшаю рысаю.

На практыцы гэта выглядае так, што кожны грамадзянін нацыі ўсьведамляе агульны інтэрас нацыі як свой асабісты, ён разумее лучнасьць інтарэсаў і абараняе іх.

У чалавека ненацыянальнай сьведамасьці (альбо дэнацыяналізаванага) асабісты інтарэс і інтарэс агульнанацыянальны (грамадзкі, дзяржаўны) існуюць як бы незалежна. Такі чалавек дбае толькі пра свой інтарэс і, часта бывае, насуперак агульным інтарэсам нацыі.

Людзі нацыянальнай сьведамасьці заўсёды аддаюць перавагу агульнанацыянальным каштоўнасьцям перад сацыяльнымі, палітычнымі, канфэсыйнымі, групавымі, эканамічнымі і г.д. Гэтая асаблівасьць нацыянальнай сьведамасьці трымае ў моцы й у адзінстве і такую,

напрыклад, маналітную нацыянальна зьяднаную краіну, як Польшча, і поліэтнічную эміграцыйную Амэрыку. Нацыянальная сьведамасьць грамадзтва дае магчымасьць бязь цяжкасьцяў праводзіць узгодненую, агульнанацыянальную ўнутраную і зьнешнюю палітыку, вырашаць шэраг грамадзкіх задачаў.

Напрыклад, ні ў польскіх кансэрватараў, ні ў сацыялістаў, ні ў былых камуністаў не ўзьнікае думкі дыскутаваць пра незалежнасьць Польшчы ці пра дзяржаўнасьць польскае мовы, ці пра неабходнасьць польскай школы, ці аб прызнаньні нацыянальнага гербу ці сьцягу і г. д. Нацыянальная сьведамасьць стварае каштоўнасьці, бясспрэчна агульныя для ўсяго грамадзтва. Есьць агульнанацыянальная неабходнасьць быць Польшчы ў НАТО — і ўсе польскія партыі праводзяць узгодненую палітыку, незалежна ад перамены ўлады, зьмены ўраду і г. д.

Тое-ж самае — у ЗША. Нацыянальныя інтарэсы, нацыянальная ідэя, амэрыканскія каштоўнасьці — вышэйшыя за ўсе ўнутраныя, расавыя, сацыяльныя, канфэсыйныя і іншыя інтарэсы, і нават канфлікты. Любімае выслоўе амэрыканскіх прэзыдэнтаў: "Думайце не пра тое, што Амэрыка зрабіла для вас, а што вы зрабілі для Амэрыкі".

Грамадзтва, якое ёсьць на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці, дзе існуе нацыянальны прыярытэт у паводзінах асобы, такое грамадзтва можа самаіснаваць, яно самадастатковае, яно здольнае на самакіраваньне і можа абысьціся без улады, устаноўленай зьверху ці звонку (абсалютызм, манархія, насьледнае каралеўства, дыктатура, імпэрыя, каляніяльнае праўленьне і г.д.).

Грамадзтва на ўзроўні нацыянальнай сьведамасьці выклікае новы тып улады — дэмакратыю, стварае нацыянальную дэмакратычную дзяржаву. Гэта натуральны стан нацыянальнай дзяржавы, якая іманэнтна (унутрана) імкнецца да дэмакратыі. Усялякія адхіленьні ад дэмакратыі (дыктатура, аўтарытарызм, аўтаркія і г.д.) асэнсоўваюцца як неадпаведныя, і нацыянальнае грамадзтва імкнецца да аднаўленьня дэмакратычнай раўнавагі.

* * *

Нацыянальная сьведамасьць фармавалася ў змаганьні з імпэрыяй і імпэрскай ідэалёгіяй. Імпэрская сьведамасьць заўсёды выяўляла інтарэсы групы ўлады, была таталітарнай ідэалёгіяй і, як правіла, абапіралася на нейкі адзінанародны ўніфікацыйны прынцып, накінуты зьверху ці звонку.

Імпэрыя — гэта прынцып дзяржаўнай арганізацыі ўлады, які ўзьнік і мог існаваць на ўзроўні народнай сьведамасьці. Разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці народаў прывяло да распаду імпэрыяў.

Аднак распад імпэрскага абсалютызму не заўсёды прыводзіў да поўнай ліквідацыі імпэрыі. Імпэрская ідэалёгія (адзіны ўніфікацыйны прынцып улады) аказвалася жывучай, калі перапляталася з нацыянальнымі інтарэсамі.

Гэта прыводзіла да новых формаў таталітарызму, да ўнутраных і зьнешніх канфліктаў, станавілася прычынаю войнаў.

Эўрапейскія нацыі й эўрапейскае нацыянальнае думаньне перажылі дзьве вялікія нацыянальныя рэвалюцыі ("вёсны народаў"). Першую — у сярэдзіне XIX-га стагодзьдзя (1848-1849-я гады), якая была задушаная імпэрыямі, і другую — у першай чвэрці XX-га стагодзьдзя, якая завершылася перамогаю нацыяў і абнаўленьнем мапы Эўропы (пасьля І-й Сусьветнай вайны), крахам эўрапейскіх і сусьветных імпэрыяў (акрамя Расеі).

Заўважым, што тыя народы, якія стварылі ў той час нацыянальныя дзяржавы, дамагліся незалежнасьці й прайшлі потым перыяд нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі (гэта, у сярэднім, 20-25 гадоў — адно пакаленьне), тыя народы поўнасьцю ўключыліся ў сыстэму эўрапейскай дэмакратычнай цывілізацыі й забясьпечылі незваротнасьць нацыянальнага працэсу існаваньня.

Тыя нацыі, якія потым неўзабаве згубілі дзяржаўную незалежнасьць і апынуліся ў таталітарнай імпэрыі — бальшавіцкай Расеі, страцілі гістарычны час, не прайшлі абавязковага пэрыяду нацыянальна-дзяржаўнай стабілізацыі і, што страшна, — сталі аб'ектам генацыду і нацыянальнага выніШчэньня. Нацыянальна-псыхалягічнае і ідэйна-нацыянальнае разьвіцьцё іх было затарможанае.

Найбольш пацярпелі ў гэтым сэнсе беларусы й украінцы. Вынішчалася, перш за ўсё, нацыянальная сьведамасьць і яе актыўныя носьбіты. За некалькі пакаленьняў перажытага расейска-бальшавіцкага таталітарызму і масавага зьнішчэньня ідэйна-нацыянальная самаідэнтыфікацыя грамадзтва гэтых краінаў (асабліва Беларусі) была адкінутая на рэліктавы ўзровень этнічна-тутэйшай сьведамасьці. Але самае страшнае тое, што за няпоўнае стагодзьдзе гвалту, хлусьні й фальшывых дачыненьняў адбылася масавая люмпэнізацыя сьведамасьці вялікай колькасьці людзей. Менавіта распаўсюджанасьць люмпэнізаванай ("савецкай") сьведамасьці стала адным з галоўных чыньнікаў выбраньня Лукашэнкі на прэзыдэнта Беларусі.

* * *

Аднак сітуацыя, у якой апынулася беларускае грамадзтва ў выніку 73-х гадоў расейска-бальшавіцкай акупацыйнай палітыкі, у прынцыпе падлягала выпраўленьню пасьля дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці. Нацыя магла адрадзіць і дзяржаву, і культуру, і стабілізаваць нацыянальнае грамадзтва. Дзеля гэтага трэба было разьвівацца паскорана ў спрыяльных умовах, і перш за ўсё — аднавіць нацыянальную эліту, беларускую школу і нацыянальную сыстэму адукацыі, накіраваныя на разьвіцьцё нацыянальных інтэлектуальных магчымасьцяў і фармаваньне беларускай нацыянальнай сьведамасьці.

У 1994-м годзе, пасьля выбраньня Лукашэнкі прэзыдэнтам і ўсталяваньня прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі, магчымасьці нацыянальнага Адраджэньня і стабілізацыі, практычна, зьведзеныя да мінімуму (і прадаўжаюць зьмяншацца).

Беларусь зараз перажывае адну з самых небясьпечных калізіяў сваёй гісторыі (прытым значная частка грамадзтва таго не ўсьведамляе), калі вырашаецца лёс далейшага існаваньня Беларускай нацыі.

Тым ня менш, пры наяўнасьці моцнай нацыянальнай эліты, нацыянальнай ідэі й нацыянальнага руху, супадзеньне розных пратэстных чыньнікаў (якое паступова нарастае) магло-б прывесьці да выпраўленьня становішча.

* * *

Падсумоўваючы сказанае, зьвяртаю ўвагу на істотныя акалічнасьці. Пасьля распаду СССР Беларусь мела лепшыя эканамічныя, сацыяльна-матэрыяльныя і навукова-тэхнічныя перспэктывы незалежнага разьвіцьця, чым іншыя краіны-суседзі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе. Але ў параўнаньні зь імі, у Беларусі была моцна дэфармаваная нацыянальная сьведамасьць насельніцтва. Нават адукаваныя савецкія беларусы, людзі інтэлектуальнай працы, у большасьці, не разумелі й не арыентаваліся ў прасьцейшых пытаньнях нацыянальна-культурнага існаваньня (якія ў іх, да таго-ж, не былі прыярытэтнымі).

Такое грамадзтва не магло эфэктыўна супрацьстаяць антыбеларускай палітыцы й хутка страціла свае перавагі. І нават незалежнасьць дзяржавы апынулася пад пагрозаю.

У той-жа час суседзі, будучы больш нацыянальна салідарызаванымі, пайшлі наперад у сваім нацыянальна-дзяржаўным разьвіцьці й знаходзяцца ўжо на парозе Эўропы. Вырашальным чыньнікам стала нацыянальная сьведамасьць грамадзтва.

Зьвяртаю ўвагу таксама, па якіх накірунках вядзецца сучасная вайна супраць Беларусі. Першая антыбеларуская акцыя рэжыму — зьнішчэньне нацыянальных сымбаляў. Потым — ліквідацыя дзяржаўнай функцыі беларускай мовы, ліквідацыя беларускай школы, адукацыі й асьветы на беларускай мове, кантроль над інфармацыяй і перавод яе на чужую мову, разбурэньне беларускага мастацтва і літаратуры, разбурэньне беларускай фундамэнтальнай навукі, стварэньне ўмоваў для маральнай дэградацыі насельніцтва (адкрыцьцё ў Беларусь чужой разбуральнай інфармацыйнай прасторы, чужога разбуральнага тэлебачаньня, запрашэньне антымастацкіх гастрольных групаў, цэнавая стымуляцыя п'янства, дыскрымінацыя і нецярпімасьць да беларушчыны ў сыстэме дзяржаўных установаў і г.д.).

Дэнацыяналізаваная бюракратыя і частка насельніцтва лёгка паддаюцца такой ненармальнай палітыцы, часам нават не здагадваючыся, што існуюць у сытуацыі абсурду. Калі сказаць коратка, то ўся стратэгія

антыбеларускіх дзеяньняў і ўся сыстэма разбурэньня накіраваная на тое, каб беларусы не разьвіваліся, як нацыя, каб не ўсьведамлялі чалавечую і нацыянальную годнасьць, каб ня мелі нацыянальнай сьведамасьці. У выніку такой палітыкі непрыяцелі Беларусі ствараюць і плянуюць грамадзтва суіцыду, нацыянальнага самазьнішчэньня.

Аднак ня трэба думаць, што беларускае грамадзтва ў выніку акупацыйнай палітыкі ўжо цалкам нацыянальна задушанае і ня здольнае да нацыянальнага Адраджэньня.

Для нармальнага разьвіцьця нацыянальнай культуры й фармаваньня асобы неабходныя нацыянальная асьвета, адукацыя і спрыяльная дзяржаўная палітыка. Цяпер гэта ліквідаванае. Аднак, ня гледзячы ні на што, беларускае грамадзтва знаходзіцца ў значна лепшым ідэйным і нацыянальным стане, чым яно было ў канцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя, напярэдадні стварэньня Беларускага Народнага Фронту і напярэдадні аднаўленьня незалежнасьці. Пераржытае — не зьнікае бясьсьледна.

Грамадзтва — гэта ня простая сума людзей і не натоўп. Перажываемы сацыяльна-палітычны вопыт, які асэнсоўваецца часткай беларусаў, незалежна ад афіцыйнай прапаганды й хлусьні, можа аказацца нядрэнным нацыянальным унівэрсытэтам, і тады загоншчыкі народа загоняць у пастку толькі самых сябе.

Цяпер акурат настае вызначальны час. Антыбеларускія заявы прэзыдэнта Расеі Пуціна, зробленыя ім у жніўні гэтага года, паказваюць, што расейскае кіраўніцтва лічыць ужо сваю чорную справу зробленаю і паводзіць сябе так, нібы беларускі народ не існуе. Адсюль той грубы цынізм і адкрытая непавага да беларускай нацыі. Беларусам даюць зразумець, што лічаць іх за нішто, не за народ, а за сьмецьце, і таму кажуць у твар: мы вас анэксуем, ліквідуем, забярэм вашу зямлю і краіну, падзяліўшы на сем частак. Выбірайце: альбо адразу, альбо праз "саюз" і "дружбу навек".

У нацыянальна разьвітай краіне такая заява выклікала-б узрыў грамадзкага абурэньня і, нават, — спыненьне дыпляматычных адносінаў паміж дзяржавамі, паколькі гэта ёсьць пагроза вайны. У Беларусі нічога такога не назіраецца, бо краіна ўжо знаходзіцца ў стане ўнутранай прамаскоўскай акупацыі, а невысокі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці і прадажнасьць элітаў не дазваляе адэкватна ацаніць небясьпеку.

І тым ня менш, няма прычыны да роспачы. Становішча ня ёсьць аж такім дрэнным. Вопыт, які перажывае беларускае грамадзтва, вельмі істотны. Асэнсаваньне і рэакцыя высьпяваюць ў беларусаў павольна, але падзеі сьпеюць і не ў карысьць рэжыму акупантаў. Беларуская ідэя жыве, і разьвіваецца ўзьняты Беларускі Сьцяг. Пад яго павевы хутка стане мноства людзей, і не пазнаць будзе нашу ціхую Беларусь. Няхай-жа мацнеюць шэрагі, і набліжаецца Сьветлы час.

*"Беларус", кастрычнік, 2002, №477*

*Генадзь Праневіч*

# Беларусы: праблемы нацыянальнай тоеснасці

Імклівая глабалізацыя сучаснага жыцця і адначаснае узрастанне канкурэнцыі і суперніцтва паміж краінамі і народамі за палітычнае лідэрства, ўзмацненне свайго палітыка-эканамічнага і культурна-цывілізацыйнага патэнцыялу і ўплыву ў свеце прымушаюць звярнуць ўвагу не толькі на агульначалавечае значэнне фактара захавання нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, але і сур'ёзна задумацца аб яе ролі ў працэсах духоўнай кансалідацыі нацыі, мабілізацыі яе магчымасцяў і рэсурсаў для вырашэння задачы пабудовы сучаснай эфектыўнай дзяржавы і цывілізаванага грамадства, здольных вырашаць самыя складаныя задачы ўнутранага і міжнароднага жыцця.

Між тым, пытанні, якім павінен быць шлях беларусаў да ўсведамлення сваёй нацыянальнай тоеснасці, якую ролю адыгрывае у ім фактар адраджэння беларускай культуры і мовы і ці абавязковым складнікам гэтага працэса з'яўляецца пабудова нацыянальнай дзяржавы, застаюцца адкрытымі, а сам працэс нацыянальна-духоўнай самаідэнтыфікацыі сутыкаецца сёння з цэлым шэрагам цалкам новых цывілізацыйных праблем і тэндэнцый, шмат якія з іх можна ацаніць як сутнасныя перашкоды.

Яшчэ на пачатку XX ст. адзін з лідэраў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага і адраджэнскага руху А. Луцкевіч зазначаў, "што, імкнучыся да як мага поўнага развіцця духоўнай моцы народу, дэмакратыя павінная як найвышэйшае дабро ацэньваць скарбы нацыянальнай культуры, нацыянальную адметнасць. Адсюль ідзе патрабаванне дэмакратыі забяспечыць поўную свабоду культурнага развіцця кожнай нацыі, павага да яе адметнасці і адметных патрэбаў" [1, 373].

Зафіксаваная ў Дэкларацыі ЮНЕСКА ад 2 лістапада 2001г. "Аб культурнай разнастайнасці" ідэя захавання і прымнажэння самабытных багаццяў і здабыткаў культурна шматстайнага свету не толькі выяўляе згодную, кансалідаваную волю усіх народаў і краін свету рухацца менавіта ў такім напрамку, але і прадстаўляе адзін з важнейшых імператываў сучаснага развіцця [2, с. 7-13].

Пры ўсёй відавочнасці і бяспрэчнасці зместу дакумент, тым не менш, патрабуе сур'ёзнага аналізу і разваг над усімі яго кантэкстамі і кампанентамі, яснага і поўнага ўсведамлення шляхоў і спосабаў яго рэалізацыі, магчымых вынікаў і наступстваў як для сусветнай супольнасці, так і для асобных кантынентаў, дзяржаў і нацый.

Варта падкрэсліць, што ніколі яшчэ раней уласны лёс Беларусі і ўсяго еўрапейскага кантынента не перасякаліся ў такой змястоўнай плоскасці, у

такім праблемным палітызаваным завастрэнні і глыбінным гісторыка-культурным кантэксце, абумоўленымі драматычным выбарам шляхоў і вектараў сучаснага цывілізацыйнага развіцця.

Калі для заходнееўрапейцаў і Еўразвяза пытанне аб развіцці культурнай разнастайнасці, захаванні культуры і мовы кожнага па-свойму адметнага і унікальнага народа ці этнаса – гэта найперш клопат аб будучыні Еўропы як адзінага і цэласнага кантынента, дык для Беларусі і беларусаў – гэта яшчэ адзін шанц сур'ёзна задумацца аб мэтах, шляхах і спосабах аднаўлення ўласнай нацыянальнай і еўрапейскай ідэнтычнасці, аб перспектывах існавання і развіцця краіны і нацыі ва ўлонні сучаснай еўрапейскай цывілізацыі [3, с. 209].

Па агульным прызнанні, беларусы – адзін з карэнных аўтахтонных еўрапейскіх народаў, а ягоная культура і мова належаць да ліку самых старажытных і адметна-самабытных ва ўсім славянскім свеце. На думку некаторых мовазнаўцаў, сярод індаеўрапейскіх моў "беларуская мова захавала не толькі найбольшы пласт санскрыцкай лексікі, але яшчэ і санскрыцкую традыцыю развіцця мовы <...> данесла праз глыбіню тысячагоддзяў усе рысы арыйска-праславянскай мовы" [4, с. 13-14].

Наконт выдатных мастацка-выяўленчых духоўных якасцяў роднай мовы і культуры неаднойчы выказваліся ў сваёй публіцыстычнай і мастацкай творчасці такія выдатныя дзеячы Беларусі, як Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі, Л. Сапега, А. Філіповіч, А. Міцкевіч, Я. Чачот, Ул. Сыракомля, Ф. Багушэвіча, А. Ельскі, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі і інш.

Свой патрыятычны асветніцкі і кнігадрукарскі подзвіг – выданне на старабеларускай мове кніг "Бібліі рускай" – Ф. Скарына, як вядома, тлумачыў найперш той акалічнасцю, што яго "милостивый бог с того языка на свет пустил" [5, с. 18]. "Власным езыком руским", "окрасой и оздобой" свайго здаўна слаўнага народа ("посмотрели, яко то был зацный, славный, острий, довстипный народ") называў родную мову ў прадмове да "Евангелля" В. Цяпінскі, разглядаючы яе як сінонім дасведчанасці і вучонай мудрасці свайго народа, якую "многокрот посторонние учоные народы <...> мусели похвалять и овшем се от них учить" [ 6, с. 199 ]. На выдатную літаратурную распрацаванасць, гарманічнасць і цудоўную прастату беларускай мовы неаднойчы звярталі ўвагу А.Міцкевіч, У. Сыракомля, А. Ельскі, рускі даследчык А. Бясонаў. Апошні ў прадмове да "Беларускіх песень" пісаў, што беларуская мова малазразумелая для велікаросаў, мае сваю выдатную незалежную, здзіўляюча жыццяздольную адметнасць... таму трэба прызнаць за ёй права на існаванне як за органам духу некалькіх мільёнаў тыповага народу" [7, с. 343].

Канчаткова канцэпцыя нацыянальнай самабытнасці і самадастатковасці беларускай культуры і мовы была сфармулявана і ўсебакова навукова абгрунтавана ў працах Я.Карскага. У сваёй шматтомнай фундаментальнай

працы “Беларусы” выдатны беларускі вучоны-славіст пераканаўча “паказаў перад шырокім светам самабытнасць, выразную нацыянальную адметнасць беларускага народа, раскрыў бяздоннае багацце яго традыцыйнай культуры, усе характэрныя асаблівасці і прыроднае хараство яго мовы.., адкрыў вочы беларусам на саміх сябе як на адзін з вялікіх еўрапейскіх народаў ” [8, с. 19]. Праведзеныя Я.Карскім, М.Янчуком, яшчэ раней – А.Ельскім, А.Кіркорам, М. Баброўскім, І.Даніловічам, П.Уладзіміравым, П.Шпілеўскім, Е.Раманавым і іншымі вучонымі шырокія даследаванні дадзеных беларускай мовы, літаратуры, фальклору, этнаграфіі засведчылі, што пры усёй сваёй самабытнасці і адметнасці, глыбокай закаранёнасці ў архаіку індаеўрапейскай і праславянскай даўніны, культура і мова беларусаў носіць адкрыты еўрапейскі характар, які выявіўся ў яе гуманізме, дэмакратызме, чуйнай і адэкватнай рэакцыі на ўплывы і культурныя імпульсы знешняга свету, здольнасці да абнаўлення і самаразвіцця.

Не будзе перабольшваннем сказаць, што па-за тым унікальным культурна-гістарычным і духоўным вопытам, які Беларусь назапасіла, будучы тысячагадовым еўрапейскім скрыжаваннем паміж Захадам і Усходам, Поўднем і Поўначчу, як і па-за складаным комплексам яе сённяшніх сацыяльна-эканамічных, палітычных, духоўных і маральных праблем, Еўропа наўрад ці зможа па-сапраўднаму ўсвядоміць і зразумець сябе як адзінае цэлае. Бо аб’яднаны кантынент – гэта не толькі адзіная эканоміка і пабудова агульнаеўрапейскага рынка, збліжэнне палітычных стандартаў, але і глыбокае культурна-цывілізацыйнае ўзаемапранікненне і збліжэнне яе абедзвюх частак, без чаго памкненні да адзінай Еўропы могуць так і застацца рамантычнымі ілюзіямі Вальтэра і Адама Міцкевіча.

Для гэтай новай, сучаснай Еўропы, з’арыентаванай на полікультурнасць і зараджанай імпульсамі глабальнай інтэграцыі, вопыт развіцця беларускай культуры можа быць цікавым і павучальным не толькі ў якасці аднаго з найбольш яскравых гістарычных прыкладаў неканфліктнага суіснавання і плённага інтэграцыйнага ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння розных, часам вельмі далёкіх культур і народаў, але і далёкасяжнымі вынікамі і наступствамі гэтага свайго выбару.

Як вядома, фактар цэнтральнаеўрапейскага месцазнаходжання колішняга Вялікага княства Літоўскага і Беларусі на скрыжаванні цывілізацый, рэлігій і культурных традыцый рымска-каталіцкага Захаду і праваслаўна-візантыйскага Ўсходу, пратэстанцкай Поўначы і мусульманскага Поўдня, самым непасрэдным чынам паўплываў на фарміраванне філасофіі талерантнасці і выпрацоўку полікультурнай мадэлі нацыянальна-духоўнага быцця беларусаў.

У эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі сінтэтызм і полілінгвізм становяцца адной з найбольш адметных рыс беларускай культуры, якая здолела сінтэзаваць і спалучыць у сабе гуманістычны індывідуалізм Захаду і абшчынна-родавы калектывізм Усходу, традыцыйны хрысціянскі гуманізм і

этыку пратэстантызму. Тут доўгі час знаходзілі форму бесканфліктнага суіснавання праваслаўная царква і касцёл, сінагога, мячэць і пратэстанцкія абшчыны. З часоў Рэнесанса і на працягу стагоддзяў мірна суіснавалі і дапаўнялі адна адну дзве еўрапейскія моўна-графічныя сістэмы пісьма – кірыліца і лацініца, на аснове якіх была створана адна з арыгінальнейшых у тагачаснай Еўропе кніжных літаратур. Менавіта з той пары дайшлі да нас і пісаныя арабскімі літарамі на беларускай мове святыя для мусульман кнігі "Аль-кітаб".

Такім чынам, талерантнасць, гуманізм і культурная разнастайнасць не з'яўляюцца нечым новым для нашага ўласнага нацыянальнага быцця. Асабліва, калі прыпомніць, што досьвед талерантнага, паважлівага стаўлення да іншых культур, рэлігій і моў тагачасная Еўропа пераймала менавіта ад нашых продкаў – ліцвінаў. Цікавыя факты аб трывалым замацаванні традыцый нацыянальна-культурнай і рэлігійнай талерантнасці ў свядомасці жыхароў Беларусі прыводзіць у сваім "Дзённіку" беларускі пісьменнік XУII ст. Ф. Еўлашоўскі, расказваючы, як дзівіліся слугі-італьянцы, калі канонік віленскі князь Балтрамей Нядзведзкі запрасіў яго, евангеліка (г.зн. прыналежнага да адной з рэфармацыйных цэркваў), да сябе на абед. А калі канонік пераклаў ім, "што у нас з-за гэтага ніякай нянавісці не ўзнікае і што сардэчна зносімся мы, як добрыя сябры, хвалілі гэта італьянцы, кажучы, што тут Бог жыве, і ганілі свае дамовае права, а яшчэ больш норавы" [9, с. 67].

Здавалася б, наш сённяшні беларускі шлях у Еўропу – гэта як бы абсалютна прамы і зразумелы шлях вяртанння праз самаідэнтыфікацыю да саміх сябе, да той полікультурнай мадэлі нацыянальнага быцця, якая была выпрацавана на нашых землях яшчэ ў эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі. Не варта забывацца, аднак, на адну вельмі істотную акалічнасць: надзвычай прывабная паводле сваёй дэмакратычнай і гуманістычнай сутнасці мадэль полікультурнага нацыянальнага жыцця беларусаў аказалася ў тых канкрэтных умовах няздольнай супрацьстаяць націску такіх татальна арганізаваных у нацыянальна-рэлігійным і культурным плане народаў, як палякі і рускія. Трагічны заняпад беларускай культуры перыяду позняга ВКЛ і Рэчы Паспалітай, як і цяжкая барацьба за яе адраджэнне ў складзе Расійскай імперыі, засведчылі, што ва ўмовах полікультурнасці культуры карэнных этнасаў павінны быць дастаткова моцныя: па-першае, каб не быць паглынутымі і знівеліраванымі ўзрастаючым арэалам полікультурных асяродкаў; па-другое, каб і надалей выконваць сваю кансалідуючую і стабілізуючую ролю ў грамадстве. Інакш кажучы, полікультурнасць не павінна прывесці да разбурэння нацыянальнага суб'екта, растварэння таго этнічнага ядра, якое служыць заквaскай, дрaжджамі нацыі, забяспечваючы яе адзінства, цэласнасць і магчымасць устойлівага развіцця.

Апошнія палітычныя падзеі ў Еўропе, звязаныя з пашырэннем права-кансерватыўных настрояў сярод выбаршчыкаў Італіі, Аўстрыі, Францыі,

засведчылі, прынамсі, што і глабалісцкая культура цяперашняга постіндуістрыяльнага грамадства аказалася не ў стане вырашыць праблему нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, знайсці прымальную формулу ўзаемадачыненняў іншакультурных асяродкаў з культурай карэннай нацыянальнасці.

Па-першае, сама глабалісцкая культура постіндустрыяльнага грамадства спараджае масавую іміграцыю (легальную і нелегальную) і перанаселенасць эканамічна развітых і паспяховых рэгіёнаў свету, што непазбежна правакуе псіхалагічную напружанасць і дыскамфорт у міжасабовых зносінах, у выніку чаго шматкроць узрастае рызыка канфліктаў на сацыяльнай, нацыянальна-рэлігійнай і расавай глебе.

Па-другое, ўсякая развітая іміграцыйная культура, імкнучыся замацаваць і пашырыць межы сваёй аўтаномнасці, стварае відавочную пагрозу для нацыянальнай тоеснасці ў выніку натуральных ментальных і культурна-цывілізацыйных дысанансаў. Невыпадкова, ідэя культурнай разнастайнасці, прывабная для вялікіх імігранцкіх этнічных груповак, што пражываюць па-за межамі сваіх метраполій, а таксама для блукаючых этнасаў тыпу рома і сіндзі, што не стварылі альбо не маюць сваёй дзяржаўнасці, ўспрымаецца многімі еўрапейцамі менавіта як пагроза для карэнных нацый і традыцыйных культур. І справа не толькі ў маргіналах і іхнім непрыняцці мадэрнасці, як стараецца вытлумачыць рост нацыяналістычных настрояў у Еўропе ліберальная прэса, а ў тых новых тэндэнцыях, звязаных з глабальнымі хвалямі новай іміграцыі, якія не ўкладваюцца ў звычайныя рамкі культуратворчага еўрапейскага нацыянальнага працэса. Па дадзеных прэсы, "іміграныты, якія прыбываюць з краін трэцяга свету, не інтэгруюцца ў еўрапейскае грамадства. Узаемапранікнення культур і іх узаемаўзбагачэння не адбываецца. Паспрабуйце растварыць расліннае масла ў слянцы вады, і вы зразумееце, што адбываецца. У буйных еўрапейскіх гарадах утвараюцца своеасаблівыя анклавы (астраўкі) курдаў, аўганцаў, пакістанцаў... Чым буйнейшыя, тым больш згуртаванымі і закрытымі яны становяцца. Закрытымі для мясцовых органаў улады. У першую чаргу для паліцыі і налогавых службаў, але не для службаў сацыяльнай абароны" [10, с. 11].

Яшчэ больш спецыфічныя пагрозы паўстаюць у сувязі з нацыянальна-культурнай самаідэнтыфікацыяй часткова асіміляваных дзяржаватворчых этнасаў і нацый у посттаталітарных грамадствах Усходняй Еўропы. З аднаго боку, гэта рэлікты старога савецкага інтэрнацыяналізму і ўваскрослага расейскага імперыялізму, з другога – амерыкана-еўрапейскі глабалізм з яго наднацыянальнымі праявамі, якія ў роўнай ступені аб'ектыўна супрацьстаяць станаўленню і развіццю новых посттаталітарных еўрапейскіх дзяржаў як дзяржаў нацыянальных.

Невыпадкова, што некаторыя заходнія палітолагі схільныя разглядаць сучасны глабалізм як скарэктаваны працяг ленінскіх пачынанняў, звязаных з

ідэяй Злучаных Штатаў Еўропы, якая часткова была рэалізавана ў форме СССР. Так, шведскі палітолаг Ёран Тэрнборн піша: “ … ёсць прынамсі адна галіна, у якой Еўропа зноў робіць важны ўклад у глабальную мадэрнасць. Гэта наднацыянальнае палітычнае і эканамічнае супрацоўніцтва і ўніфікацыя. Некалі Еўропа была калыскай нацыяналізму і нацыянальнай дзяржавы. Яны з усёй сілай абрынуліся на кантынент падчас абедзвюх сусветных войнаў. Ленінская канцэпцыя Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, заснаваным на нацыянальным самавызначэнні, канцэпцыя, якая вырасла з шматнацыянальнага досьведу цэнтральна- і ўсходнееўрапейскага рабочага руху, была першай важнай спробай стварэння мадэрнай наднацыянальнай дзяржавы” [11, с. 516]. Той жа аўтар пераканана даводзіць, што “узрослая інтэграцыя міжнародных рынкаў, не стрыманая межамі масавая камунікацыя, а таксама інтэрнацыяналізацыя і глабалізацыя праблемаў навакольнага асяроддзя патрабуюць заканадаўчага рэгулявання і палітычнага ўмяшання па-за нацыянальна-дзяржаўнымі межамі. Нягледзячы на свой усходні цень і насуперак усім сваім унутраным супярэчнасцям, кіруючыся курсам канкрэтнага плюралістычнага і дэмакратычнага наднацыянальнага развіцця, Еўропа, “як скарочанае абазначэнне руху за заходнееўрапейскае адзінства і інтэграцыю, уяўляе сабой надзвычай дарэчны прыклад для свету дваццаць першага стагоддзя” [11, с. 516].

Такім чынам, Еўропе і ўсяму свету ў дваццаць першым стагоддзі прапануецца новая наднацыянальная мадэль жыцця, дзе паняцці “нацыянальная дзяржава” і “нацыянальная культура” страчваюць свой ранейшы сэнс і значэнне і нават, больш таго, часта разглядаюцца як перажыткавыя рэлікты з адмоўным значэннем і антыгуманным зместам, якімі асобныя палітолагі пачынаюць палохаць еўрапейскага абывацеля. Як піша той самы Ё.Тэрнборн, “культурная разнастайнасць, якая запанавала апошнімі часамі ў заходняй частцы кантыненту, азначае, што рэінстытуцыяналізацыя еўрапейскай культурнай гісторыі запатрабавала б грунтоўнай і агіднай культурнай чысткі” [11, с. 517]. Пры гэтым нельга не заўважыць, што ідэя культурнай разнастайнасці разглядаецца тут як прамая альтэрнатыва культуры нацыянальнай. Аўтары відавочна зыходзяць з вопыту полікультурнасці ЗША, беручы за ўзор і прыклад для будучай аб’яднанай Еўропы той амерыканізаваны прадукт, які быў пастаўлены ў кантынентальную Еўропу пасля другой сусветнай вайны як своеасаблівая прышчэпка супраць нацыяналізму ў той яго агідна-радыкальнай форме, якую уяўляў сабой тагачасны нямецкі фашызм. Шмат хто ўвогуле лічыць, што эпоха нацый і нацыянальных дзяржаў у Еўропе беззваротна мінулася, таму, маўляў, непазбежным з’яўляецца “адмаўленне ад ідэі нацыянальнай дзяржавы на карысць глабальнай эканомікі і глабальнага соцыума” [12, с. 68].

Складваецца парадаксальная сітуацыя, калі, з аднаго боку, кожная нацыя імкнецца ўмацаваць і абараніць сваю адметнасць і ўнутраную нацыянальна-культурную тоеснасць, а, з другога боку, любая больш-менш

развітая іміграцыйная культура разам з глабальнымі павевамі беспакарана разбураюць гэтую самую тоеснасць звонку і знутры. Дарэчы, ЗША, як краіна, народ і дзяржава, – гэта далёка яшчэ не завершаны і не бясспрэчны эксперымент, каб Еўропе можна было без асцярогі капіраваць іх мадэрнавы вопыт і рухацца іх шляхам. Варта заўважыць, што ў культуралагічным і паліталагічным лексіконе ЗША на сёння аб'ектыўна адсутнічае само паняцце дзяржаватворчага этнасу. Поліэтнічная культура гэтай краіны ўяўляе сабой эклектычнае спалучэнне самых разнастайных культур і ў параўнальна-тыпалагічным плане знаходзіцца фактычна ў пераднацыянальнай стадыі, якую Еўропа перажыла яшчэ ў эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі. Таму вяртанне Еўропы да полікультурнасці магчымае толькі з улікам фундаментальнага вопыту нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва, набытага ёю ў ХУІІІ–ХХ стст., які вызначаў і працягвае вызначаць культурную парадыгму і светаадчуванне еўрапейцаў. Некаторыя староннія назіральнікі перакананыя, напрыклад, што тыя ж "немцы гатовыя і здольныя адмовіцца ад любога *фашызма* ( гэтае паняцце, безумоўна, ўжытае тут аўтарам як эмацыянальнае азначэнне нацыяналізма – Г.П.) – экстрэмальнага і бытавога, аднак не глыбіннага, таго што ў крыві... Калі хочаце, культурнага..." [13, с. 7]. І з такім меркаваннем нельга не пагадзіцца, бо нацыяналізм як аб'ектыўная форма грамадскай свядомасці, уласцівая эпосе індустрыяльнага грамадства, "у латэнтнай форме <...> існуе і ў развітых дэмакратычных краінах, будучы фундаментам нацыянальнага кансэнсуса" [14, 37 ].

Варта зазначыць пры гэтым, што еўрапейскі вопыт нацыянальнага будаўніцтва мае не толькі свае драматычныя і трагічныя старонкі, на чым звычайна робяць акцэнт прыхільнікі глабалізацыі, але і свае выключныя дасягненні і каштоўнасці. Гэта найперш інтэгратыўны, гарманічна-ансамблевы характар еўрапейскай культуры з выразна абазначаным кансалідуючым цэнтрам, ролю якога выконвае культура і мова ўтвараючага і цэментуючага нацыю этнаса, і гарманічна дапасаванымі да яго культурнымі традыцыямі меншых і малалікіх этнічна-нацыянальных народнасцяў і груп, што ўтвараюць цэласную нацыю. Пры гэтым нацыянальная тоеснасць выступае ў дадзеным выпадку як прадукт ўнутранага нацыянальна-культурнага кансэнсуса, якім замацоўваецца своеасаблівы парытэт полікультурнасці і культуры тытульнага карэннага этнасу на падставе прызнання за апошняй значэння і статуса нацыянальнага цэлага.

У дадзенай сітуацыі здзіўляе найбольш тое, што праблема тоеснасці, нягледзячы на сваю надзвычайную актуальнасць, па-сутнасці застаецца нераспрацаванай ў сучаснай паліталогіі і культуралогіі. Як прызнае Ё. Тэрнборн, "зацікаўленне тоеснасцю перажывае сёння ўздым у сувязі з мультыкультуралізмам і этнічнымі канфліктамі, аднак сама тоеснасць фактычна застаецца непрызнанай падчаркай сучаснай сацыялагічнай тэорыі", нягледзячы на тое, што "хавае ў сабе велізарны патэнцыял як

ключавое паняцце “навукаў аб чалавецтве”, будучы цэнтральным у псіхалогіі фарміравання і развіцця асобы і ў сацыяльнай групавой псіхалогіі, а таксама маючы дачыненне да такіх масавых калектыўных працэсаў і праблемаў, як класавая свядомасць, прафесіяналізм, этнічнасць, нацыяналізм” [11, с. 16].

Гэта тым больш істотна, што ва ўмовах сучаснай глабалізацыі жыцця культурны фактар, клопат аб нацыянальнай тоеснасці і развіцці традыцыйных культур і моў маюць не толькі самацэннае значэнне, але і набываюць раней неўласцівы ім сэнс і функцыі сацыяльных і палітычных рэгулятараў працэсаў міграцыі насельніцтва, міжнацыянальных, рэлігійных, расавых узаемаадносін і канфліктаў, фармавання новых рынкаў працы і працоўнай занятасці і г. д.

Сучасная мадэрная цывілізацыя, ахопленая глабалізацыяй і занепакоеная выключна правамі асобы, пачынае пакрыху ўсведамляць, што неструктурызаваны ў нацыянальна-дзяржаўным і культурным плане свет становіцца яшчэ больш некіруемым і небяспечным, чым традыцыйныя нацыянальныя грамадствы. Усур’ёз задумвацца над тым, ці пакрываюць выгады ад глабалізацыі тыя выдаткі, якія сусветная супольнасць нясе ад міжнароднага тэрарызму, злачыннасці і наркотыкаў, некантраляванай масавай нелегальнай міграцыі, затрачвае на барацьбу з распаўсюджваннем па свеце такіх інфекцый эпідэмічнага характару, як сібірская язва, СНІД, туберкулёз, халера, малярыя і г.д.

Не можа непакоіць таксама, што ў эпоху постіндустрыяльных грамадстваў, мадэрнасці і глабалізму на фоне вылучэння інтэлектуальных эліт і інтэлектуальных прарываў адзінак назіраецца агульная прымітывізацыя масавага жыцця, збядненне ўнутранага духоўнага свету асобы. Стандартызацыя і пэўная аднамернасць мадэрнасці ўсё больш і больш аддаляюць сучаснага чалавека ад здабыткаў і каштоўнасцяў традыцыйных культур і нацыянальных моў, заснаваных на вопыце непасрэдных чалавечых кантактаў і натуральнага жыцця ў жывой прыродзе, якія замяняюцца сурагатамі маскультуры і віртуальнай рэальнасці. Такія тэндэнцыі развіцця мадэрнасці заключаюць ў сабе відавочныя пагрозы для сучаснай цывілізацыі, абарочваюцца стратамі спецыфічных навыкаў і ведаў, самабытнага духоўнага вопыту, арыгінальных мадэляў і парадыгмаў нацыянальнага мыслення, якія з'яўляюцца для грамадства невычэрпнай крыніцай абнаўлення і развіцця.

З яшчэ больш складанымі перашкодамі сутыкаюцца сёння посттаталітарныя грамадствы Усходняй Еўропы і Азіі, нацыянальна-культурная і моўная тоеснасць якіх ва ўмовах былой Расійскай імперыі і СССР мэтанакіравана разбуралася на працягу стагоддзяў. Скажам, яшчэ зусім нядаўна на тэлеканалах РТ і ГРТ можна было назіраць, як расійскія бізнесоўцы дружна наракалі на тое, што ўкраінская мова перашкаджае наладжванню больш цесных эканамічных стасункаў і эканамічнай

інтэграцыі з Украінай, бо даводзіцца перакладаць на ўкраінскую мову шматлікую тэхнічную дакументацыю, што нібыта ўскладняе паразуменне і (што асабліва непакоіла бізнесоўцаў) дорага каштуе. Паказальна аднак, што ніхто з іх не задумаўся над пытаннем, колькі каштаваў і каштуе для народаў – вязняў былой Расійскай імперыі і СССР – гэты іх спадчынны імперыялізм, густа замешаны на рэліктах вялікадзяржаўнага шавінізму і савецкага інтэрнацыяналізму, а цяпер яшчэ і ўпакаваны ў модныя абгорткі заходняй глабалізацыі.

Напрыклад, для беларусаў кошт больш чым двухсотгадовай каланіяльнай пагарды і нявечання беларускай культуры, паводле некаторых даных, складае неверагодную, проста забойчую лічбу ў 1,5 %. Менавіта такі мізэрны працэнт ад культурных каштоўнасцяў, створаных за вякі беларускім народам, застаецца сёння ў нашым прамым нацыянальным валоданні і распараджэнні, што, безумоўна, ускладняе сам працэс самаідэнтыфікацыі, асабліва, калі культура і мова не атрымоўваюць з боку дзяржавы належнага спрыяння і падтрымкі.

На думку сучаснага палітола Р.Інглегарта, культура адлюстроўвае ўсю гістарычную спадчыну і вопыт жыцця дадзенага народа. Яна самым найцяснейшым чынам звязана з праблемамі палітычнай улады, таму яе нельга звесці да выпадковага набора каштоўнасцяў, вераванняў і звычак прадстаўнікоў дадзенага грамадства; яна ўяўляе сабой стратэгію выжывання. У любым соцыуме, які здолеў захавацца на працягу доўгага гістарычнага перыяда, культура, як гэта бывае, знаходзіцца з эканамічнай і палітычнай сістэмамі ў "адносінах узаемнага спрыяння" [12, с. 278, 282]. Што да беларускай культуры, дык за выключэннем першапачатковай эпохі ўтварэння і існавання ВКЛ (да Люблінскай уніі 1569 г.) і кароткага перыяду БНР і 1991-1994 гг. навейшай гісторыі яна ніколі не мела сапраўднага рэжыму ўладнага "спрыяння". Яна выжыла і выстаяла амаль у чатырохсотгадовым змаганні з чужой каланіяльнай уладай, якая заўсёды імкнулася адлучыць беларусаў ад уласнай культуры, знішчыць яе здабыткі, дыскрэдытаваць вартасці гэтай культуры і яе творцаў у вачах уласнага народа.

На жаль, праблемы нацыянальнага адраджэння, абароны і развіцця беларускай культуры і мовы, а таксама культур і моў нацыянальных меншасцяў, выкарыстання іх ў дзяржаўным і грамадскім жыцці не знайшлі пакуль адэкватнага навукова абгрунтаванага асэнсавання ў ідэалогіі і практычнай палітыцы цяперашняй Рэспублікі Беларусь.

Так, нягледзячы на тое, што ў часе апошняга перапісу 1999 г. 81,2 % насельнікаў Беларусі прызналі сябе беларусамі, а 85,6 з іх назвалі беларускую мову роднай, у краіне па-ранейшаму адбываецца дыскрымінацыя культуры і мовы карэннага этнасу практычна ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця, пачынаючы ад мажлівасцяў атрымання адукацыі на роднай мове, да вытворчасці, рэкламы. У сістэме вышэйшай

адукацыі краіны па-ранейшаму няма ніводнага ВНУ з беларускай мовай навучання. У перыяд з 1996 г. рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных школ і класаў у сістэме сярэдняй адукацыі , а таксама беларускамоўных садкоў і груп у сістэме дашкольнай падрыхтоўкі. Так, напрыклад, у Мінску, горадзе з двухмільённым насельніцтвам, толькі 4 ліцэі і 2 агульнаадукацыйныя школы працуюць на роднай мове, а ў абласных цэнтрах краіны з насельніцтвам ад 300 да 800 тысяч жыхароў увогуле няма ніводнай беларускамоўнай школы.

Такая ж сітуацыя ў дзяржаўных СМІ, на тэлебачанні, ва ўстановах культуры, рэкламным і шоў-бізнесе, якія амаль цалкам перайшлі ў сваёй працы на рускую мову. На думку журналістаў газеты "День", "прыняты ў 1997 годзе закон аб рэкламе патрабуе дапрацоўкі, паколькі пытанне амаль адназначна было вырашана на карысць рускай мовы, якая пасля рэферэндума 1995 г. атрымала дзяржаўны статус, што ў сваю чаргу, стала законным апраўданнем для вытворцаў рэкламы, якія выкарыстоўваюць у сваёй працы пераважна рускую мову. У той час, як у краінах Балтыі каля 90% рэкламнай прадукцыі выходзіць на мове тытульнай нацыі. З адпаведным паказчыкам у 60% паступовa дасягае агульнапрынятых стандартаў Украіна. У Еўропе, ахопленай працэсамі глабалізацыі, да мовы, што выкарыстоўваецца ў рэкламе, таксама вельмі трапяткое стаўленне: існуе разуменне, што мова з'яўляецца адным з найбольш эфектыўных спосабаў папулярызацыі не толькі канкрэтнага прадукта, але і цэлай краіны [15, с. 4].

Прыклады падобнай дыскрымінацыі і ідэалагічнай цэнзуры ў дачыненні да нацыянальна-культурных запатрабаванняў беларусаў назіраюцца і ў іншых галінах культуры, а таксама ў афіцыйнай гістарычнай і літаратуразнаўчай навуцы, з якой гвалтоўна выкрэсліваюцца непажаданыя імёны і творы аўтараў. Тым самым ідэалагічна дэфармуецца і відазмяняецца аб'ектыўная карціна гістарычнага працэса, якая затым трансліруецца на вучнёўскую і студэнцкую моладзь праз праграмы выкладання гэтых прадметаў у ВНУ і сярэдніх навучальных установах.

Па-сутнасці, ў краіне працягваецца ранейшая камуністычная, праімперская палітыка разбурэння нацыянальнай тоеснасці, скіраваная на вынішчэнне такіх адметных атрыбутыўных якасцяў і духоўных каштоўнасцяў нацыі, як мова, культура, менталітэт, гістарычная памяць, ажыццяўляецца свядомая, палітычна матываваная спроба спыніць натуральныя працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння і самавыяўлення беларускай нацыі праз штучную імплантацыю і замяшчэнне беларускай культуры і мовы на рускую. І хоць сучасная тэорыя культурных фактараў зыходзіць з таго, што "культура не паддаецца імгненным зменам. Могуць змяняцца валадары і законы, аднак патрабуюцца, як правіла, многія гады, каб маглі быць пераўтвораныя базавыя аспекты культуры" [12, с. 276], можна меркаваць, што размова, тым не менш, ідзе менавіта пра спробы гвалтоўнай змены генетычнага культурнага кода нацыі.

Менавіта пагэтаму нельга не пагадзіцца з Я.Станішкіс, што "нацыянальнае адраджэнне не толькі непазбежнае з-за адсутнасці другіх асноў грамадзянскай супольнасці, але і неабходнае як першы крок у барацьбе з камуністычнай дзяржавай за грамадскую аўтаномію" [16, с. 187]. Дадамо – за права самастойна, у адпаведнасці з унутранымі патрэбамі развіваць свой духоўны і культурны патэнцыял у інтарэсах кожнай асобы і ўсяго народа. І калі згадзіцца з меркаваннем Р. Інглегарта, што кожная культура ўяўляе сабой стратэгію адаптацыі і выжывання народа – носьбіта гэтай культуры, дык гэта азначае найперш, што ў карэнную тысячагадовую культуру народа-аўтахтона нельга беспакарана і без шкоды для гэтага народа штучна імплантаваць нейкія іншародныя элементы, напрыклад, мову суседняй дзяржавы. На практыцы гэта азначала б амаль тое ж самае, што і прымусовае высяленне цэлага народа з яго спрадвечнай радзімы: радыкальны разрыў з роднай мовай, прыродай, гісторыяй, звыклымі ўмовамі і спосабам бытавання, традыцыйнай філасофіяй жыцця і г. д.

У гэтым праблемным кантэксце надзвычай актуальна і надзённа гучаць сёння думкі пісьменніка і этнографа XIX стагоддзя А.Ельскага, які, адстойваючы права на жыццё і свабоднае развіццё не толькі нацыянальных моў, але дыялектаў і паддыялектаў, пісаў, што "ніводзін свавольны капрыз не здолее беспакарана адкінуць патрэбу гарманічнай разнастайнасці ў прыродзе. Калі немагчыма стварыць аднастайныя формы, фарбы, звычаі і інстынкты ў звяроў аднаго роду, але розных парод <...> то чаму ж можна было б змешваць народы ці блізкія паддыялекты ў адзін застылы, спраектаваны зверху дыялект і пасля гэтага зліць усе дыялекты ў адну агульную, усечалавечую мову? Таямніцу гэтай з'явы, якая захапляе мудрасцю, прырода цудоўна захавала ў сабе, чалавек жа – атам сярод стварэння – павінен мець прынамсі столькі розуму, каб зразумець, што без гармоніі адрозненняў свет выглядаў бы мёртва, без зместу, нібы шэры фон, які не мае ні контураў, ні перспектывы, ні ўсяго таго, што робіць разнастайным выгляд, ажыўляе дзеянні, што надае вобразу тон і вартасць рэчаіснасці" [7, с. 330]. Адметнасць і самабытнасць роднай мовы А.Ельскі звязваў найперш з магчымасцю весці на ёй сакральна-інтымны дыялог з цэлай нацыяй, адкрываць праз яе самыя патаемныя глыбіні народнай душы. "Родная мова ў дакладным значэнні ёсць самая любімая спадчына нацыі; праз яе пасрэдніцтва лягчэй за ўсё пранікнуць у душу нацыі, закрануць пачуцці, праясніць розум, падштурхнуць адпаведную думку, заклікаць да дзеяння, змагацца са страсцямі, ствараць дабрачыннасці! Навошта ж іншыя фактары, менш блізкія або чужыя?" [7, с. 331] – палемічна заваструаў пытанне вядомы беларускі культурнік XIX стагоддзя.

Падобным чынам трактаваў ролю роднай мовы ў выхаванні і станаўленні чалавечай асобы вялікі нямецкі філосаф Гегель, які лічыў, што толькі ў сферы роднай мовы чалавек можа спаўна самарэалізавацца і раскрыцца як асоба [17, с. 202 ]. Бо толькі праз далучэнне да аўтэнтычнай культуры і мовы свайго народа

чалавек спасцігае сваю унікальнасць і непаўторнасць, выпрацоўвае адметную філасофію жыцця, адкрывае змястоўнасць і паўнацэннасць уласнага быцця ў свеце. І хоць кімсьці даўно і правільна заўважана, што чалавек столькі разоў чалавек, колькі ён ведае моў, аднак дастаткова разарваць натуральную повязь з роднай мовай, каб ён назаўсёды страціў нешта непаўторнае ў сваім прыродным аблічча, чалавечай самабытнасці і глыбіні. Адмаўленне ад роднай мовы альбо страта яе і пераход на іншую – працэс зусім небяскрыўдны, звязаны з складанай перабудовай усёй маральна-псіхалагічнай і духоўна-светапогляднай сферы чалавека. Уваходзячы ў чужую моўную стыхію, чалавек пачынае думаць і пачуваць сябе іначай – у адпаведнасці з іншай ментальнасцю: чужая мова па-іншаму парадкуе лад думак, задае свой стыль, тэмп і інтанацыю маўлення, падсвядома ўплывае на характар мыслення і ўчынкаў чалавека, а, галоўнае, паступова адчуджае яго ад роднага асяроддзя, прыроды, звыклага прадметнага свету, з якімі духоўна і душэўна ён быў некалі звязаны праз родную мову. Нездарма, слова і прадмет альбо з'ява, якія яно абазначае, нават пры блізкім альбо падобным гучанні набываюць у кожнай нацыянальнай мове сваю непаўторную гукавую афарбоўку, спецыфічнае асацыятыўна-вобразнае напаўненне. Паэт Алесь Разанаў бліскуча прадэманстраваў гэты феномен у сваіх вершаказах на тэму “зімы”: Беларуская з і м а – зямля, усланая небам. Літоўская z i e m a “жме”: яе дужасць добра адчувае і аўкштайт, і жэмайт. Руская з і м а не толькі з'ява прыроды, але і грамадскае мерапрыемства – вялікі агітацыйны “ізм” [ 18 с. 423].

Клопат пра захаванне і развіццё традыцыйных культураў і моваў, заахвочванне і развіццё полікультурнасці маюць сёння прамое дачыненне да духоўнага і эканамічнага прагрэсу народаў, відочна ўплываюць на стварэнне атмасферы даверу і духоўнага адзінства ўнутры нацыі, маральны клімат і камфортнасць пражывання насельніцтва, забяспечваюць стабільнае і згоднае развіццё нацыі. У той час, як штучнае насаджэнне і прапаганда з мэтай асіміляцыі чужой мовы і культуры маюць зусім іншыя вынікі: нацыя разбураецца знутры, правакуюцца канфлікты, ксенафобія, узнікаюць недавер і нянавісць да носьбітаў чужой агрэсіўнай культуры, а ўнутры народа фарміруюцца комплексы нацыянальнай другаснасці і непаўнавартаснасці.

Галоўная ж пагроза разрыву асобы з традыцыйнай нацыянальнай культурай і мовай заключаецца ў страце ментальных архетыпных рысаў, якія арыентуюць яе ў гістарычным часе і культурнай прасторы, прадвызначаюць філасофію жыцця, стыль паводзін і дзеянняў, робяць учынкі і дзеянні канкрэтнай чалавека і цэлых папуляцый асэнсаванымі, прадказальнымі і стабільнымі, а сам стыль і спосаб жыцця прагназуема аседлым, арыентаваным на прыродны і духоўна-культурны арэал радзімы. Выдатны рускі інтэлігент і вучоны Дз. Ліхачоў, які цудоўна бачыў і разумеў інтэгратыўную і стабілізуючую ролю нацыянальнай культурнай традыцыі, роднай мовы і гісторыі, нездарма не стамляўся паўтараць, што чалавек

павінен жыць "аседла" – гэта значыць умацоўваць сувязь з родным краем і асяроддзем, гісторыяй, культурай і мовай свайго народа, ашчаджаць і паглыбляць гэтыя сувязі з радзімай як неацэнны скарб сённяшніх і будучых пакаленняў [19, с. 484-486 ].

Ужо самым фактам свайго існавання кожная культура і мова даводзяць сваё боскае паходжанне, сваю абумоўленасць і дэтэрмінаванасць натуральнымі законамі развіцця, пэўнымі прыроджанымі і сацыяльна-гістарычнымі умовамі і патрэбамі. У гэтым сэнсе глыбока самабытны і ў той жа час адкрыты еўрапейскі характар беларускай культуры і літаратуры, такія іх адметныя рысы, як гуманізм, высокая маральнасць, дэмакратызм, талерантнасць, культурны сінтэтызм з'явіліся не толькі вынікам аб'ектыўнага ўзаемадзеяння і ўплыву разнастайных гістарычных, геапалітычных і прыродна-кліматычных умоў і спосабу жыцця народа, але і фактарам яе жыццяздольнасці, дэманстрацыяй ўмення жыць і выжываць у драматычных калізіях еўрапейскай і сусветнай гісторыі.

Прыродная і "духоўная аселасць" беларусаў на сваёй зямлі, іх незнішчальная "тутэйшасць", апора на здабыткі традыцыйнай народнай культуры і фальклору – вось што яшчэ трымае нас у свеце, дапамагае захоўваць сваю адметнасць і самабытнасць. Да пазітыўных фактараў, якія забяспечваюць жыццяздольнасць беларускай культуры, трэба аднесці таксама высокую канцэнтрацыю і шчыльнасць карэннага беларускага этнасу ў межах тэрыторыі сваёй краіны, якая паводле перапісаў 1989 і 1999 гг. стабільна складае больш за 80 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Невыпадкова, што і класічныя творы беларускага мастацтва і літаратуры, пачынаючы ад "Слова аб палку Ігаравым" і "Песні пра зубра" М.Гусоўскага да "Новай зямлі" Я.Коласа, "Людзей на балоце" І.Мележа, раманаў К.Чорнага і аповесцяў В.Быкава, п'ес А.Дударава дэманструюць нам найперш менавіта такі тып беларуса – працаўніка і воіна, адданага сямейніка і маральнага, сумленнага чалавека, усімі сіламі сваёй душы прыкаванага да роднай зямлі, які жыве паводле няпісаных законаў, спрадвечных ісцін і традыцый свайго народа.

Асноўны прадукт кожнай культуры – чалавек. І калі на заходніх і ўсходніх рынках працы беларусаў яшчэ і сёння адрозніваюць і цэняць за працавітасць, надзейнасць, сумленнасць, дык гэта таму, што традыцыйная беларуская культура пакінула нам у спадчыну адметны тып чалавека, перакананага, што ягонае жыццё, лёс і дабрабыт залежаць толькі ад яго працы, кваліфікацыі і ведаў, ад умення працаваць у калектыве, ладзіць і знаходзіць кантакт і узаемаразуменне з іншымі людзьмі.

У гэтым сэнсе разбурэнне беларускай культуры азначала б яшчэ і непапраўную страту крыніц і інструмента ўзнаўлення так патрэбнага сённяшняй Беларусі, ды і ўсяму індустрыяльна-эканамічнаму свету тыпу асобы, на якім адвеку стаяла Беларусь са сваімі Міхаламі і Антосямі, Васілямі і Ганнамі, Петрыкамі і Сцепанідамі; страту не толькі непаўторных

духоўнага свету і адметных рыс нацыянальнага характару беларуса, але і таго, што сучасная паліталогія называе "чалавечым капіталам". Найбольш дальнабачныя ідэолагі сучаснага капіталізму нездарма гавораць сёння пра своеасаблівы эканамічны эквівалент, альбо цану культурных фактараў, спрабуючы ацэньваць у эканамічных катэгорыях вартасць такіх маральных якасцяў людзей, што працуюць у сферы бізнесу і вытворчасці, як надзейнасць, давер, сумленнасць, якія з'яўляюцца вытворнымі ад культуры. Так, напрыклад, Ф. Фукуяма, лічыць, што "эканоміка – гэта важнейшая сфера сучаснага жыцця, у рамках якога культура аказвае прамое ўздзеянне на дабрабыт насельніцтва" [12, с. 127].

Перспектыва канчаткова згубіць сваю нацыянальна-культурную ідэнтычнасць азначала б для беларусаў не толькі страту сваёй індывідуальнасці і непаўторнага аблічча сярод іншых народаў і нацый свету, але і свайго шансу на эканамічнае адраджэнне, духоўны прагрэс і вартае месца ў сучасным свеце. Грамадства, якое не можа забяспечыць умовы для свабоднага і натуральнага выяўлення свайго інтэлектуальнага, духоўнага і творчага патэнцыялу, не можа быць шчаслівым – пры кожнай адпаведнай умове яно адчувае сябе недасканалым, прыгнечаным, балюча перажывае комплекс уласнай непаўнавартаснасці.

Такім чынам, для беларусаў і сёння застаецца актуальным прагалошаны Я.Купалам амаль стагоддзе назад у камедыі "Тутэйшыя" лозунг аб абароне самабытнасці народа і ягонага права на свабоднае самавыяўленне гэтай самай самабытнасці: "Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас не надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, знічтожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта <...> Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім "я", у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права распараджацца гэтым сваім "я" [20, с. 436].

Абавязак дзяржавы, беларускай і міжнароднай супольнасці, кіруючыся Дэкларацыяй ЮНЕСКА "Аб культурнай разнастайнасці", садзейнічаць працэсам нацыянальна-культурнага адраджэння ў Рэспубліцы Беларусь, дабівацца стварэння сацыяльна-палітычных перадумоў для дасягнення моўна-культурнай тоеснасці карэннага этнасу і нацыянальных меншасцяў ў тых яе параметрах, якія вынікаюць з нацыянальна-этнічнага складу і парытэту нацыі.

Пры гэтым захаванне самабытнасці і культурнай шматстайнасці Беларусі будзе па-ранейшаму залежаць ад станаўлення ў краіне грамадзянскіх дэмакратычных інстытутаў і перспектывы пабудовы паўнавартаснай нацыянальнай дзяржавы, значэнне і роля якіх ў рамках новых канцэпцый глабальнага і ўзаемазвязанага свету яшчэ доўга будуць заставацца вырашальнымі.

1. Цыт. паводле: Смалянчук, А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. /А.Ф. Смалянчук. – СПб. : Неўскі прасцяг, 2004.

2. Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі : матэрыялы Міжнар. сімпозіума, Мінск, 9-10 ліп. 2002 г. : У 2-х кн. / рэдкал. : В.Якавенка (гал. рэд.) і інш. – Мінск : "Бел.СаЭС "Чарнобыль", 2003. – Кн. 1. – С. 7-13.

3. Заико, Л. Европейское измерение Беларуси // Беларусь: на пути в третье тысячелетие: сб ст. / сост. Л.Ф.Заико. – Минск : Белорусские фабрики мысли, 2001. – С. 209.

4. Суднік С. Падарожжа ў краіну арыяў / С. Суднік // Літаратура і мастацтва. – 1994. – 9 верас. – С. 13-14.

5. Скарына, Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф.Скарына. – Мінск : Навука і тэхніка, 1990.

6. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / склад. А. Коршунаў. – Мінск : Дзярж. выд. БССР, 1959.

7. Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / укл. Г.В. Кісялёў; рэд. В.В. Барысенка, А.І. Мальдзіс. – Мінск : Навука і тэхніка, 1977.

8. Карскі, Я. Беларусы / Я. Карскі; уклад. і камент. С.Гараніна і Л.Ляўшун; навук. рэд. А.Мальдзіс; прадм. Я.Янушкевіча і К. Цвіркі. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 2001.

9. Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі ХУІІ ст. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983.

10. Николюк, С. Конец Европы? / С. Николюк // Наша Свабода. Специальный проект "Политика". – 2002. – 4 июня.

11. Тэрборн, Ё. Еўропа сёння і заўтра (Еўрапейская мадэрнасць і далейшасць: траекторыі еўрапейскіх грамадстваў 1945-2000) / пер з англ. ; пад рэд. І. Бабкова. – Мінск : ЭўроФорум, Беларускі Фонд Сораса, 1997.

12. Новая постиндустриальная волна на Западе. Антология / под ред. В.Л. Иноземцева. – Москва : Academia, 1999.

13. Кушниров, М. Оборотная сторона медали / М. Кушниров // Известия. – 2002. – 16 мая. – С. 7.

14. Ровдо, В. Теория перехода к демократии: сравнительный анализ моделей трансформации / В. Ровдо // Філаматы. – 1999. – № 1.

15. Андреев, Д. Купляйце беларускае… / Д. Андреев // День. – 2002. – 16 мая. – С. 4.

16. Staniszkis, J. "Main Paradoxes of the Democratic Change in Eastern Europe" in Constructing Capitalism. – Boulder, San Francisco, 1992. – P. 187.

17. Гегель. Сочинения / Гегель. – Москва : Изд-во соц.-экон. лит., 1958. – Т. ХІУ : Лекции по эстетике.

18. Разанаў, А. Танец з вужакамі: Выбранае /А. Разанаў. – Мінск : Маст. літ., 1999.

19. Лихачев, Д.С. Избранные работы: в 3 т. / Д. С. Лихачев – Ленинград : Худож. лит., 1987. – Т. 2 : Великое наследие; Смех в Древней Руси: Монографии; Заметки о русском.

20. Купала, Я. Паэмы. Драматычныя творы / Я.Купала; уклад. А.А.Сляпцовай. – Мінск: Маст. літ., 1989.

*Татьяна Соловей*

# От «советской Белоруссии» к Республике Беларусь: обретение новой идентичности

Самоопределение Беларуси, равно как и других стран постсоветского пространства, имеет ряд общих черт. Все эти страны с разной скоростью и интенсивностью обретают собственную идентичность. Подобно тому, как эволюцию русской идентичности в последние двадцать лет можно описать фразой: русские по-новому в своей истории начинают ощущать себя русскими, белорусы не просто чувствуют себя белорусами, но и все больше убеждаются в безальтернативности независимого, суверенного существования Беларуси. С чем это связано?

Во-первых, институционализация любого независимого государства приводит к тому, что коммуникационные потоки концентрируются в его политико-административных границах. Граждан становящегося государства несравненно больше интересует происходящее в их собственном доме, нежели социокультурная, экономическая и политическая динамика за его пределами. Интенсивность межстрановых коммуникаций неизбежно ослабевает, пусть даже эти страны еще недавно были частями единого государства, а их развод носил вполне мирный, «бархатный» характер.

Во-вторых, даже если обретенная независимость оказалась неожиданной и не вполне желательной (а в случае с Беларусью и белорусами так и было), сами по себе факторы, возникшие в результате провозглашения и реализации независимости – совокупность новых институтов (или приобретение новых смыслов старыми институтами), новая внутренняя и внешняя политика, новая система социализации и др. – с неизбежностью формируют новую гражданско-политическую и страновую идентичности. Волей-неволей и политик, и учитель должны объяснять своим компатриотам, как и почему произошло становление независимого государства. Более того, они обязаны обосновать необходимость, целесообразность и легитимность суверенного существования. Ведь в противном случае им пришлось бы объявить собственное свежеиспеченное государство историческим недоразумением, не имеющим смысла существования и шансов на выживание. Однако даже если кое-кто в новых государствах так и думал, то вряд ли решался произнести подобное вслух.

В общем, идеи национальной независимости и новой государственности постепенно становятся основополагающим фактом – не только политическим, но и, что более важно, социокультурным и ментальным.

В-третьих, внешние по отношению к постсоветскому пространству игроки всячески поддерживают идею национальной независимости, тем самым стимулируя поиск новой геополитической и цивилизационной иден-

тичности молодыми государствами. Говоря без обиняков, этот поиск выливается в выбор между Востоком и Западом, между Россией и Европой. Ведь Россия в силу целого ряда фундаментальных факторов – от географических до социокультурных — не имеет серьезных шансов интегрироваться в современную Европу, не будет восприниматься как ее часть и в этом смысле обречена на противопоставление (не противостояние!) Европе.

Тем самым постсоветские страны оказываются не в ситуации «и Россия, и Европа», а в ситуации выбора «или-или». В то же самое время, как показал опыт последних двадцати лет, равноудаленность, балансировка между Россией и Европой для постсоветских стран в сколько-нибудь длительной перспективе невозможна. Равноудаленность оказывается лишь историческим мгновением, миллисекундой, но абсолютно не реалистична как долговременная стратегия.

Украина некоторое время пыталась сидеть на двух стульях или, словами известной поговорки, пробовала побыть тем самым теленком, который сосет вымя одновременно двух маток. Однако после «оранжевой революции» и ею был сделан исторический выбор: дрейф на Запад не только усилился, но и принял необратимый характер. Хотя это движение встречает сопротивление немалой части украинского общества (особенно людей среднего и старшего возрастов), украинская элита – вне зависимости от этнического и регионального происхождения, идеологической подкладки и характера бизнеса – едина в своей доминирующей социокультурной ориентации. Солнце для нее встает на Западе – в этом смысле нет различий между Виктором Ющенко, Виктором Януковичем, Юлией Тимошенко и Арсением Яценюком. Различия касаются не вектора, а темпов и путей движения на Запад.

Упреки в предательстве славянского братства и совместной истории, которыми в этой связи российская пропагандистская машина щедро одаряет украинскую элиту, выглядят откровенным ханжеством. Разве дети российской элиты учатся не в западных университетах? Разве сама эта элита предпочитает отдыхать не на западных курортах и там же приобретать недвижимость? Разве российские нувориши хранят деньги не в западных банках? А ведь неспроста сказано в евангелии: где сокровище ваше, там и сердце пребудет ваше…

В социокультурном и потребительском отношениях российская элита точно так же, как и украинская, ориентируется на Запад. «Матушка-Русь» составляет для российской элиты не более чем источник ее феноменального обогащения и государственную «крышу» на случай преследований на Западе, но свое будущее эта элита вряд ли связывает с Россией. Ее идефикс – интеграция в глобальную элиту, в ведущий эшелон вершителей мировых судеб. А Россия в данном случае не более чем расходный материал… Правда, доминантному устремлению российской элиты, за единичным исключе-

нием, вряд ли суждено сбыться, но это уже другая история, не имеющая отношения к теме данной статьи.

Единственной значимой группой постсоветской элиты, придерживающейся последовательно пророссийской ориентации (пророссийской не только в политическом и экономическом, но и в социокультурном плане) была и во многом все еще остается белорусская элита. Парадоксальным образом она порою выглядит большим патриотом России, чем собственно российская элита.

Долгое время казалось, что Беларусь всегда будет с Россией, или, говоря словами последнего советского лидера Михаила Горбачева, «другой альтернативы у нее нет». Однако и для Беларуси и белорусов, включая республиканскую элиту, в последнее время выбор между Востоком и Западом (между Россией и Европой) актуализовался и впервые в истории начал переходить из гипотетической в плоскость реальной политики. Почему это случилось и почему данный процесс будет набирать силу?

В первую очередь стоит указать на уже кратко охарактеризованный выше интенсивный процесс обретения белорусской идентичности – национальной и страновой. Молодые поколения белорусов, прошедшие социализацию в постсоветскую эпоху, описывают себя и свою страну в новых понятиях и характеристиках. Самое важное здесь то, что для них страна, в которой они живут, не бывшая «советская Белоруссия», то есть фрагмент прошлого, как для старших поколений, а «республика Беларусь» — новая политическая и социокультурная реальность. И эта реальность в социокультурном отношении ориентирована прозападно, а не пророссийски. Не антироссийски – молодые поколения белорусов, в целом, позитивно относятся к России, а именно прозападно: Запад выступает главным образцом для подражания, своеобразным социокультурным магнитом и выглядит потенциальным ключевым партнером.

Такая ориентация обречена усиливаться в силу ряда фундаментальных факторов: во-первых, по причине естественной смены поколений; во-вторых, потому, что Европа стала для белорусов главным направлением трудовой миграции. Если до конца 1990-х гг. главной сферой приложения трудовых усилий граждан Украины и Беларуси служила России, то ныне – объединенная Европа. Тем самым воленс-ноленс происходит не очень быстрый, но уже вполне ощутимый дрейф белорусской ментальности в западном направлении.

Но есть и третий фактор, который существенно ускоряет естественный дрейф Беларуси на Запад, хотя и придает ему вынужденный характер. И этот фактор – странная, если не выразиться сильнее и определеннее, позиция властвующей российской элиты. Не взирая на то, что Беларусь – единственный по-настоящему последовательный и верный стратегический союзник России, вопреки собственной интеграционистской риторике, конкретные действия России нередко носят подчеркнуто и демонстративно антибе-

лорусский характер. Взять хотя бы самый свежий (на момент, когда писалась статья) пример: запрет на ввоз белорусской молочной продукции в Россию. И это несмотря на то, что она на лучше (или, как минимум, не хуже качеством), чем российская, зато заметно дешевле!

Последние восемь лет антибелорусские эскапады Кремля слишком часто повторяются, чтобы считать их случайностью или простым совпадением. Если задаться вопросом об их причинах, то любая интерпретация неизбежно выводит на фигуру белорусского лидера Александра Лукашенко.

Рискну утверждать, хотя и заведомо зная, что в этом пункте встречу непонимание и несогласие значительной части белорусских читателей, что «последний диктатор Европы» в действительности оказался отцом-основателем белорусской государственности. По крайней мере таков объективный (то есть не зависящий от субъективных намерений и планов) исторический итог его деятельности.

Объяснение этому стоит начать с указания на то, что «белорусский батька» — очень талантливый политик, что признается всеми неангажированными наблюдателями – как российскими, так и западными. (*In passim* добавлю, что российские лидеры не могут простить Лукашенко его таланта популиста, его харизму, его мастерство искушенного политического тактика. На фоне бывшего председателя белорусского колхоза кремлевские властители выглядят весьма бледно, что сами прекрасно ощущают. И это ощущение выливается в их отношение и конкретные политические действия.)

Да, Лукашенко выстроил режим личной власти, но этот режим стал институциональным стержнем белорусской государственности и чем более эффективным он становился, тем более упрочивалась белорусская государственность. Конечно, с эстетической точки зрения было бы несравненно приятнее, сложись в Беларуси демократическая система, сопоставимая с современной польской. Но, говоря начистоту, в силу ряда серьезных причин это вряд ли было возможно. Реальный выбор, перед которым стояло белорусское общество в 1990-е гг., был не выбор между демократией и авторитаризмом, рынком и экономикой советского образца, а выбор между порядком и хаосом. Дабы убедиться в этом, достаточно посмотреть на современную ситуацию на Украине.

Колоссальная личная заслуга Лукашенко в том, что он сохранил в Беларуси порядок и стабильность, избежал драматического социального расслоения, спас от социального и культурного распада белорусское общества. (Русские слишком хорошо знают, какой кровавой – в прямом смысле слова! — ценой и какими чудовищными жертвами было оплачено становление капитализма в России.) Сделав это, Лукашенко заложил прочное основание независимой белорусской государственности -- наверняка более прочное, чем основание украинской государственности.

В то же время нельзя не признать, что формы и методы «ручного управления» страной выглядят анахроническими, а молодые поколения

белорусов с нарастающей силой требуют демократических перемен. Не говорю уже, что такого рода перемены – одно из ключевых условий сближения Беларуси с Западом. В этом смысле режим Лукашенко изживает себя, хотя еще и не изжил окончательно.

Не изжил хотя бы потому, что именно и только Лукашенко удается получать от России экономические преференции и кредиты, которые были использованы, в том числе, для частичной модернизации белорусской экономики, а не просто проедены. В то же время Лукашенко удалось предотвратить приватизацию (фактически – колониальное присвоение) наиболее рентабельных предприятий белорусской промышленности российскими нуворишами. Экономический суверенитет Беларуси – заслуга Лукашенко и еще один его персональный важный вклад в оформление и упрочение основ белорусской независимости.

Оценить это белорусы смогут лишь со временем, когда Беларусь попадет в «ласковые объятия» Евросоюза, а западный бизнес получит контроль – частичный или полный — над белорусской экономикой. Уж тогда-то белорусы в полной мере почувствуют: все, что говорила советская пропаганда о капитализме – чистая правда. Справедливости ради прибавлю, что олигархический капитализм по-русски гораздо, несравненно хуже западного капитализма и выбор в пользу последнего был бы для белорусского общества меньшим злом.

Хотя личный социокультурный профиль президента Лукашенко вряд ли можно назвать прозападным, под давлением обстоятельств (главное среди которых – недружественное отношение российского руководства) он вынужден делать поощрительные и примирительные жесты в отношении Запада. Можно сколько угодно иронизировать по поводу подобного поведения, однако нельзя не признать, что объективно оно ускоряет дрейф Белоруссии в западном направлении.

В конце концов, дело совсем даже не в Александре Григорьевиче. Хотя ему под силу ускорить или притормозить движение Беларуси в сторону Запада, он не в состоянии его остановить. Существующие фундаментальные факторы, о которых речь шла выше (институционализация независимости, смена поколений, изменение социокультурной ориентации и др.), похоже, делают это движение необратимым.

А что же Запад? Насколько можно разглядеть из Москвы, он с нарастающим интересом рассматривает перспективу интеграции страны с относительно компактной территорией, трудоспособным дисциплинированным и характеризующимся скромным уровнем притязаний населением, страны с сохранившейся и довольно развитой индустриально-технологической базой. При благоприятном развитии обстоятельств у Беларуси имеются неплохие шансы превратиться в «сборочный цех» европейской промышленности. И уж точно ее возможности интеграции с Западом выше, чем возможности Украины.

Континентальная масса и численность населения Украины весьма значительны по европейским меркам. Кроме того, ей присущи глубокие этнические и социокультурные расколы, ярко выраженный регионализм, политическая и экономическая нестабильность. Впрочем, даже в этом – крайне непростом — случае время все равно работает на Украину. Она чем дальше, тем заметнее дистанцируется от России и дрейфует на Запад.

Россия остается в гордом геополитическом и социокультурном одиночестве. Частью Запада ей никогда не стать даже гипотетически, но и говорить о какой-то евразийской ориентации России всерьез нельзя.

Говоря начистоту, российские элиты приложили недюжинные усилия, чтобы никто в постсоветском пространстве не конкурировал за право быть союзником России и гордился дружбой с ней. Трудно вообразить в качестве позитивного образца страну, где манипулируют демократическими процедурами, социальные контрасты в которой носят вопиющий характер, и которая при этом претендует на право учительствовать и наставлять. Если Россия и выступает моделью, то в негативном смысле, с добавлением «анти» — анти-модель, то есть то, от чего надо бежать сломя ноги. *Такая* Россия оказывается одним из ключевых факторов институционализации новых независимых государства и поиска ими новой геополитической и социокультурной идентичности. Беларусь в этом смысле никакое не исключение, а, возможно, наиболее яркое доказательство общего правила.

*Віктар Чайчыц*

# Першыя дыпламатычныя крокі Рэспублікі Беларусь ў Германіі

**Радзіма, мова і дыпламатыя.**

У маім лёсе і лёсе маёй сям'і германскі фактар адыграў значную ролю. Напэўна, гэта характэрна і для большасці беларусаў, бо ўсіх нас цесна пераплялі з немцамі гісторыя, геаграфія, экалогія, культура і эканоміка. Пагэтаму Германія была і будзе важнай краінай для Беларусі ў кантэксце еўрапейскага супрацоўніцтва.

Мой дзед Павел Чайчыц загінуў на вайне з немцамі. Загінула таксама шмат сваякоў і землякоў. Жудасна глядзець на магільную шыльду помніка аднавяскоўцам на радзіме дзеда ў палескім Здзітаве: там сярод прозвішчаў загіненых аж восем (!) Чайчыцаў – маладых і дужых хлопцаў, што злажылі свае галовы ў барацьбе з фашызмам.

Сямейная памяць захавала і іншыя ўспаміны: я ведаю ад бабулі, што ў час вайны маю маці, тады яшчэ маленькую дзяўчынку, якая загулялася на вясковай вуліцы, выратаваў нямецкі салдат, які своечасова заўважыў раз'юшаных коней і літаральна ў апошні момант выцягнуў яе з-пад капытоў і колаў фурманкі. Каб не той нямецкі салдат, дык можа не было б на гэтай зямлі і маці, і мяне, адпаведна…

Я заўсёды хацеў, каб мая Радзіма Беларусь ўспрымалася як салідная еўрапейская краіна, і лічыў, што вяртанню ў Еўропу будзе садзейнічаць шматгаліновае супрацоўніцтва з Германіяй — адным з лакаматываў еўрапейскай інтэграцыі. Для мяне заўсёды было важна, каб Беларусь успрымалася пры гэтым не як адміністратыўная адзінка, а як краіна са сваёй адметнасцю, гісторыяй і мовай.

Першыя крокі беларускай дыпламатыі ў Германіі былі зроблены пад бел-чырвона-белым сьцягам і "Пагоняй". Я ганаруся тым, што быў сярод тых, хто закладваў фундамент гэтай дзейнасці. У гэтым сэнсе для мяне вельмі сімвалічнай падзеяй стала адкрыццё пасольства Рэспублікі Беларусь у Германіі, дзе я працаваў саветнікам (не любіў ніколі гэту афіцыйную, не адпаведную беларускай мове назву пасады, і стараўся выкарыстоўваць слова "радца" ). Пад час урачыстай цырымоніі ў сакавіку 1994 года мне была даверана ганаровая справа – падняць дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг над будынкам пасольства Беларусі ў Боне — сталіца тады яшчэ не пераехала ў Берлін. Памятаю, што міністр замежных спраў П.Краўчанка, які знаходзіўся тады ў Германіі з афіцыйным візітам, сказаў, што сцяг няхай паддымае той, хто першым прыехаў працаваць у пасольства. З таго часу наш

беларускі сцяг залунаў у Германіі... Гістарычная падзея, якая выклікала слёзы радасці!

Дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Германіяй былі ўзноўлены 13 сакавіка 1992 года шляхам падпісання пагаднення ў Мінску ў час візіту міністра замежных спраў Германіі Х.-Д.Геншэра. Прашу заўважыць: узноўлены, а не ўсталяваны. Гэта была прынцыповая пазіцыя тагачаснага міністра замежных спраў П.Краўчанкі. Справа ў тым, што ў архівах былі знойдзены звесткі, якія пацвярджалі ўстанаўленне гэтых адносін у 1923 годзе, калі прадстаўнік РСФСР ў Германіі М.Крэсцінскі (дарэчы, беларус па паходжанні), атрымаўшы адпаведныя паўнамоцтвы ад ураду БССР, уручыў даверчы ліст прэзідэнту Германіі Ф.Эберту. Тагачасная эканамічная і геапалітычная сітуацыя паспрыялі беларуска-германскім адносінам. Германскі бок, аслаблены вайною і не задаволены палітыкай Антанты, быў тады вельмі зацікаўлены ў развіцці адносін з савецкімі рэспублікамі, што ўзніклі на руінах Расійскай імперыі. У 1922 годзе Германія пагадзілася пашырыць дзеянне дагавораў, падпісаных з Расіяй, на саюзныя з РСФСР рэспублікі і зрабіла заяву, што гэта будзе разглядацца як іх юрыдычнае прызнанне.

23 кастрычніка 1923 г. Германія і БССР абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі. [1]/

Дзеля гістарычнай праўды трэба адзначыць, што спроба ўсталяваць дыпламатычныя адносіны з Германіяй была зроблена яшчэ ў 1918 годзе кіраўніцтвам БНР. Але ва ўмовах вайны, нямецкай, а потым польскай акупацыі такое, канечне ж, было немагчыма. Аднак у 1919 г. у Берліне ўсё ж была адкрыта місія БНР (першая за межамі былой Расійскай імперыі), якая хаця і не мела афіцыйнага дыпламатычнага статусу, але праводзіла актыўную работу, выпускала інфармацыйныя бюлетэні і выдавала пашпарты, якія прызнаваліся ў замежжы. Першым афіцыйным прадстаўніком БНР у Германіі стаў кіраўнік Беларускай вайсковай місіі па справах ваеннапалонных капітан А.Борык. Трохі пазней урад БНР назначыў послом БНР у Германіі А. Смоліча [2]/, аднак немцы разглядалі яго толькі як прадстаўніка адной з некалькіх беларускіх палітычных сіл.

Гісторыя распарадзілася так, што дыпламатычныя адносіны паміж суверэннай Беларуссю і Германіяй доўгія дзесяцігоддзі чакалі свайго лепшага часу. Новыя магчымасці з'явіліся толькі пасля новых грунтоўных зменаў і падзей ў Еўропе ў канцы 1980-х і пачатку 1990-х гадоў.

Аб'яднаная Германія і суверэнная Беларусь прынялі рашэнне адчыніць свае пасольствы ў сталіцах – адпаведна ў Мінску і Боне. Першым паслом Рэспублікі Беларусі ў Германіі стаў П.Садоўскі, вядомы філолаг і палітык. Разам з ім мы аддалі многа сіл, каб дамагчыся афіцыйнага выкарыстання нямецкімі ўстановамі назвы "Republik Belarus" замест тэрміна "Weissrussland", які ўжо не адпавядаў новым рэаліям. Дзякуючы гэтым намаганням, улады Германіі прынялі адпаведную інструкцыю для

выкарыстання ў дзяржаўным справаводстве. Гэта была для нас важная палітычная (не толькі філалагічная) перамога. Гэта была павага да краіны і крок да большага разумення немцамі падзей, што адбываліся на прасторах былога СССР.

**Адкрыццё пасольства Беларусі ў Германіі. Пачатак двухбаковых адносін.**

У 1992 годзе я быў запрошаны з Масквы на працу ў МЗС Беларусі, дзе на той час не хапала спецыялістаў па Германіі. Праз некалькі месяцаў кіраўніцтва МЗС накіравала мяне на працу ў пасольства Беларусі ў Германіі, якое яшчэ трэба было стварыць. Пра пачатак дзейнасці пасольства добра, хаця мала і сьціпла, напісаў пасол П.Садоўскі ў сваёй кнізе “Мой шыбалет” [3]/. У нейкім сэнсе ён натхніў і мяне на ўспаміны.

На мой погляд, П.Садоўскі стаў вельмі яркай фігурай на гэтай пасадзе, высока паставіў планку для наступных паслоў Беларусі ў Германіі (амаль недасягальную) і змог закласці моцны падмурак двухбаковых адносін. Тут трэба шчыра сказаць, што дзейнасць і ініцыятывы пасла П.Садоўскага, мякка кажучы, часта неадэкватна ўспрымаліся ў Мінску, асабліва ў кабінетах Дома ўраду. Часам было дзіўна і крыўдна за лёс беларуска-германскіх праектаў і задумак, якія сталі ахвярамі ўнутрыпалітычных разборак у Беларусі або негатыўных адносін чыноўнікаў у цэнтры да пасла, які прыйшоў з шэрагаў апазіцыі.

Пачыналі мы пасольскую працу ў Германіі з вырашэння празаічных тэхнічных пытанняў. У лістападзе 1992 года я і П.Галавенка, які займаўся эканомікай, прыехалі ўдвох на літаральна пустое месца ў Бон, каб падрыхтаваць адкрыццё пасольства і прыезд пасла. Я зрабіў вельмі проста — прыйшоў у пасольства Расіі, якое размяшчалася ў будынку былога пасольства СССР, і папрасіў арэндаваць для пасольства Беларусі невялікі пакой для працы, аўтамабіль і кватэры. Сярод кіраўнікоў пасольства Расіі было шмат маіх калегаў па былой працы ў аддзеле Германіі Міністэрства замежных спраў СССР, пагэтаму нас сустрэлі даволі прыязна, дапамаглі. Мы, праўда, за ўсё плацілі і з самага пачатку падкрэслівалі, што размяшчаемся часова і абавязкова выедзем, як толькі знойдзем сабе адпаведны будынак.

Гэта кантраставала з пазіцыяй пасольства Украіны, якое таксама размяшчалася на тэрыторыі былога пасольства СССР у Боне, але не плаціла за арэнду і дамагалася падзелу савецкай маёмасці. Такім чынам, мы былі для расійскага пасольства нібы “лепшыя” за ўкраінцаў і атрымоўвалі некаторыя дывідэнды. Але з другога боку, сумна было бачыць, што кіраўніцтва Беларусі адмаўляецца і не прэтэндуе на сваю долю ў шматлікай маёмасці былога СССР.

Часам у гэтым расійска-украінска-беларускім трохвугольніку даходзіла да смешнага: просім у расіян, напрыклад, дадатковы стол, а яго ці няма, ці

трэба ўзгадніць (галоўны непрыступны начальнік, канечне ж, завхоз!), а ўкраінцы нам адразу ж: "Калі рускія вам одного стола нэ дають, то мы вам дамо два!". Іншы раз у гэтых разборках мне было па-чалавечы вельмі складана паводзіць сябе, бо і кіраўніцтва пасольства Расіі, і пасол Украіны І.Пісковый некалі былі маімі калегамі па аддзелу Германіі міністэрства замежных спраў СССР.

Здаралася, што некаторыя былыя расійскія калегі насцярожана адносіліся да мяне. Як не круці, ужо "не свой", а дыпламат іншай краіны. Той-сёй адпускаў жарты наконт "здрадніка" ці "кар'ерыста", які збег з Масквы ў Мінск пасля распаду СССР. Але гэта былі выключэнні. З удзячнасцю ўспамінаю сваіх былых калегаў-расіян: пасла В.Терехова, саветнікаў-пасланнікаў Ул.Грыніна і В.Курнікава, якія дапамаглі нам на першым этапе станаўлення пасольства Беларусі ў Германіі.

Добра і лёгка працавалася з украінскімі калегамі – саветнікам-пасланнікам В.Огрызко (потым стаў міністрам замежных спраў) і саветнікам Б.Сакалоўскім (потым працаваў эканамічным саветнікам прэзідэнта Украіны). Украінскае пасольства, дарэчы, было адзіным замежным пасольствам, дзе мы заўсёды і беспраблемна карысталіся беларускай моваи.

Паколькі спадкаемцам СССР стала Расія, Беларусь будавала адносіны з Германіяй літаральна з чыстага ліста, без цяжару былога палітычнага процістаяння. Гэта адчувалася і на практыцы: з самага пачатку беларускім дыпламатам, напрыклад, было дазволена свабодна перамяшчацца па краіне, а вось на расійскіх калегаў яшчэ нейкі час распаўсюджваліся абмежаванні, якія дзейнічалі для савецкіх дыпламатаў (ім трэба было за некалькі дзён рабіць пісьмовы запыт на паездкі звыш 50 км ад сталіцы).

Пачатак працы пасольства Беларусі быў вельмі складаны: пачыналі ж з нуля. Нямецкі бок нам шчыра дапамог з будынкам і нават некаторай мэбляй. Будынак адрамантавалі з дапамогай беларускай фірмы "Забудова". Часта праводзілі суботнікі. Сёння прыемна ўспомніць тыя першыя часы, калі ніхто не цураўся ніякай працы і ўсе дружна рабілі справу. "Навалімся, як мурашкі", — жартаваў П.Садоўскі. Нас яднала ідэя суверэннай Беларусі і прага канструктыўнай і канкрэтнай дзейнасці па рэалізацыі гэтай ідэі. Нам шчыра дапамагалі нашы куратары з МЗС Германіі – кіраўнікі дэпартаменту Усходняй Еўропы Й. фон Штудніц (потым працаваў паслом Германіі ў Маскве) і К.Нойберт.

У студзені 1993 г. пасол П.Садоўскі перадаў даверчы ліст прэзідэнту Р. фон Вайцзэккеру. Пачаўся рэгулярны палітычны дыялог па ўрадавай і парламенцкай лініі. У Бундэстагу была створана парламенцкая група "Беларусь" на чале з дэпутатам ад ХДС А.Крыднерам, з якой былі ў сталым кантакце беларускія калегі. Наша пасольства знаходзілася недалёка ад Бундэстагу, і туды можна было прайсці нават пешшу. Па суседству знаходзілася таксама і прадстаўніцтва зямлі Ніжняя Саксонія ў Боне, з якім мы мелі асабліва цесныя адносіны ў тым ліку і па чарнобыльскіх пытаннях.

Асабліва прыемна было бачыць, што не толькі шматлікія неўрадавыя арганізацыі гэтай зямлі, але і кіраўніцтва дбае пра беларускіх дзяцей. У прыватнасці, жонка прэм'ер-міністра Ніжняй Саксоніі Г.Шродэра (потым ён стаў канцлерам Германіі) асабіста збірала ахвяры для беларускіх дзяцей нават у час афіцыйных прыёмаў і мерапрыемстваў.

Стваралася салідная дагаворна-прававая база двухбаковых адносін у галінах палітычнага супрацоўніцтва, эканомікі і гандлю, культуры, барацьбы са злачыннасцю, кантактаў паміж моладдзю, адпачынку і лячэння дзяцей і г.д. Тэксты пагадненняў рыхтаваліся і падпісваліся на беларускай мове.

Многа часу ў пасольстве адбірала пратакольная дзейнасць, ноты, прыёмы, паездкі па краіне і г.д. Па просьбе нямецкага пратаколу даводзілася на амаль што ўсе афіцыйныя мерапрыемствы па краіне вазіць беларускі сцяг, бо ніхто не ведаў, як ён выглядае, і не меў яго ў запасе. На нямецкіх аўтабанах я прайшоў сапраўдную загартоўку як кіроўца. Памятаю, прыляцеў у Франкфурт-на-Майне міністр, сустрэлі мы яго, пасадзілі ў афіцыйны нямецкі картэж і паехалі на перамовы ў Бон (каля 140 км). Я быў вымушаны ехаць услед на службовым аўтамабілі пасольства. Каб не згубіцца, ехаў па аўтабану з той жа хуткасцю, што і нямецкія прафесійныя кіроўцы — месцамі больш 200 км у гадзіну! Пасля паездкі кашулю можна было хоць выкручваць!

Пасля афіцыйнага адкрыцця пасольства мы разаслалі адпаведныя ноты на бланках з "Пагоняй" у замежныя прадстаўніцтвы ў Германіі. Пасольствы суседніх з Беларуссю краін вырашана было наведаць асабіста. Запомнілася мая паездка ў пасольства Літвы. Літоўскія калегі пачыталі ноту, павіншавалі і, спыніўшыся на выяве вершніка, жартаўліва спыталіся, як жа нас немцы адрозніваць будуць. Мы доўга абмяркоўвалі тэму "Пагоні" — герба, які сведчыў пра наша агульнае еўрапейскае мінулае і, магчыма, пра агульнае будучае. Нажаль так не здарылася. Дыпламатычны старт у Германіі для Літвы і Беларусі быў амаль аднолькавы, але дзе зараз тая Літва і дзе Беларусь! Літва ўжо, напрыклад, раўнапраўны партнёр Германіі па ЕС і НАТО. А мы?

Вельмі важнае значэнне ў працы пасольства Беларусі надавалася гандлёва-эканамічным адносінам. Стартавыя ўмовы і тут былі неблагія: яшчэ ў савецкія часы Беларусь мела партнёрскія сувязі з Паўночным Рэйнам-Вестфаліяй, найбольш эканамічна развітай зямлёй Германіі. Паступова з'явілася новая інфраструктуры і ўмовы для кантактаў: у Германіі адкрыліся прадстаўніцтвы МТЗ ("Белімпэкс"), "Белавія", "Прыорбанку", у горадзе Карлсруэ з'явіўся Нямецка-беларускі дом эканомікі, навукі і культуры. Шмат новага ўзнікла і ў Беларусі: беларуска-нямецкі Міжнародны адукацыйны цэнтр, свабодная эканамічная зона ў Брэсце, прадстаўніцтвы некалькіх нямецкіх фірм. У канцы 1995 года ў

Мінску пачалі працу Кантактнае бюро зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія і прадстаўніцтва Гандлёва-прамысловай палаты г.Бона.

Трэба адзначыць, што разам з гэтым з'явілася і шмат якіх гэтак званых "прадстаўнікоў" і "кансультантаў", як беларускіх, так і нямецкіх, якія проста пацягнуліся за лёгкімі грашыма. Аднак шмат якія структуры не вытрымалі выпрабаванне часам і складанымі задачамі і паступова зніклі.

Германія ўвайшла ў пяцёрку галоўных гандлёвых партнёраў Беларусі. У 1995 годзе беларускі экспарт у Германію склаў каля 267 млн. USD, а імпарт з Германіі – каля 424 млн. USD (па выніках 2008 года об'ём узаемнага гандлю з улікам паслуг наблізіўся да 4 млрд. USD). У 1991-2001 г.г. Беларусь атрымала з Германіі ў рамках экспартных крэдытных ліній больш за 378 млн. USD, было прафінансавана каля 100 праектаў у розных галінах эканомікі. Толькі па праграме «Трансформ» з 1993 па 2003 г.г. Германія выдзяліла каля 40 млн. еўра для кансультацыйнай дапамогі. Аднак у параўнанні з суседзямі, напрыклад з Польшчай ці Літвой, гэта ўсё роўна было вельмі мала.

Актыўна развіваліся адносіны ў гуманітарнай сферы і ў галіне ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Уклад Германіі складаў у 90-я гады больш 40% ад ўсяго аб'ёму гуманітарнай замежнай дапамогі. У фінансавым плане гэта дапамога ў 1992-99 г.г., паводле нямецкіх дадзеных, склала 1 млрд. нямецкіх марак. Каля 400 фондаў, арганізацый і прыватных ініцыятываў усталявалі кантакты з партнёрамі з Беларусі. У 1990-я гады больш за 130 тыс. беларускіх дзяцей адпачывалі ў Германіі. Многія з іх бывалі там кожны год, набраліся нямецкага і еўрапейскага вольнадумства і склалі, як потым здалося ўладам Беларусі, сур'ёзны апазіцыйны патэнцыял. Чарнобыльска-гаманітарная праблематыка стала, такім чынам, значным імпульсам для трансфармацыйнага працэсу ў беларускім грамадстве. Вялікую ролю пры гэтым адыграла І.Грушавая, адна з асноўных арганізатараў беларуска-германскіх кантактаў па чарнобыльскай лініі.

У пачатку 1990-х я непасрэдна прычыніўся да ўсталявання супрацоўніцтва паміж "сілавікамі" Беларусі і Германіі на міністэрскім узроўні. Паколькі ў пасольстве Беларусі ў той час не было ваеннага аташэ, то мне прыходзілася, напрыклад, займацца і ваенна-палітычнымі справамі. У прыватнасці, суправаджаў у Германіі дэлегацыю Міністэрства абароны на чале з А.Мальцавым, дэлегацыю МУС на чале з міністрам Ю.Захаранкам.

Давялося ўдзельнічаць таксама ва ўсталяванні супрацоўніцтва паміж спецназамі памежных войскаў Беларусі і федэральнай паліцыі Германіі: у 1994 г. у Германію на першыя перагаворы прыязджала дэлегацыя на чале з генералам Я.Бачаровым, з якой мы наведалі ў тым ліку базу падрыхтоўкі вядомай нямецкай антытэрарыстычнай групы GSG 9 (я спадзяюся, што беларускі спецназ выкарыстоўвае атрыманы нямецкі вопыт па назначэнню – для барацьбы з тэрарыстамі!).

Былі і больш яскравыя для іміджу Беларусі мерапрыемствы па ваеннай лініі — напрыклад, незабыўнае выступленне ваеннага аркестра Міністэрства абароны Беларусі на "Музычным парадзе нацый" у студзені 1995 г. у Брэмене!

**Умацаванне беларушчыны ў Германіі. Трагічныя старонкі сумеснай гісторыі.**

У пачатку 90-х гадоў пра Беларусь у Германіі мала хто дакладна ведаў, яна ўспрымалася як частка былога СССР, а то і Расіі. Да таго ж, ня раз ўзнікала блытаніна з Расіяй і назвамі Weissrussland – Russland. У гэтай сітуацыі вельмі важным было паказаць беларускую адметнасць і зрабіць так, каб немцы ўспрымалі Беларусь як асобную незалежную краіну. Вялікую ўвагу мы прыдалі моўнаму пытанню. Усё справаводства ў пасольстве мы адразу ж перавялі на беларускую мову, уся афіцыйная нотная перапіска з МЗС Германіі вялася па-беларуску з перакладам на нямецкую мову (потым, праўда, мы пісалі толькі па-нямецку, каб спрасціць сабе працу). Памятаю, як збянтэжыліся адказныя асобы ў МЗС Германіі, калі перад першым візітам міністра П.Краўчанкі ў 1994 годзе мы паведамілі, што ён будзе весьці перагаворы на беларускай мове. У немцаў такіх перакладчыкаў не знайшлося, і яны спачатку ўгаворвалі нас перайсці на рускую мову, але потым былі вымушаны па нашай наводцы запрасіць на пераклад С.Ямшчыкова, нашага земляка, які стала пражываў ў Германіі, цудоўна гаварыў па-беларуску і прафесійна займаўся перакладамі. Такім чынам, з вуснаў міністра П.Краўчанкі беларуская мова ўпершыню афіцыйна загучала ў Германіі на ўрадавым узроўні.

Развіццё двухбаковых адносін не магло прайсці міма трагічных гістарычных падзей. Для немцаў, як і для беларусаў, вайна пакінула сур'ёзныя раны. Пасольства заўсёды ўдзельнічала ў мерапрыемствах па шанаванню памяці загіненых. Немцы рабілі шмат для таго, каб захаваць памяць аб канцлагерах і палеглых савецкіх салдатах, добраўпарадкавалі іх магілы. Доўгі час па ініцыятыве нямецкага боку мы вялі перамовы аб добраўпарадкаванні нямецкіх ваенных магілаў у Беларусі. Адпаведныя пагадненні Германія заключыла з усімі суседзямі, у тым ліку з Расіяй (1992) і Украінай (1996). На базе гэтых пагадненняў не толькі ўрады, але і ветэранскія, моладзёвыя і іншыя арганізацыі пачалі сумесную працу, якая садзейнічала ўзаемаразуменню і ўмацаванню дружбы.

У якасці жэсту добрай волі Германія прапанавала падпісаць разам са згаданым пагадненнем пагадненне аб супрацоўніцтве ў справе ліквідацыі ядзернай зброі, па якому для Беларусі планавалася выдзеліць 2 млн. марок. Беларускі бок падпісаў адобва пагадненні 28 чэрвеня 1996 г., аднак ратыфікаваў толькі адно — аб супрацоўніцтве па ядзернай зброі (27 верасня 1996 г), па якому выдзяляліся грошы.

Я вельмі шкадую, што пазіцыя ўладаў Беларусі і іх спасылкі на нібыта адмоўную рэакцыю ветэранаў не дазволілі нам давесці гэтую справу да канца. Такім чынам, Беларусь засталася адзінай краінай, якая адмовілася ад пагаднення аб ваенных магілах з Германіяй. Чуў недзе, што вайна лічыцца не закончанай, пакуль не пахаваны апошні салдат. Няўжо вайна з немцамі ў нас не закончана? Ці не прыйшоў час закрыць гэту старонку гісторыі? Новыя пакаленні людзей у Еўропе павінны, канечне ж, не забывацца пра мінулае, але трэба ісці наперад, ісці разам.

Зусім іншы лёс, на шчасце, напаткаў пагадненне аб кампенсацыі грамадзянам, якія былі сілаю забраны на працу ў Германію ў гады вайны. Перагаворы закончыліся падпісаннем у Боне ў 1993 годзе чатырохбаковага дакументу паміж Германіяй, Беларуссю, Расіяй і Украінай, паводле якога германскі бок абавязаўся выплаціць 1 млрд. марок. Сродкі былі размеркаваны такім чынам: Расія і Украіна — па 400 млн. марак, Беларусь — 200 млн. Дзякуючы гэтаму пагадненню каля 130 тыс. грамадзянаў Беларусі змаглі атрымаць ад ураду Германіі фінансавую кампенсацыю. Не магу тут не адзначыць самаадданую працу В.Герасімава, старшыні Беларускага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне", і У.Адамушкі, сённяшняга старшыні Камітэту па архівах і справаводству, з якімі мы цесна працавалі.

У Германіі я пазнаёміўся з беларускім ветэранам вайны А.Сільвашкам. Я ведаў яго завочна па легендарнаму фотаздымку пра сустрэчу саюзнікаў у 1945 годзе на мосце праз Эльбу ў горадзе Торгау, на якім камандзіры савецкага і амерыканскага ваенных патрулёў паціскаюць рукі адзін аднаму. У рамках мерапрыемстваў у сувязі з 50-годдзем заканчэння вайны гэтым камандзірам – А.Сільвашку і В.Робертсану ў 1995 г. прысвоілі званне "Ганаровы жыхар Торгау". Я прысутнічаў на гэтай урачыстасці ад пасольства Беларусі. Давялося зрабіць заўвагі і паправіць нямецкі пратакол і арганізатараў, якія спрабавалі ўжываць тэрміны "рускія ветэраны", "рускія салдаты" (як часта нам, беларусам, даводзіцца даказваць свой удзел у гістарычных падзеях!). Запрошаных савецкіх ветэранаў немцы падзялілі па пратаколу на расійскую і ўкраінскую групы, якімі апекаваліся адпаведна шматлікія дыпламаты з пасольстваў Расіі і Украіны. Апошняя акалічнасць трохі збянтэжыла А.Сільвашку, бо ён, як аказалася, быў толькі адзін з Беларусі, прычым прыехаў прыватна, і наша пасольства нічога не ведала пра яго прыезд. Аднак мы з ім хутка знайшлі, як кажуць, агульную мову і ўдвох, пад бел-чырвона-белым сьцягам прадставілі суверэнную Беларусь на ўрачыстым мерапрыемстве на Эльбе. Нам з ім было пра што пагаварыць, і не толькі афіцыйна: маё дзяцінства ж прайшло ў яго родным Клецкім раёне.

Тэма вайны паспрыяла майму знаёмству з І.Мюнцынг-Руф, цікавай нямецкай жанчынай з Баварыі, якая знайшла ў сямейным архіве і потым пры дапамозе пасольства перадала ў музей Вялікай Айчыннай вайны каляровыя

здымкі Мінска, зробленыя ў 1941 г. яе бацькам, афіцэрам нямецкай ваенна-паветранай выведкі.

Культура і міжчалавечыя кантакты на розных узроўнях, асабліва па лініі Мінск-Бон і гарадоў-пабратымаў (іх колькасць вырасла сёння да 20 з кожнага боку!), садзейнічалі ўмацаванню двухбаковых адносін. Беларускія дзеці і музычныя калектывы, якія прыязджалі на дні культуры Беларусі ў шматлікіх гарадах Германіі, дапаўнялі нашу працу народнай дыпламатыяй. З задавальненнем успамінаю пра сустрэчы і агульныя справы на нямецкай зямлі з А.Ваніцкім, В.Іпатавай, Л.Савік, А.Марачкіным, якіх мы суправаджалі ў Германіі. Вельмі цікавыя і змястоўныя дыскусіі праводзіліся нямецкімі навукоўцамі Р.Ліндерам і А.Зам з удзелам іх беларускіх калегаў А.Мальдзіса, У.Скалабана, З.Шыбекі і іншых. Не магу не згадаць і А.Майсеню (светлая яму памяць!), кіраўніка Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад», які вёў актыўныя і шматлікія кантакты з нямецкімі партнёрамі і шмат зрабіў для разумення Беларусі ў Германіі.

Сярод кантактаў пасольства з рэгіёнамі Германіі асобнае месца займаў горад Ляймэн, што пад Хайдельбергам, які нам раней быў вядомы хіба што як радзіма вядомага тэнісіста Б.Бэкера. Аднойчы пасольства атрымала запрашэнне ад мэра горада, які са спасылкай на запавет аднаго з памерлых жыхароў прапанаваў сустрэцца і аформіць перадачу Беларусі маёмасці, што засталася. Тое, што мы ўбачылі і пачулі ў Ляймэне, вельмі ўзрушыла нас: памерлы Ю.Попка быў беларусам-эмігрантам з Пружаншчыны і запавядаў перадаць Радзіме свае тры кватэры (у адной ён стварыў беларускі музей), як толькі Беларусь стане вольнаю і незалежнаю краінаю. Ю.Попка таксама на свае грошы ўсталяваў у ваколіцах Ляймэна помнік беларусам, загіненым у 1939-1945 гг.

У 1994 годзе намаганнямі пасольства і мэра горада Ляймэн Х.Эрбара быў створаны кураторыум, які павінен быў рэгуляваць пытанні спадчыны і кантраляваць фінансавыя справы, у тым ліку тыя, што датычацца беларушчыны, выплаты ганарараў ці стыпендый пісьменнікам, журналістам, студэнтам і г.д. Шкада, што з цягам часу беларускі асяродак у Ляймэне затух, а сабраныя Ю.Попкам унікальныя экспанаты перавезены ў гарадскі музей. Я вельмі шкадую, што абставіны склаліся так, што я не змог прадоўжыць працу па стварэнню ў Ляймэне саліднай базы беларусазнаўства. Нямым укорам служыць мне ў гэтым сэнсе “медаль партнёрства” горада Ляймэн, які я ў 1993 г. атрымаў ад бургамістра за развіццё адносін з Беларуссю.

Асобна трэба сказаць пра нашага знакамітага земляка Б.Кіта, з якім мы пазнаёміліся ў Франкфурце-на-Майне і які натхняў мяне сваёй энергетыкай і самаадданай працай. Ён здзіўляў мяне тым, што, нягледзячы на сталы ўзрост, ніколі не страчваў веру ў беларускую справу. Б.Кіт, былы заходнебеларускі настаўнік і амерыканскі навуковец, быў захоплены ідэяй

стварэння нацыянальнага ўніверсітэту ў Беларусі. Ён працаваў нават над прыкладнай праграмай па ўзору еўрапейскіх і амерыканскіх універсітэтаў, шукаў спонсараў, сабраў значны беларускі архіў і перадаў яго ў Беларусь. Б.Кіт быў заўсёды жаданым госцем у пасольстве Беларусі. Вельмі падрабязна пра яго напісала Л.Савік у кнізе "Вяртанне", якую мне потым аўтар падаравала.

Яркія ўспаміны засталіся пра кантакты з Беларускай службай "Радыё Свабода". У 1994 годзе нас запрасілі на 40-годдзе "Радыё Свабода" у Мюнхен, дзе тады рэдакцыя знаходзілася. Разам з маім калегам В.Марковічам мы былі першымі беларускімі дыпламатамі, якія афіцыйна наведалі Беларускую службу радыё, сустрэліся з яе дырэктарам В.Станкевічам, пазнаёміліся з супрацоўнікамі, архівам і г.д.. Цяжка пераказаць нашыя пачуцці — здзіўленне, цікавасць, некаторае напружанне, — бо ўпершыню прыехалі на радыё, пра якое ў савецкі час нам расказвалі як пра "гняздо ідэалагічных дыверсій". Са свайго боку, супрацоўнікі Беларускай службы ніяк не маглі паверыць, што сапраўды прыехалі беларускія афіцыйныя госці, ды яшчэ і па-беларуску гавораць! Потым яны нам шмат дапамагалі ў працы, асабліва пані Ларыса Верас. Гэта тычылася як інфармацыйнага напрамку, так і культуры, навукі, адпачынку дзяцей. Супрацоўнікі радыё часта наведвалі пасольства ў Боне, беларускія мерапрыемствы ў Германіі, адным словам, рабілі разам з намі агульную справу на карысць Беларусі.

Пасольства Беларусі ў Германіі прычынілася да перадачы ў Мінск апарату для друкавання беларускіх нацыянальных пашпартоў з выявай "пагоні" і партыі нацыянальных банкнотаў, якія, праўда, так і не былі ўведзены ў абарачэнне. Аднак жа мы ўсе ў пасольстве вельмі радаваліся, што паспрыялі, наколькі змаглі міжнароднаму ўмацаванню дзяржаўнасці Беларусі. Пра гэтыя факты напісаў у сваёй кнізе "Мой шыбалет" пасол П.Садоўскі.

Па афіцыйнай просьбе нямецкай турыстычнай фірмы "Марко Поло" я асабіста рэдагаваў у 90-я гады беларускую тапаніміку ў геаграфічных атласах, якія рыхтаваліся выдавецтвам для аўтамабілістаў (транслітэрацыя назваў лацінкай з беларускай мовы). Для мяне гэта была вельмі цікавая і важная работа. Тут я быў гатовы ісці нават далей, бо заўсёды лічыў, што назвы павінны гучаць паводле мясцовага вымаўлення. Вось, напрыклад, палеская вёска Здзітава, адкуль мае карані па бацьку, называецца па-тутэйшаму "Здытув" або "Здытово". Я лічу, што так, без звонкага беларускага "дз", яна павінна пісацца і лацінкай. Ну а калі гаворыць пра транслітэрацыю нашых назваў на лацінку з рускай мовы, дык скажэнні будуць яшчэ большыя.

**Натхненне і расчараванне**

Так здарылася, што ў час сваёй камандзіроўкі ў пасольства Беларусі ў Германіі мне давялося працаваць пад двума рознымі дзяржаўнымі сцягамі. Пачынаў у 1992 годзе пад бел-чырвона-белым, якому прысягаў і які сам жа ўзняў над пасольствам, а закончыў пад чырвона-зялёным, які нечакана вярнуўся з мінулага савецкага часу і стаў (з касметычнымі зменамі) афіцыйным у 1995 годзе.

Палітычныя падзеі ў Беларусі ў 1994-95 гадах, змена ўлады і дзяржаўных сімвалаў, з'яўленне пасады прэзідэнта, супрацьстаянне прэзідэнта з парламентам, з'яўленне палітычнай апазіцыі,– усё гэта не магло не адбіцца на працы пасольства і на адносінах да нас з боку афіцыйных установ Германіі.

Змена сьцягаў для пасольства мела не толькі вонкавы бок, яна азначала грунтоўныя ўнутраныя змены ў характары працы пасольства і падзяліла яе на два розныя этапы. Умоўна я б назваў першы з іх незалежніцка-рамантычным, а другі – этапам расчаравання. Мне было цяжка асэнсаваць самаму і тым больш растлумачыць нямецкім суразмоўцам, чаму новая каманда маладых палітыкаў, якая на выбарах ў 1994 годзе ў Беларусі перамагла камуністычную наменклатуру і на якую насельніцтва ўскладвала вялікія надзеі, пачала, прыйшоўшы да ўлады, заўзята вынішчаць парасткі беларушчыны. Незразумела было, чаму пасольства зняло бел-чырвона-белы сьцяг і шыльду з "Пагоняй", якую з мастацкім густам зрабіў для пасольства Ф.Янушкевіч; чаму пасол П.Садоўскі, які з'яўляўся дэпутатам парламенту і часта ездзіў на пасяджэнні ў Мінск, раптам прыняў удзел ў галадоўцы і быў зьбіты спецназам у памяшканні парламента! Мне цяжка было растлумачыць, чаму добра вядомы ў Германіі дэпутат А.Лябедзька, намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах, якога я часта суправаджаў у Бундэстаг, выключаны з парламенцкай працы і не можа прыехаць у Германію. Шмат якія афіцыйныя дзверы ў Германіі для нас раптам зачыніліся, а палітычны дыялог прыпыніўся, прычым прыпыніўся, як аказалася, на многа гадоў.

У нашай пасольскай працы ў той час была яшчэ адна важная тэма, якая не давала пакою і цяжка паддавалася асэнсаванню. Вельмі бянтэжыла амаль штогадовае падпісанне важных інтэграцыйных дакументаў паміж Беларуссю і Расіяй, якое, як здавалася многім, ставіла пад сумнеў суверэнітэт Беларусі і перспектыву яе існавання як асобнай дзяржавы. Немцы сустрэлі ўсё гэта па-рознаму: хто са здзіўленнем, хто насцярожана, а хто нават з нейкай палёгкай. Некаторыя палітыкі ў Германіі, відаць стамлёныя парадам суверэнітэтаў былых савецкіх рэспублік, пэўна разлічвалі на тое, што будзе лягчэй дагаварыцца з адною Масквою і што не будзе нейкі там, напрыклад, Мінск блытацца пад нагамі. Як тут не ўспомніць, што такія прэцэдэнты ўжо неаднаразова былі ў гісторыі, калі

Германія і Расія, бывала, дамаўляліся між сабою і проста дзялілі ўсе землі, што знаходзяцца паміж імі.

У той складанай і незразумелай для многіх сітуацыі не абышлося і без асабістых кур'ёзаў. Аднойчы я пачуў па "Радыё Свабода" каментар яго мінскага карэспандэнта, у якім са спасылкай на прамаскоўскі курс беларускага ўраду гаварылася пра беларускую дыпламатыю і ў прыватнасці пра тое, што саветнікам пасольства Беларусі ў Боне працуе В.Чайчыц, які прыехаў з Масквы і які, маўляў, невядома чые інтарэсы прадстаўляе... Для мяне гэта быў цяжкі маральны ўдар. Усё было пастаўлена з ног на галаву, бо менавіта ў Маскве я ячшэ ў савецкія гады актыўна займаўся беларускімі справамі, быў у ліку стваральнікаў Маскоўскага таварыства беларускай культуры ім.Ф.Скарыны, а потым добраахвотна пераехаў у Мінск, каб дапамагчы беларускай дыпламатыі.

З таго часу шмат чаго адбылося і перамянілася, але нацыянальны рамантызм застаўся ў маёй душы, і я вельмі шкадую, што ён вельмі слаба прыжыўся ў беларускай палітыцы і дыпламатыі. Я лічу, што без натхнення і апоры на беларушчыну цяжка будаваць незалежную дзяржаву, якая мела б сваю адметнасць і свой твар. Інакш можам так і застацца для Германіі і ўсёй Еўропы як "Weissrussland". Можа я памыляюся, можа прынцыпы прагматызму і нямецкай "рэальнай палітыкі" больш эфектыўней дапамогуць нам? Можа мы цікавыя немцам і Еўропе перш за ўсё як бязлікі транзітны рэгіён, як "насельніцтва" ці проста еўрапейцы? Час пакажа. Кім мы станем і які будзе наш лёс — залежыць ад нас!

**Замест эпілога.**

Германія як лакаматыў еўрапейскай інтэграцыі мае для эканомікі і палітыкі Беларусі вялікае значэнне. Асабліва гэта бачна на фоне шматгадовага палітычнага крызісу ў адносінах паміж Беларуссю і ЕС, які пачаўся пасля сумна вядомага рэферэндуму 1996 года і фактычна завяршыўся ў канцы 2008 года, калі Беларусі і яшчэ пяці былым рэспублікам СССР быў прапанаваны ўдзел у праграме "Усходняга партнёрства". Канечне ж, перад Беларуссю пастаўлены пэўныя ўмовы і іх, безумоўна, трэба будзе выканаць. Але галоўнае, што краіна атрымала шанс выйсці з палітычнай ізаляцыі ў Еўропе, якая пагражала суверэнітэту і існаванню Беларусі як дзяржавы. Своеасаблівы прарыў гэтай ізаляцыі, што да двухбаковых адносін, адбыўся менавіта на германскім напрамку: у лютым 2009 года міністр замежных спраў Беларусі С.Мартынаў **упершыню за 14 апошніх гадоў** афіцыйна наведаў Берлін, а ў чэрвені 2009 г. у Мінску **ўпершыню ад 1996 г.** адбылося пасяджэнне Беларуска-Германскай рады эканамічнага супрацоўніцтва.

Чытаў я пра гэтыя беларуска-германскія падзеі са змешанымі пачуццямі. З аднаго боку, радаваўся, бо ўбачыў у гэтым, нарэшце, праця́г і сваёй шматгадовай дыпламатычнай працы. З другога боку, мне было балюча

і сумна ўяўляць, што страчана столькі гадоў для адносін паміж Беларуссю і Германіяй. Які быў сэнс у прыпыненні гэтых адносін? Якая шкода была нанесена Беларусі як маладой дзяржаве! Колькі за гэты страчаны час можна было б канструктыўнага зрабіць! Я думаю, што менавіта такія думкі маглі быць і ў ветэрана нямецкай палітыкі Х.-Д.Геншэра, які ў якасці міністра замежных спраў Германіі ўзнаўляў дыпламатычныя адносіны з Беларуссю ў 1992 г., а нядаўна, у верасні 2009 г., ізноў наведаў Мінск – фактычна ізноў дзеля ўзнаўлення палітычнага дыялогу з Беларуссю, якому ўсё яшчэ не хапае дынамікі і напаўнення.

Ад пачатку суверэнітэту Рэспублікі Беларусь адбыўся, фактычна, толькі адзін афіцыйны двухбаковы візіт на вышэйшым узроўні: у 1992 годзе С.Шушкевіч, Старшыня Вярхоўнага Савету, які ў той час з'яўляўся кіраўніком дзяржавы, наведаў Германію і быў урачыста, па ўсіх правілах пратаколу прыняты прэзідэнтам Р. фон Вайцзэкерам. Візіт у адказ з Германіі ў Мінск да гэтага часу па розных прычынах так і не адбыўся. Усе астатнія, даволі рэдкія сустрэчы на вышэйшым узроўні праводзіліся ў рамках міжнародных мерапрыемстваў і насілі рабочы характар, пакуль зусім не спыніліся з 1997 года ў сувязі з санкцыямі ЕС.

Гісторыя дыпламатычных і палітычных адносін паміж Беларуссю і Германіяй сведчыць аб нявыкарыстаных магчымасцях. Сёння з праграмай "Усходняга партнёрства" мы ізноў атрымалі шанс змяніць сітуацыю. Нас з Германіяй – у адрозненне ад пачатку 90-х гадоў — звязваюць не толькі гісторыя і нейкія маральныя аспекты, але ўжо і шматлікія двухбаковыя і шматбаковыя пагадненні, дзе мы выступаем як раўнапраўныя партнёры. Трэба напоўніць рэальным зместам гэтыя пагадненні, выйсці на новы ўзровень партнёрства і весці пастаянны дыялог з Германіяй на ўсіх напрамках, у першую чаргу на палітычным. Гэта дапаможа нам хутчэй выправіць памылкі, недапрацоўкі мінулага і ўмацаваць пазіцыі Беларусі ў еўрапейскай сістэме каардынатаў. Гісторыя вучыць, што калі не праяўляем актыўнасці (не хочам або не можам) і не дамаўляемся мы, то дамаўляюцца за нас, без нас і за наш кошт!

Для мяне беларуска-германскія адносіны – гэта не толькі мінулае і ўспаміны, нявыкарыстаныя магчымасці, але перш за ўсё сённяшні, прагматычны дыялог з той палітычнай, эканамічнай і грамадскай Германіяй, якая паспрыяе Беларусі вярнуцца ў Еўропу — туды, дзе яе карані, і, хочацца верыць, недалёкая будучыня.

---

1/ Документы внешней политики СССР. T.V. М., 1961. С. 663.

2/ Сакалоўскі У. Надзвычайная дыпляматычная місія БНР у Нямеччыне (1919-1925) // Архэ. №3/2009.

3/ Садоўскі П. Мой шыбалет. Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе. Радыё Свабодная Еўропа/ Радыё Свабода, 2008.

*Аляксей Марачкін*

## Лінія прыкрага падзелу

Велізарнае значэнне ва ўсіх сферах жыцця мае агульна-культурны патэнцыял нацыі. Гэта сапраўды велізарны нявыкарыстаны рэсурс. Адмаўленне ад традыцый, нацыянальных каштоўнасцяў непазбежна вядзе да страты нацыянальнай ідэнтычнасці і ў выніку – да страты дзяржаўнага суверэнітэту. Духоўнасць, маральнасць – сёння гэта палітычныя і эканамічныя катэгорыі. І тут велізарную ролю павінная адыгрываць нашая інтэлігенцыя, творчая ў першую чаргу. У выніку ад яе залежыць, куды будзе зарыентаваная нацыя. Развіццё нашай грамадскай супольнасці не павіннае ігнараваць традыцыйныя беларускія каштоўнасці: мову, культуру, гістарычную памяць. Іначай гэта будзе не нацыянальнае развіццё, а развіццё ў чужых інтарэсах. [...]

Русіфікацыя нашага краю сёння дасягнула апагею. У паўсядзённым жыцці [...] мова існуе на ўзроўні сувеніру. Ва ўладных установах Беларусі яе цалкам ігнаруюць. Магчыма, адзіным выключэннем будзе Міністэрства культуры з тае прычыны, што яго ачоліў беларускамоўны міністр культуры – Павел Латушка. Прэзідэнт краіны адносна мовы беларускай выказаўся адназначна: “На белорусском языке нельзя высказать нечто великое”. Калі б такое сказаў прэзідэнт Польшчы ці Літвы, то ягоная кар’ера назаўтра была б скончаная. Лічу неабходным заявіць, што сённяшняя моўная палітыка вядзе да этнацыду нацыі і страты суверэнітэту. Таму неабходна вярнуць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай у нашай краіне, як гэта было прапісана ў Канстытуцыі 1994 года. [...]

У беларускай мове начальнік краіны беспамылкова адчуў прысутнасць апазіцыі, і пры нагодзе, калі трэба таптаць гэтую апазіцыю, ён здзекліва пераходзіць на беларускую мову. Такое стаўленне фармуе ў шараговых людзей, ягонага электарату, негатыўнае стаўленне да беларускай мовы. [...]

Нігілізм у гістарычнай навуцы недапушчальны, але і засмечваць людскую памяць псеўдагероямі, кананізаваць – гэта дэзарыентаваць чалавека. На постсавецкай прасторы Беларусь – самая савецкая краіна. Кожны раённы цэнтр, абласны горад непамерна насычаны бальшавізмамі: вуліцы Свярдлова, Кнорына, Мяснікова, Фрунзэ... Па помніках Леніну мы, бадай што, стаім на першым месцы. Толькі адзін горад – Маладзечна – прынцыпова правёў дэкамунізацыю назваў. [...] І гэта дзякуючы дэмакратычным, нацыянальна сведамым дэпутатам гарадскога савету і, безумоўна, светлай памяці Генадзю Карпенку [і Генадзю Каханоўскаму – *уклад.*]. У той час думалася, што ініцыятыву маладзечанцаў падхопіць сталіца – Мінск. Але мы пайшлі па шляху блукаючых вуліц. Праспект Скарыны перабег на канец горада, Машэрава саступіла Пераможцам. Шыльды мяняюць, толькі партрэты адны і тыя ж.

"Лінія Сталіна" правяла па нашых душах крывавую мяжу, і мы заселі ў розныя акопы. Сталіністы па адзін бок, антысталіністы па другі. Асабліва гэтае размежаванне будзе адбывацца, калі АБСЕ прыраўняла сталінізм да гітлерызму. [...]

Нацыятворчыя працэсы ў Беларусі не скончаныя, тое, што мы маем у нашай культурнай спадчыне, магло б быць большым і якаснейшым, але калі параўнаць з 1910 ці 1913 годам, з Северо-Западным краем, то мы за гэты адрэзак зрабілі нямала. Беларускія энтузіясты ствараюць свае культурніцкія асяродкі, прыватныя музеі. За гэты час з'явілася шмат найцікавейшых кніжак, навуковых даследаванняў, унікальныя, на мой погляд, часопісы "ARCHE", "Дзеяслоў", па якіх будучае пакаленне будзе вывучаць наш культурны, духоўны набытак.

*Бюлетень БЗБС "Бацькаўшчына", 2009, № 7*

*Алег Рудакоў*

# Хатні кансэрватызм.
# Праблемы аб'яднаньня беларусаў у межах Расіі.

Выступленне на V з'ездзе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"
17 ліпеня 2009 г., Мінск

Дзень добры шаноўныя суродзічы!

У першую чаргу жадаю павітаць Вас ад імя Рэгіянальнага грамадзкага аб'яднаньня "Іркуцкае Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага"!

Павітаць і шчыра павіншаваць з нашым сёньняшнім сьвятам – чарговай сустрэчай беларусаў з усяго Сьвету! Бо кожная такая сустрэча, гэта, па-першае, і нейкі аналіз нашых спраў, а, па-другое, гэта магчымасьць намеціць новыя арыентыры ў нашай дзейнасьці. Але ёсьць і яшчэ адна акалічнасьць. Мы можам паглядзець адзін аднаму ў вочы, пагаманіць, параіцца, сустрэцца са "старымі" сябрамі, пазнаёміцца з новымі.

Дык чым ня Сьвята! Сапраўднае Сьвята! Дык з гэтым я вас і віншую!

І тут будзе, дарэчы кажучы, годна выказаць вялікую Падзяку нашаму кіраўніцтву, кіраўніцтву ЗБС "Бацькаўшчына", а асабліва Ўправе і Аргкамітэту правядзеньня гэтага З'езда. І ў большай ступені падзякаваць спадарыням Алене Макоўскай і Ніне Шыдлоўскай і іх камандзе. Бо я добра разумею, што гэта значыць арганізаваць такі З'езд. Колькі трэба высілкаў і часу, колькі трэба маральнай стойкасьці і ўпартасьці. А колькі трэба акумуляваць грошай...

Я думаю, што ўсе дэлегаты падтрымаюць мяне і наша плясканьне ў далоні будзе і азначаць нашу ўдзячнасьць!...

Увогале прыемна бачыць, што Беларускі Рух, **"Рух сапраўднага адраджэньня шчырага беларускага парыятызму"** не згасае, а я лічу, што дык і значна пашыраецца. І гэта робіцца ня гледзячы на, як бы мовіць, **зусім не спрыяльныя ўмовы.**

Я ня буду казаць за разьвіцьцё Беларускага Руху ў іншых краінах. Тут мне бракуе фактаў. Але я добра ведаю як разьвіваецца Беларускі Рух у Расіі, і, у першаю чаргу, у Прыбайкальлі. Тут я маю 13 год вопыта кіраўніцтва беларускай супольнасьці.

У сёньняшнім выступе я хацеў зрабіць невялічкі аналіз нашага Руха, зрабіць некаторыя параўнаньні і выказаць некаторыя прапановы.

Дык вось. У Расіі і зараз, дарэчы, доўжыцца ўсплёск нацыянальна-культурнай дзейнасьці народаў не рускай нацыянальнасьці. Хоць, праўда, некаторыя русафілы, напужаўшыся такога ўсплёску, пачалі ствараць і свае Цэнры Рускай культуры, пры гэтым утвараючы гвалт, што рускім у Расіі

цяжка жыць і “адраджаць” сваю нацыянальную культуру. Як быццам ім штосьці пагражае. Як быццам у Расіі больш не гамоняць на рускай мове, альбо не выходзяць газеты, альбо не працуюць на рускай жа мове тэатры, кінастудыі, альбо не вядзецца на рускай мове дакументацыя, альбо ВУЗЫ перайшлі на лацінку і г.д.

Так, у нас у Іркуцку, як толькі пачаліся ствараецца нацыянальна-культурныя аб’яднаньні, дык адразу зьявіўся і Цэнтр русскай культуры (ЦРК) пры Тэатры народнай драмы. Гэты тэатр, дарэчы, мае добры калектыў у плане творчага разьвіцьця. Для гэтага тэатра маецца асобны радок ў бюджэце нашай вобласці. Усе артысты і адміністрацыя працуюць стала на вызваленных пасадах, і ім яшчэ кожны год Упраўленьне па справах рэлігій і нацыянальных адносін пры ўрадзе Іркуцкай вобласьці як Цэнтру рускай культуры выдзяляе не малыя грошы з агульнага бюджэтнага пірага, які дзеліцца на ўсе нацыянальна-культурныя аб’яднаньні нашага рэгіёна.

Аняго ж, трэба, каб руская культура не згубілася ў межах Расіі. Дарэчы вось нам Рэгіянальнаму грамадзкаму аб’яднаньню “Іркуцкае Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага” (РГА ІТБК) не выдзелялася грошай з гэтага агульнага бюджэтнага абласнога пірага ўжо тры гады запар. Ані воднай капейчыны. А вось ЦРК дык без пытаньняў – грошы атрымлівае.

А прадстаўляеце, каб у Беларусі паўсюль паадчыняліся Цэнтры Беларускай культуры з абавязковай дзяржаўнай фінансавай патрымкай, якія б дбалі пра беларускасьць ва ўсім?

Увогуле ў Расіі я падзяляю ўсе нацыянальна-культурныя аб’яднаньні на чатыры групы.

**Першая – умоўна назавём іх “метрапольныя”** – гэта тыя якім добра і стала дапамагае іхныя Дзяржавы. У Іркуцку да такіх НКА належуць літоўскі, польскі, нямецкі, фінскі, габрэйскі цэнтры. Гэтым аб’яднаньням выдзяляюцца грошы з метраполій на розныя праграмы і нават проста на разьвіцьцё. Вось, напрыклад, літоўцаў у нас у вобласьці згодна апошняга перапісу (2002 года) налічваецца каля 1600 чалавек. Але ў іх маецца сваё консульства (праўда ганаровае – адна багатая літоўка па паходжаньню, якая стала жыве ў Іркуцку і з’яўляецца грамадзянкай Расіі – прызначана ганаровым консулам Літвы), і праз гэта консульства ідзе фінансаваньне Цэнтра Літоўскай культуры “Швітурыс” – “Маяк”. Даходзіць да сьмешнага. У студзені гэтага года да мяне прыходзіць старшыня Літоўскага цэнтра і кажа: “Алег, дапамажы. Нам Літва выдзяляе 500.000 расійскіх рублёў на разьвіцьцё на 2009 год. А я ня ведаю куды іх падзяваць? Што з імі рабіць? У цябе такі вялікі вопыт. Можа параіш што? А то ж у канцы года мне трэба рабіць за іх справаздачу.”

Шчыра кажу. Такая зайздрасьць мяне апанавала, што ледзь стрымаўся. Альбо іншы прыклад з тымі ж літоўцамі. У траўні Літоўскі

цэнтр і іх ганаровы консул дае шырокую абвестку, што яны будуць сьвяткаваць 1000-годдзе літоўскай дзяржаўнсьці. Таму запрашаюць усіх, але па спецыяльных білетах на Вечарыну і банкет. Прычым па тэлефоне паведамляюць, што на банкет дала грошы консульства, таму ён будзе шыкоўны. І што Вы думаеце, сабралася амаль уся іркуцкая эліта. Прыйшлі і дэпутаты, і чыноўнікі, і навукоўцы, і культурныя дзеячы. І вось усім ім "распавялі" пра мужную гісторыю літоўскага народа і гісторыю іх дзяржавы ВКЛ. Даходзіла да зусім сьмешнага. Адна бібліятэкарка (руская, але ёй далі даручэньне) распавядала пра літоўскіх пісьменьнікаў. І першым знакамітым на увесь сьвет літоўскім паэтам называе... Адама Міцкевіча, які нарадзіўся па яе словах... "ў Літоўскай губерніі". Дзе менавіта – не ўдакладнялася. Другая выступоўца (татарка, але ёй далі даручэньне) распавяла пра "літоўскіх татараў". Пры гэтым у яе дакладзе прагучала, што літоўскія татары дагэтуль захавалі сваю веру і маюць мячэці. Самая буйная ў Відзах... і хуценька прамовіла: "Праўда цяпер гэта тэрыторыя Беларусі". Прагучала гэта так, што можна было падумаць, што беларусы захапілі літоўскі горад Відзы.

На гэтым мерапрыемстве выступіў і я. Як змог, раставіў некаторыя акцэнты. Але мне далі слова ў канцы, пры гэтым папярэдзіўшы, што часу засталося мала і банкет стыне. Таму шмат казаць не прышлося. Праўда я потым зрабіў артыкул: "Сучасны літовец і гістарычны ліцьвін – ці ёсць розніца". Гэты артыкул надрукаваны ў "Маланцы" і ў прэстыжным каляровым іркуцкім часопісе "Іркуцкія кулуары", які чытае ўся наша мясцовая эліта.

Але гэтыя прыклады добра сьведчаць пра мэтанакіраваную працу Літоўскай дзяржавы і яе падтрымкі Літоўскага цэнтра ў Прыбайкальлі. Нагадаю, што літоўцамі запісаліся па перапісу толькі 1600 чалавек. Беларусаў жа там пражывае каля 50000 тысяч чалавек. Але мы ня маем у вобласці сваё консульства, мы ня маем ніякай падтрымкі з боку сваёй дзяржавы.

**Другая група НКА – назавём іх "міграцыйныя"** – гэта тыя, якія ў большай ступені займаюцца падтрымкай сваіх працоўных мігрантаў. Да такіх у Іркуцку належаць таджыкі, кіргізы, аўганцы, азербайджанцы, армяне, узбекі, кітайцы і інш.

Яны мала праводзяць культурніцкія мерапрыемствы. А калі і праводзяць, то ў асноўным мусульманскія сьвяты. Іх галоўная задача дапамагчы сваім мігрантам. І яны гэта пасьпяхова робяць. Схема такая. Прыязджае, напрыклад, таджык у Іркуцк на заробкі. Калі ён трапляе ў сваю дыяспару, то павінен плаціць даволі высокія грашовыя складкі, але яму ў гэтым выпадку дапамагаюць ўладкавацца на працу. І, самае галоўнае, дапамагаюць атрымаць за гэтую працу грошы. Таксама дапамагаюць вырашыць усе пытаньні з міграцыйнымі службамі. Калі ж

такі таджык будзе шукаць працу ў Іркуцку самастойна, то ніхто не дае гарантый, што яго не ашукаюць, альбо не “заграбе” міграцыёнка.

**Трэцьцяя група НКА – назавём іх “дзяржаўныя”** – гэта Цэнтр Бурацкай культуры і Цэнтр Рускай культуры. Яны маюць стаўкі. У іх маюцца людзі прафессіяналы, якія на вызваленых пасадах кіруюць рознымі гуртамі і адказваюць за розныя накірункі. У бурат, напрыклад, маецца каля 30 ставак.

**Чацьвёртая група НКА – назавём іх “аматарскія”** – гэты тыя, якія працуюць на аматарскіх пачатках. Зусім не маюць ні вызваленых пасад, ні сталай патрымкі з боку абласных ворганаў улады, і таксама амаль забытыя сваімі метраполіямі. Да такіх у Іркуцку належуць беларусы, украінцы, татары і чувашы. Праўда, іншым разам траім апошнім народам іхныя гістарычныя Радзімы так ці інакш дапамагалі. Беларусам жа Прыбайкальля пашэнціла меней. Праўда, некаторыя нават у нас сярод актывістаў ІТБК мяне папракаюць, што не умею прасіць. Можа гэта і так.

Але літоўцы, альбо палякі не просяць свае Дзяржавы. Яны атрымліваюць дапамогу стала, метадычна і ня толькі на праекты. Больш таго, у іх нават спрошчана сістэма справаздачы. Можна актам сьпісаць грошы.

Пры ўсім пры гэтым, я ні колькі ні павышаю, беларускае таварыства ў Іркуцку лічыцца самым актыўным, самым наватарскім, самым маладзёвым з усіх 40 НКА Іркуцкай вобласьці.

Сакрэт нашай актыўнасьці вельмі просты. Мы самаахвярна працуем на выхаваньне беларускага шчырага сапраўднага патрыятызму – у першаю чаргу сярод моладзі. Тыя беларусы, альбо нашчадкі беларускіх перасяленцаў, якія трапілі да нас, прыйшлі ў актыў, ужо не шкадуюць ні сваіх грошай, ні свайго часу, ні свайго здароўя на карысць беларускага культурнага адраджэньня. Такая ў нас мікраатмасфера. Я вельмі ўдзячны ўсім сваім паплечнікам за іх самаахвярнасьць. Асабліва тым, хто сёньня прысутнічае на гэтым форуме: Воле Галанавай, Алене Сіпаковай, Васілю Ракіце, Наташы Бакуновіч.

Наша суполка на сёньняшні дзень мае 11 адзяленьняў па Іркуцкай вобласьці, 17 творчых калектываў. Мы працуем па 20 накірунках. Пры ІТБК ствараюцца самастойныя юрыдычныя адзінкі – мясцовая нацыянальна-культурная аўтаномія “Беларусы Чарамхова” і Маладзёвы клуб “Крывічы”. Мы выдаем свой бюлетэнь, праводзім абласны фэст-конкурс “Гучы гоман Беларускі” і шмат робім іншых цікавых мерапрыемстваў. Кожны месяц у нас робяцца нейкія справы.

Але пры усім пры гэтым з 50000 беларусаў Прыбайкальля ў нашу суполку ўвайшлі толькі каля 1000 чалавек. Гэта толькі 2%. І гэта пры ўмове вельмі актыўнай 13-гадовай працы ІТБК.

У чым праблема? Я бачу праблему толькі ў характары беларуса.

Яшчэ ў час службы ў арміі я пачаў заўважаць. Вось нават два украінцы сустрэнуцца выпадкова і ўсё яны землякі "не разлей вода". А беларус беларуса сустрэў. "Во ты адкуль". "З Гомеля". "А, а я з-пад Полацка". "Ну добра, пакуль". І разышліся.

Я доўгі час ніяк не мог зразумець у чым прычына такіх паводзін. Я задаваў сабе пытаньне: "Чаму беларусы ў Расіі вельмі неахвотна аб'ядноўваюцца ў сваю нацыянальную супольнасьць?" А потым да мяне дайшло.

Я гэта называю агулам "Хатні кансерватызм". Але ён складаецца з некалькіх частак:

1. Самаіндэфікацыя (не ўсе беларусы ведаюць, што яны беларусы).

Вось адзін яскравы прыклад з маёй этнаграфічнай вандроўкі па беларусіх вёсках Прыбайкальля. У вёскі Тарнопаль, якая ўзнікла ў 1937 годзе я размаўляў з цёцяй Дусяй Заікінай, якой было болей за 60 год. На маё пытаньне: ці шмат тут пражывае беларусаў, яна мне адказала (даслоўна):

- У нас цяпер ужо пашці ўсе рускія, вось сятра мая дык яна была беларуска, а я і то ўжо руская.

- Дык яна што не родная Вам сястра --- пытаюся я.

- Не, радная.

- Дык як тады, атрымалася, Ваша сястра радная — беларуска, а Вы асабіста не?

- Ну яна ж нарадзілася яшчэ ў Беларусі ў Калядзічах, дзе та кажуць пад Гомляй, а я ж ужо нарадзілася тут, у Сібіры.

- Але па крыві Вы ж мусіць усё ж такі таксама беларуска.

- (Пасля некаторага роздуму) Па крыві можа і беларуска, але ж у пашпарце запісана, што руская. Я ж тут нарадзілася...

2. Самаізаляцыя (я беларус, але пра гэта лепш не згадваць, і увогале мне і аднаму добра ў сваёй хаце).

3. Сарамлівасць (я беларус, але мая мова ды культура нязначныя, ды і жыву я ў Расіі, дык што тут ужо...).

4. Недасьведчанасць ( я беларус, мова і культура мае значныя, але асабіста я анічога пра гэта ня ведаю, дык лепш і не ўзгадваць).

5. Савецкая інтэрнацыянальная /прарасійская/ адукаванасць (мы можа і беларусы, аднак наш народ рускі).

6. Адсутнасць Бацькаўшчыны ( я беларус, але каму я патрэбен).

7. Кепская праца актыва ІТБК з магчымымі сябрамі Таварыства. (Гэта не значыць, што мы кепскія, але ніхто ў нас не мае вызваленай пасады, што замінае штодзённай працы на карысць ІТБК).

На кожную частку ў мяне ёсьць канкрэтныя праклады з майго 13-гадовага вопыта кіраўніка беларускай супольнасьці ў Прыбайкальлі. Але гэтыя прыклады я зараз ня буду распавядаць.

Спачатку мне было крыўдна за беларусаў, а цяпер я ганаруся сваім Народам. Бо калі паглядзець нашу гісторыю, то што мы ўбачым? Усе

значныя войны праходзілі праз Беларусь. На гэтых войнах гінулі лепшыя, найбольш патрыятычныя. Заставаліся ў жывых толькі "прыспасабленцы". Больш таго, наша Радзіма была пад палітычным, эканамічным, культурным уплывам нашых суседзяў. Як можна было выстаяць? Колькі мы ведаем у такіх умовах асіміляваных зьніклых народаў.

Але нашы продкі выстаялі! Яны, дзякуючы сваёй упартасьці і свайму кансерватызму захавалі для нас нашу мову, нашу традыцыю, нашу гісторыю!

Цяпер прыйшоў наш час. Наша пакаленьне, у прыватнасьці маё пакаленьне, ня ведае што такое вайна. А як вядома, кожнае пакаленьне нараджае сваіх герояў. Нашы героі тут, сярод нас. Дык ці зможам мы адрадзіць Беларускі Рух, **"Рух сапраўднага адраджэньня шчырага беларускага парыятызму"!**

Мы проста абавязаны гэта зрабіць!

Увогале, нам, у тым ліку і дзяржаўным органам, трэба знайсьці адказ на пытаньне: "Каго Вы жадаеце выхаваць у Беларусі?"

Бо ёсьць вялікая розніца – жыхар Беларусі і шчыры патрыёт Беларусі! Жыхар Беларусі ня будзе размаўляць на беларускай мове, ня будзе адстойваць нашу гістарычную спадчыну, ня будзе за мяжой годна казаць: я – беларус!, ня будзе абараняць інтэрэсы сваёй краіны.

Але ўсё гэта самаахвярна будзе рабіць шчыры беларускі патрыёт.

Дык каго вы жадаеце ўбачыць у выніку. Да чаго імкнецца Беларуская інтэлегенцыя і да чаго імкнецца дзяржаўная улада? Ці ў адным накірунку гэтыя намаганьні?

І яшчэ адна заўвага. Вось я прыязжаю ў Беларусь і пераходжу на беларускую мову. Размаўляю паўсюль ї з усімі. Бываюць розныя здарэньні, але зараз я пра іх ня буду казаць. Галоўнае, што я паказваю тутэйшым жыхарам, што ёсьць яшчэ беларуская мова на вуліцы. І самае цікавае, што апошнім часам мне адказваюць таксама на беларускай мове.

Але мясцовыя беларускія патрыёты (можа ня ўсе, але я ведаю многіх), між сабой размаўляюць па-беларуску, але з народам на вуліцы толькі па-расейску. Я вось не разумею, гэта вы што, не давяраеце свайму народу? Альбо пагарджаеце ім? Альбо баіцеся размаўляць па-беларуску? А вось прадстаўце, што ўсе беларускія патрыёты выйдуць на вуліцу і пачнуць гаманіць з чужымі людзьмі па-беларуску! Дык можа гэта стане новай моднай хваляй?

Добра, зараз трохі прапаноў для нашага далейшага Беларускага Руху.

Я пазнаёміўся з праектам закона аб суайчынніках і плянам працы ЗБС на наступны перыяд. Гэта ўсё я ўхваляю і прапаноўваю:

✓ правесці ЗБС сумесна з дзяржаўнымі органамі Фэст у Беларусі беларускіх гуртоў замежжа;

✓ Стварыць пры ўрадзе РБ Міністэрства па ўзаемадзеяньню з Беларускай дыяспарай.

✓ Ствараць Рэсурсныя цэнтры ЗБС сумесна з дзяржавай на базе дыяспар.

✓ ЗБС праводзіць грантавую палітыку. Шукаць вялікіх грантадаўцаў і драбіць вялікія гранты для суполак за мяжой.

✓ Дзяржаве вярнуць льготы для дзяцей беларусаў Расіі пры паступленьні ў ВУЗы Беларусі, пры ўмове хадатайніцтва беларускай суполкі.

✓ Правесьці асобны Маладзёвы Сход – "Нашчадкі Беларускага народа".

✓ Падрыхтаваць і правесці ў 2010 годзе Навуковую канферэнцыю – 100 год Сталыпінскаму перасяленьню беларусаў у Сібір.

✓ ЗБС "Бацькаўшчына" узяць на сябе ініцыятыву выдаць падручнікі па беларускай мове і гісторыі беларускага народа для беларускай моладзі і дзяцей замежжа, у прыватнасьці для расійскіх беларусаў.

Вось такія прапановы. Спадзяюся, што наш Беларускі Рух будзе набіраць моц.

І будзе заўжды жыць Беларускі народ! І будзе жыць Беларусь! Жыве Беларусь!

# Беларуская мова – аснова незалежнасці Беларусі

## Зварот V з'езду Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Мова – адзін з галоўных здабыткаў і галоўная прыкмета сталасці любой нацыі. Беларуская мова за час свайго існавання перажыла некалькі этапаў: ад дыялектаў да мовы дыпламатычных зносінаў, якой нараўне з лацінскай карысталіся на абшарах ад Эльбы да Урала, ад Балтыкі да Чорнага мора.

На жаль, на сённяшні дзень у Беларусі працягваюцца працэсы русіфікацыі, беларуская мова знікае з усіх сфераў ужытку: адукацыя, сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўнае справаводства і інш. Гэта не гледзячы на тое, што з 1996 г. беларуская і руская мовы маюць роўны статус дзяржаўных. Але факты сённяшняга дня сведчаць, што на дзяржаўным узроўні падтрымліваецца толькі руская мова.

Да прыкладу, на сёння сайты многіх міністэрстваў, выканкамаў мясцовага ўзроўню не маюць паўнавартаснага беларускамоўнага варыянта, у банках краіны пасля ўвядзення сістэмы сканавання не прымаюцца плацёжныя дакументы на беларускай мове ад юрыдычных асобаў, узоры бланкаў накладных і ўсіх гаспадарчых дакументаў, падатковых дэкларацый зацверджаны толькі на рускай мове. Бланкі мытных дэкларацый па-беларуску былі аддрукаваныя толькі ў 2008 годзе і дасюль з'яўляюцца рэдкасцю на пунктах мытнага кантролю. Недапушчальная сітуацыя з беларускай мовай у сферы адукацыі. У Беларусі існуе некалькі беларускамоўных дашкольных установаў. На пачатку 2008-2009 навучальнага года колькасць вучняў усіх тыпаў школ склала 1 064 466, у тым ліку у школах з беларускай мовай навучання – усяго 195 592 (18,4% ад агульнай колькасці), з рускай мовай навучання – 792 535 вучняў (74,4%). У параўнанні з мінулым навучальным годам колькасць агульнаадукацыйных установаў з беларускай мовай навучання паменшылася на 1,7%.

У 2008-2009 навучальным годзе ў першых класах навучаліся 91 290 вучняў, з якіх 73 579 (83,3% ад агульнай колькасці) навучаліся на рускай мове, 14 712 (16,7% ) – на беларускай.

З агульнай колькасці навучэнцаў першых класаў агульнаадукацыйных установаў гарадскіх мясцовасцяў на беларускай мове вучацца 1,9 %, на рускай – 98,0%. Па сельскай мясцовасці гэтыя паказчыкі наступныя: на беларускай мове навучаюцца 68,6% вучняў, на рускай – 31,4%.

Сярод 54-х вышэйшых навучальных установаў няма ніводнай з цалкам беларускамоўным выкладаннем. Фактычна адбываецца дыскрымінацыя навучэнцаў па моўнай прыкмеце. Гэта пазбаўляе матывацыі бацькоў вучыць дзяцей па-беларуску не толькі ў Беларусі, але і ў асяродках беларусаў замежжа.

Беларуская мова фактычна не гучыць на частотах FM-радыё. Рашэнне дзяржавы аб 75% квоце абавязковага гучання беларускай музыкі ў дзённым радыёэфіры не прадугледзела канкрэтнага моўнага патрабавання. Такім чы-

нам, у эфіры гучыць беларуская музыка амаль 98% на рускай мове. Беларуская мова амаль знікла з усіх каналаў дзяржаўнага тэлебачання.

Пры заяўленай роўнасці беларускай і рускай моваў у Беларусі асноўныя фінансавыя сродкі беларускіх падаткаплацельшчыкаў выдаткоўваюцца на падтрымку рускай мовы, якая такой падтрымкі не патрабуе. Мае месца фінансава-эканамічная дыскрымінацыя беларускай мовы.

**Фактычная моўная сітуацыя ў нашай краіне прывяла да таго, што з-за беларускага чынавенства на пачатку 2009 года ЮНЭСКА – уплывовая структура ААН, — аднесла беларускую мову да моваў, якім пагражае знікненне.**

У сувязі з гэтым **звяртаемся да ўсіх дзяржаўных органаў з патрабаваннем** забяспечыць беларускай мове гарантаваны законам рэальны статус дзяржаўнай мовы, гарантаваць яе прысутнасць ва ўсіх сферах жыцця дзяржавы і грамадства, у тым ліку:

- спыніць русіфікацыю, забяспечыць роўнае з рускай мовай фінансаванне з дзяржаўных крыніц сферы ўжытку беларускай мовы – тым самым забяспечыць рэальнае раўнапраўе беларускай мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага ўжытку;
- пачаць выпраўленне сітуацыі для хутчэйшага стварэння адукацыйных ланцужкоў “дзіцячы садок – школа – ВНУ”, што дасць магчымасць для кожнага беларуса атрымаць поўны курс адукацыі на беларускай мове;
- прывесці ў адпаведнасць з колькасцю жыхароў Беларусі, для якіх беларуская мова з’яўляецца роднай (74% у 1999 г.), час эфірнага вяшчання на беларускай мове дзяржаўных каналаў тэлебачання і радыё ў Беларусі;
- стварыць моўнае асяроддзе ў гарадах і вёсках Беларусі праз вонкавую рэкламу на беларускай мове назваў дзяржаўных установаў, крамаў, кафэ, назваў вуліц і інш.;
- штогод выдзяляць адпаведныя фінансавыя сродкі на падтрымку беларускіх садкоў, школ, класаў у асяродках беларусаў замежжа;
- стварыць усе ўмовы для папулярызацыі беларускай мовы сярод насельніцтва краіны з мэтай далейшага надання беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь.

**Заклікаем усіх грамадзян** Рэспублікі Беларусь, незалежна ад месца іх сталага пражывання, прыняць актыўны ўдзел у чарговым (пасля 1999 г.) перапісе насельніцтва Беларусі, які адбудзецца ў бягучым, 2009 годзе, і ад вынікаў якога на дзесяць бліжэйшых гадоў будзе залежаць лёс беларускай мовы і культуры, беларускамоўнай адукацыі, кнігавыдавецкай справы і палітыкі ўладаў у галіне рэкламы і візуальнай інфармацыі.

*Пяты з’езд беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*
*18-19 ліпеня 2009 г., г. Мінск*

***Гальяш Леўчык***

*Да 130-х угодкаў ад нараджэння паэта*

## Мая прадмова

Нічога ня хочу.., нічога, нічога –
Ні грошы, ні славы, ні шчасьця сьляпога,
А толькі ўсё жду я, каб родная мова
Хутчэй дачакала свабоднага слова!
Пакуль не даждуся багацця такога –
Нічога ня хочу.., нічога, нічога!

*Белорусское эхо. Киев. 1918. №8. 30 сентября.*

* * *

***Ларыса Геніюш***

*Да 100-х угодкаў ад нараджэння*

Не згінай мяне, я не сагнуся,
Не баюся ні страхаў, ні зла.
Нездарма я з зямлі беларускай
Непахіснай сасною ўзрасла.

Напрасткі йду няходжанай сцежкаю,
Мудрасць продкаў у гарачай крыві,
Ні прад кім не схіляю паспешна
Крыху гордай сваёй галавы.

Абмінаю ўсю набрыдзь, што вокал
Чалавечы мой блытае лёс.
Гляджу ўдаль, не маргнуўшы нат вокам.
Розум цемру праніжа наскрозь!

* * *

***Мікола Ермаловіч***

Чужыя кветкі на нашым полі,
Чужыя зоркі ў нашым небе,
Чужыя кветкі нам душы труцяць,
Чужыя зоркі нас з тропу зводзяць.
Чужыя кветкі хутчэй мы вырвем,
Чужыя зоркі смялей мы згасім.
Свае мы кветкі засеем ў полі,
Свае мы зоркі запалім ў небе.
Свае нам кветкі душу ўваскросяць,
Свае нам зоркі шляхі пакажуць.

*З архіва ўкладальніка. Машынакопія.*

* * *

***Васіль Зуёнак***

## Адабраны мой край...

Адабраны мой край,
Край, стаптаны бязроднаю паствай,
Анямелы мой край,
У якую партапіў ты пастку?
Хто наставіў яе
І сыноў тваіх зманнаю сілай
Мусіў збэсціць свае
Карані, і шляхі, і магілы?
Хто забавіў і чым
Ад цябе адракацца самохаць?
Хто забіць і забыць навучыў
Слова роднае імем эпохі?..
Адабраны мой край,
Занядбаны, — далёка хаўрусаў
Ты зламысных сваіх не шукай, -
Гэта мы, гэта мы – беларусы...

*Зуёнак В. Пісьмы з гэтага свету.*
*Мн.: Мастацкая літаратура, 1995.*

* * *

*Галіна Каржанеўская*

## О так, мы людзі на балоце…

О так, мы людзі на балоце,
Яго няпроста асушыць.
Здаўна ва ўціску і галоце,
Але за тое з прагай жыць.

Цярпець вучылі чужаніцы,
Хіліцца долу безь віны.
Наш чалавек таму баіцца
Начальства, сваркі ды вайны.

Была нязломнаю надзея
Займець уласны лапік свой.
Для нас капейка – як падзея,
А воля – птах над галавой.

Лёс, што ня песьціў і ня гушкаў,
Нам так абрыдзеў, хоць ты плач!
Лунае прывідная птушка.
Дасюль пацьвельваецца, бач…

*Верш на свабоду. Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя. Радыё Свабода, 2002.*

* * *

*Марыя Рамок*

## Мучаць — кра́ты ці краты́?..

Мучаць –
кра́ты ці краты́,
Што за кратамі сядзяць?
Джаляць –
ска́ты ці скаты́?

Токам б'юць, хлуснёй сьмярдзяць!
Мы краты – і я, і ты.
Мы браты – і я, і ты.
Душаць –
 га́ды ці гады́?
Гвалцяць нас, рабуюць нас!
Разумеем я і ты:
Штось рабіць настаў нам час.
Кроч за мной і не дрыжы –
Да апошняе мяжы!

*Верш на свабоду. Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя.*
*Радыё Свабода, 2002.*

*Аляксей Каўка*

# Масква Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Халімон на каранацыі"

Скрозь падарожнічае прыгожае пісьменства Беларусі ў Новым, адранжэнчым часе. Вандруюць аўтары і персанажы «Энеіды навыварат», «Тараса на Парнасе», «Путешествия...» П.Шпілеўскага, «каўказскіх» старонак Т.Лады-Заблоцкага, «ваколічных» — Ул. Сыракомлі. Нашто ўжо дамавіты шляхціч Завальня ў фантастычных замалёўках Я. Баршчэўскага, але ж і ён духоўна наталяецца прыгодніцкімі апавяданнямі менавіта з вуснаў падарожных— начлежнікаў у яго гасціннай сядзібе. Не менш прыстойна глядзіцца ў гэтым жа радзе і першы Беларускі Дудар — Дунін Марцінкевіч з «Халімонам на каранацыі».

Заўважаецца і скразны лейтматыў варухання творцы ў часе і прасторы: пазнаванне свету, сябе ў свеце, сцверджанне ўласнае духова-культурнае тоеснасці ў сутыкненні з іншымі народамі і культурамі. Гэтай самавыяўленчай якасцю найперш і прываблівае чытача каларытны вобраз гарадзецкага старшыні Забалотнага — здаецца першага ў нашай літаратуры беларускага чалавека, эстэтычна тыпізаванага на іншанацыянальным фоне.

Праўда, пад той час наша славеснасць ужо мела мастацкі прэцэдэнт беларускага, дакладней «літвінскага», у польскамоўнай выяве, самавыяўлення, праз інакшае, выклікальна-адчуджанае ўспрыняцце расійскае рэальнасці. Маем на ўвазе Міцкевічавы «Дзяды».

Абодва прыклады — і Марцінкевіча, і Міцкевіча — пры іх не аднолькавай мастацка-філасофскай каштоўнасці, могуць, мяркую, разглядацца як сузалежныя, хоць і процілеглыя варыянты ўспрымання расійскага свету: арыстакратычна-пратэстнага («Дзяды»); сялянска-патрыярхальнага, памяркоўнага, у пэўным сэнсе згодніцкага («Халімон...»). І першы і другі парадаксальна спалучаюцца ў гістарычным досведзе нацыянальнага самапазнання беларуса, стаючыся з часам устойлівымі рысамі яго светабачання, а нават ментальнасці.

Мо не вельмі перабольшаным было б прышушчэнне: і сёння, у XXI-м сталецці пэўная частка нашых суродзічаў імперскі сіндром у грамадзкім жыцці суседняе краіны ўспрымае конгеніяльна колішняму погляду на праблему славутага Наваградца: «Biedny narodzie, żal mi twojej doli, // Znasz tylko jeden heroizm: niewoli» («Бедны народзе, шкада тваёй долі, // Адзіны знаеш геразім: няволі» [1-с.374].

Але значны адсотак беларускага, даўно не патрыярхальнага соцыуму з захапленнем вітаў бы – у Маскве або Мінску – каранацыю "добрага царочка", нават, калі б той "дабрыні" спадарожнічала чарговая

## *Святлана Міхайлоўская – Алесю Калядзе*

*Першы ліст*

Дзень добры, Алесь!

Пагатаваўшыся некалькі гадоў у "генеялагічным супе", я стала заўважаць, што праблемы пошука продкаў хвалююць тых людзей, у якіх у жыцці , скажам так, ня ўсё спраўдзілася.

Каб чалавек адчуваў сябе ў жыцці цалкам упэўнена, ён павінен мець пад сабою моцны падмурак, якім з'яўляецца вялікая дружная сям'я, дзе суладна жывуць некалькі пакаленняў. Стагоддзе таму гэта натуральна, без усялякіх умоў, успрымалася, як галоўная мэта жыцця. З прыходам Саветаў старыя каштоўнасці прымусова былі вытрасены з галоў людзей, а пустата запоўнена камуністычнай лухтой. Чалавек атрымаў свабоду не выконваць Божыя запаветы. Не марнаваць сілы і час на нараджэнне і выхоўванне дзяцей. Свабода жыць толькі для сябе. Можа, пагэтаму зараз знайсці сям'ю, у якой усё добра, якой па-добраму можна пазайздросціць – так складана. Можа, для гэтай упэўненнасці ў жыцці, людзі і падмацоўваюць свой падмурак, шукаючы гэтую вялікую і дружную сям'ю ў мінулым? Мой бацька, сын сасланага "кулака", пасля вайны застаўся ў арміі. Сям'я, як павялося ў ваенных, пераязджала з аднаго месца службы на другое. Мне пашанцавала – нарадзілася ў Беларусі, у Паставах. Вучылася і скончыла школу ў Чавусах. Потым паехала вучыцца ў Мінск. Паставы амаль не памятаю. Дзесяць гадоў у Чавусах – памятаю сваё колішняе адчуванне, што я там часовая, прыезджая. Хаця зараз, калі езджу на магілку маці, сэрца трохі хвалюецца ад успамінаў. Мінск, у якім пражыла сорак гадоў, люблю – так, як можна любіць награмаджэнне шкла і бетона. Але зараз выбрала б жыццё бліжэй да прыроды, спакайнешае, без мітусні. Сасланая бабуля Алена памерла заўчасна, дзед Васіль трохі пазней – аднаго разу пабачыў мяне, гадавалую.

Калі жыла ў Чавусах, ва ўсіх сяброў былі дзяды і бабулі ў вёсцы, свая alma mater, было куды з'ездзіць на летніх канікулах. У мяне гэтага ня было ніколі. (З маёй маці бацька ажаніўся на Урале, яна адтуль). Мае генеалагічныя пошукі далі нечаканы для мяне вынік – я знайшла ня толькі продкаў, але і сваю радзіму – дакладней прарадзіму, як вы трапна заўважылі – Случчыну. Трохкутнік, у якім перамяшчаліся мае продкі: Осаў – Бярэзінка – Смольгаў – намалёваны на Случчыне. (Можа і было што яшчэ да Осава – калі пашанцуе, знайду).

У Смольгаў з'ездзіла. Калі на радаўніцу з дачкой садзіліся ў аўтобус на Магілёў, з нябёс прагучала запрашэнне наведаць і Осаў: адначасова з нашым адпраўляўся аўтобус Мінск-Бабоўня, праз Сунаі, Шышчыцы, Строхаў... Сэрца ад гэтай аб'явы скаланулася – гэта ж мая прарадзіма мяне запрашае! Так што мая замалёўка ў колішнем пісьме пра жыццё продкаў на

гэтай зямлі цалкам спісана з маіх уяўленняў, на жаль...

З павагаю,
Ваша віртуальная зямлячка Святлана М.

*Другі ліст*

Добры дзень, Алесь!

Пісала Вам з кампутара дачкі на рускай мове (ў яе не настроены беларускі рэгістр), і такое ў мяне было адчуванне, гледзячы на гэтыя радкі, што пішу ня я, а нейкі другі чалавек. Хаця на беларускай мове дасылаю лісты толькі Вам і Васілю Грыбоўскаму-Гурыновічу з форуму "ЗБШ".

Дасланае Вамі інтэрв'ю пра "беларускасць" мне падалося вельмі цікавым. На гэтую тэму даўно пара пісаць дысертацыі, а ня толькі артыкулы ў газеты. Адразу прыгадала ўсіх сваіх сяброў і родных, "пратэстыравала" іх на беларускасць.

Калі ж іх "раскласці" па катэгорыям, што ж атрымаецца?

Першая: гэта тыя, якія амаль што ўсё жыццё жывуць на беларускай зямлі (перайначыўшы словы рускага класіка – сала беларускае ядуць!), але адносяцца да гэтага пытання амаль што варожа: "ненавіджу гэтую беларускую мову!". Гэтая катэгорыя падзелена на дзве групы.

Першая – гэта выхадцы з тэрыторыі нашай вялікай суседкі, якія ген велікадзяржаўнага панавання атрымліваюць, здаецца, ўжо ў момант нараджэння. З маіх блізкіх – гэта мае родныя брат і сястра, і жонка майго пляменніка. Чамусці гэтыя людзі нізавошта не жадаюць прызнаць Беларусь сваёй другой радзімай, хаця з'язджаць адсюль ніхто з іх не збіраецца.

Другая частка гэтай катэгорыі яшчэ страшнейшая – гэта людзі, народжаныя на беларускай зямлі, якім "беларускасць" здаецца нечым другавартасным, зневажальным. Гэта – нашыя беларускія "янычары", якіх выгадавала савецкая ўлада. Нажаль, гэта мой любімы татачка, які гадаваўся ў сям'і сасланага "ворага народу", і якому ў расейскай школе ва ўральскім шахтпасёлку ўдзяўблі ў галаву, што гаварыць па беларуску – сорамна. Словы "Ўсё ж-такі я беларус!" я пачула толькі напрыканцы яго жыцця. Гэта таксама мой муж, народжаны і ўзгадаваны на Беларусі, які калісці на маё пытанне: так кім жа ж ты сябе лічыш? — адказаў: я – рускі! Ці пытаўся ў мяне: бабуля мне часта гаварыла: трасцы табе! – а што такое "трасца"? Пэўна, колькі гадоў таму была такой і я, але ж нешта ў ва мне схамянулася, і я зразумела, што быць чалавекам без Радзімы – проста немагчыма.

Ёсць катэгорыя людзей, якую цікавяць толькі матэрыяльныя аспекты жыцця – нацыянальнае пытанне для іх проста не існуе, не цікавае яно ім. Абы грошай больш. Дык такія, пэўна ж, ў кожнай краіне ёсць.

Дзве гэтыя катэгорыі складаюць прыкладна трохі больш за палову насельніцтва Беларусі (на мой суб'ектыўны погляд).

І, нарэшце, трэццяя катэгорыя – людзі, ў якіх абуджана пачуццё нацыянальнай годнасці, якім балюча, калі зневажаюць іх Радзіму, якія на 100 адсоткаў лічаць сябе беларусамі. Іх можна таксама падзяліць на дзве часткі: пасіўную і актыўную. Да пасіўнае я зараз далучаю сябе: ў будзённым жыцці я карыстаюся рускай мовай, але калі да мяне звяртаюцца па-беларуску, адказваю гэтаксама. Калі шмат чытаю ці пішу на беларускай, пачынаю і думаць на гэтай мове. Лёс Радзімы, яе эканамічнае і культурнае жыццё для мяне неабыякавыя. У пашпартах маці і бацькі была напісана, што яны – рускія. Спачатку я сябе таксама лічыла рускай, пакуль не перасекла ўпершыню вясною беларуска-расійскую мяжу і не заўважыла розніцу паміж нашымі і расійскімі палеткамі, пакуль не пачула там дзіцячую дражнілку: "Васька трус, беларус!". Тады зразумела, што мы ўсёж-такі розныя.

Зараз у Мінску часта можна сустрэць размоўцаў на беларускай мове: гэта студэнты адпаведных спецыяльнасцей, навукоўцы, "нефармалы". Але ж, каб чалавек сам абраў беларускую мовай паўсядзённага ўжытку і карыстаўся ёй "без дай прычыны", а проста па ўласнаму жаданню – я ведаю толькі адзін такі прыклад. Мне вельмі прыемна, што гэта – мая сяброўка. Лёс прымусіў яе з'ехаць з Мінску назад у вёску, каб даглядаць нямоглых бацькоў. Пасля іх адыходу яна там і засталася жыць. Дык вось, у вялікіх Багушэвічах (Бярэзінскі раён) яна амаль што адна размаўляе па-беларуску.

Не мая жаночая справа аналізаваць глабальныя прычыны такога стаўлення беларусаў да сваёй мовы. Канешне, тут можна згадаць і позняе узнікненне менавіта беларускай граматыкі і незалежнай беларускай дзяржаўнасці, і моўную палітыку савецкай ўлады. Але, мне здаецца: каб вырашыць пытанне з нашай мовай, трэба нам вырвацца з жалезных абдымкаў нашага "старэйшага рускага брата". У гэтых абдымках мы апынуліся яшчэ да першага падзела Рэчы Паспалітай і знаходзімся зараз: патрэбны танныя нафта і газ, патрэбна кудысці прадаць тавары ўласнай вытворчасці. Дзіўна, але каму больш за ўсіх трэба, каб талерантныя недарэкі-беларусы адчувалі сябе рускімі? Адказ адзіны – больш за ўсіх – Расіі.

А прыкладам могуць быць усе былыя савецкія рэспублікі, акрамя нас.Там калі і ёсць моўныя праблемы, так яны ў тых, хто размаўляе па-руску, а не на мове тытульнай нацыі. Каб выйсці з гэтых абдымкаў, трэба перастаць прыкра замоўчваць гістарычны факт, што да акупацыі 1795 года Расія была першым нашым ворагам. А зараз аб гэтым гучна гаварыць нельга. Вось, цікава, як ставяцца да праблемы гістарычных адносін паміж Англіяй і Францыяй самі англічане і французы зараз? Яны ж амаль увесь час ваявалі паміж сабою?

Ну і яшчэ мне лезе ў вочы факт, які можа быць прычынай. У нас у афіцыйнай палітыцы паміж паняццямі "радзіма" і "ўлада" стаіць знак роўнасці. Здрадзіў уладзе = здрадзіў радзіме. Хочаш змяніць уладу = здраджваеш радзіме. Хаця радзіма для мяне – гэта мая сям'я, мой дом, мой горад (вёска), мая Беларусь. Сказаць: мая радзіма – гэта мая ўлада – язык не варочаецца.

А пра пратэстантаў Квяткоўскі нешта загнуў. Не секта гэта. (У мяне стрыечная сястра ходзіць у пратэстанцкі храм). Мне беларусы здаюцца больш падобнымі не на пратэстантаў, а на адвечных партызанаў: увесь час вымушаны хавацца і думкі свае хаваць...

І пра тое, што беларусамі не нараджаюцца, трэба ўдакладніць. Не нараджаюцца – гэта ў сем'ях, дзе муж і жонка (часам, толькі хтосьці адзін) адносяцца да першых дзвюх маіх умоўных катэгорый. А калі зараз у сям'і свядомых, адданых сваёй Радзіме сужэнцаў народзіцца дзіця – яно і народзіцца адразу беларусам ці беларусачкай. Адсюль можна зрабіць аптымістычную выснову: ў нашай нацыі ўсё яшчэ наперадзе!

З павагаю,
Святлана М.

*Трэці ліст*

Добры дзень, Алесь!

Цікава, ў які перыяд жыцця чалавек пачынае атаясамляць сябе, як прадстаўнік пэўнай нацыянальнасці? Не ведаю, што гавораць пра гэта псіхолагі, а ў мяне гэта здарылася нейдзе гадоў у дванаццаць, калі ў нашай школе (ў адным з райцэнтраў Магілёўшчыны) было дазволена вучням "вызваляцца" ад вывучэння беларускай мовы. Спачатку толькі дзецям вайскоўцаў, пасля – дзецям бацькоў небеларускай нацыянальнасці. Гэта адбывалася прыкладна ў сярэдзіне шасцідзесятых. Зараз сорамна, але тады я гэтаму ўзрадавалася і хуценька папрасіла бацькоў напісаць такую заяву. Прынамсі, асоба настаўніцы беларускай мовы адыграла ў гэтым не апошнюю ролю. Урокі праходзілі нецікава, вучні яе не паважалі і не баяліся, пагэтаму на гэтых уроках заўсёды было шумна, і кожны рабіў, што хацеў. Напрыканцы гэтага "вызвалення" ў класе з дваццаці сямі вучняў на ўроку беларускай засталося нейдзе з сем "гаротнікаў", бацькі якіх аказаліся самымі "ўпартымі" і не хацелі пісаць гэтую адмысловую заяву. "Вызваленыя", гуляючы па школьным двары ў час урока, вельмі спачувалі сваім "нявызваленым" сябрам.

А падставай для напісання заявы было тое, што і маці, і бацька "па пашпарту" ў мяне былі рускімі. Натуральна, што пры запаўненні формы на атрыманне першых у жыцці ўласных "корачак", я напісала тое ж самае. Якое ж маё было здзіўленне і, між іншым, абурэнне, калі ў сваім пашпарце я

прачытала, што я — беларуска! Не буду тлуміць галаву чытачу падрабязным "псіхааналізам"сваёй асобы. Скажу толькі, што ў той час не афішавалася, але мелася на ўвазе, што быць рускім – прэстыжна, а другія нацыянальнасці стаяць на ўзровень ніжэй. Прычым у штодзённым жыцці гэта само сабою разумелася і ніяк не тлумачылася. Тыповая фраза: "Што ты хочаш, ён жа,..(паляк, яўрэй, татарын і г.д. – устаўце патрэбнае)!". Прычым пра беларусаў так не гаварылі. Пэўна, яны падразумяваліся зусім недарэкамі нейкімі, не вартымі назвы. Ці хутчэй за ўсё, таксама лічыліся рускімі. Матчынай мовай (дакладна: роднай мовай маёй матулі) для мяне была руская, у сям'і чыталі толькі рускія кнігі і газеты. Не памятаю, каб у сям'і гучала беларуская гаворка. У такой атмасферы ў мяне не было ніякага сумневу ў тым, што я – руская.

Амаль у кожнага з сяброў майго дзяцінства была "свая" вёска, дзе жылі дзед з бабуляй, да якіх можна было паехаць на летніх вакацыях, ці проста ў ягады ці грыбы. У мяне такой вёскі не было. На маё запытанне бацька неахвотна адказаў, што дзеда "раскулачылі" і саслалі за Ўрал. Дзіцячае сэрца схамянулася: "саслалі" – значыць, яны былі злачынцамі! "Мае" дзядуля і бабуля аніяк ня могуць імі быць! Хаця ніколі ў жыцці я іх ня бачыла, але ж люблю і ведаю, што яны добрыя! — "А за што саслалі?" – " За тое, што не хацелі ісці ў калгас." — Не паверыла…

Задумвацца аб сваёй нацыянальнай прыналежнасці сур'ёзна пачала толькі ў сталым узросце. Пасля адыходу з жыцця бацькоў, адасобленых ад блізкай радні, захацелася да каго-небудзь "прытуліцца". Маміна радня па-за Ўралам, далёка – з ёй амаль някіх кантактаў, акрамя рэдкіх паштовак на святы. А ў бацькі ў пашпарце было паказана месца нараджэння : вёска Смольгава Любанскага раёна. Любіўшы разглядаць у дзяцінстве бацькоўскія дакумэнты, мне вельмі падабалася гэта прыгожая назва. Вось яна і паклікала мяне ў дарогу пошукаў сваіх "каранёў" у Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі і Мінскі абласны архіў, каб даведацца, кім жа былі мае продкі.

Першае ўражанне ад працы ў архівах: як многа застаецца "паперак" ад пайшоўшага з жыцця чалавека! Пасля двух гадоў "генеялагічнай" працы зразумела, што ў кароткім вусным аповядзе распаведаць пра ўсе мае архіўныя здабыткі проста немагчыма. Так з'явіўся мой расказ пра продкаў, напісаны для нашчадкаў і родных.

А пасля заканчэння (чаму ж заканчэння, праца яшчэ будзе працягвацца!) адчула, што нарэшце знайшла ня толькі продкаў, але і прарадзіму сваю, і сапраўдную нацыянальную прыналежнасць.

З павагаю,
Святлана М.

*Юры Карэйва*

## Прамяністым раем чыстым…

Прамяністым раем чыстым
Сьніўся нам наш Край айчысты,
А прачнуліся: над Краем
Сьцяг Люцыпара лунае.
Чорт ятрысты, дух нячысты
На сьвяты наш Край айчысты,
На Хрыстовы сьцяг з Пагоняй
Ланцугі наклаў сягоньня.
Хоць свабода зруйнавана
І над намі здань тырана,
Але верма: час настане –
Духу тут яго ня стане!
Хутка мы ізноў разгорнем
Волі сьцяг – штандар з Пагоняй,
Край сьвяты, наш край айчысты
Мы ад нечысці ачысцім!

*Митрофан Запольский*

## Доктор Франциск Скорина

По поводу исследования Владимирова "Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык". 1888 г.

В истории нашего белорусского края остаётся ещё немало тёмных вопросов, требующих исследования и разрешения. Покамест и напечатано и печатается немало материалов для истории нашего края (изд. Вил. Археогр. Комм. и др.), но общество ещё ждёт обработки этого сырого исторического материала, а вместе с ней и выяснения тёмных, печальных страниц из истории родного края.

Вышедшее недавно исследование г. Владимирова о докторе медицины Краковского университета Франциске Скорине, полоцком уроженце, известном и плодотворном белорусском деятеле первой четверти XVI века, разъясняет, именно, один из весьма тёмных вопросов нашей истории. Эпоха, к которой относится деятельность Франциска Скорины, один из интереснейших моментов из истории нашего края. Достаточно сказать, что в эту эпоху подготовлялась знаменитая уния католичества с православием, а также и мужественный отпор со стороны последнего.

Останавливаясь на общих чертах умственной и нравственной жизни северо-западного края России в данную эпоху, мы видим, что она во многих случаях представляет собою далеко не отрадное явление. Так, даже высшее православное духовенство, которому надлежало главное руководство в умственной и нравственной жизни народа, состояло большею частью из людей, почти не получивших никакого образования. Польские короли раздавали места в церковной иерархии не самым достойным людям, но по своему усмотрению, людям, которые так или иначе заслужили королевское благоволение; таким образом случалось, что даже светские лица, выслужившиеся на королевской службе, но совершенно не подготовленные к пастырской деятельности, занимали высшие духовные должности. Так, например, в 1520 г, король выдал грамоту пану Василию Евлашковичу, которою жаловали ему, при жизни епископов, Луцкую или Владимирскую епархию, смотря по тому, которая из них скорее освободится. В 1551 г. король Сигизмунд Август пожаловал Стефану Белькевичу за "вѣрные, пильные николи неомѣшканные, цнотливые службы" Киевскую метрополию при жизни метрополита Макария; этот Белькевич, человек необразованный, едва умевший читать, был настоятелем монастыря и наречённым метрополитом, оставаясь в светском звании (стр. 3-4 назв. соч.). Вообще места духовной

епархии занимались лицами, избранными светскими людьми, что доказывает, напр. "Челобитная русскихъ князей къ Цареградскому Патріарху о благословеніи на Киевскую митрополию *избраннаго ими* Полоцкого Архиепископа Іоны"*/ а также и много других фактов. Вообще православная церковь, в лучших представителях которой современники могли только найти поддержку в нравственной жизни и руководительство в умственной, была настолько несамостоятельна, что представители её часто подвергались всевозможным гонениям и притеснениям. Таких фактов немало: в 1497 г. князь Константин Острожский письмом приказывает своему туровскому наместнику не *чинить обид* священнику Старожевецкой Покровской церкви в Турове: "Жаловалъ намъ богомолецъ нашъ съ Турова Старожевецкій Покрова Пречистой Деонисій о томъ, ижъ дей ему кривду и переказу вчинилъ земянинъ нашъ Тимко Вовчькевич" и т.д.**/

В 1507 г. король Александр приказывал Бельскому подстаросте перенести из замка церковь Рождества Богородицы на другое "годное мѣсто"; это было по жалобе священника этой церкви, что ему затрудняют отправление богослужения в замке: "дай онъ трудность маетъ, какъ приходить на утреню и на всякъ часъ: ворота замыкають, а къ тому жъ дей на праздники сего жъ горей" и т.д.

Если уровень умственного и нравственного состояния высшего духовенства был настолько низок, то нечего и говорить, что представляло собою низшее духовенство, бедное, зависевшее от властей и магнатов, не имевшее ни средств, ни времени для образования. История даёт немало этому примеров. Да и не одно духовенство страдало всевозможными пороками. Пьянство, угнетение низших, самоуправство, взяточничество и другие пороки господствовали в тогдашнем обществе. Один из современников, Михалон Литвин, вот что говорит: "въ городахъ литовскихъ нѣтъ болѣе частныхъ заводовъ, какъ тѣ, на которыхъ варится из жита водка и пиво... День начинается питьемъ водки; еще въ постели кричат: "вина, вина!" и пьют этот яд мущины и женщины и юноши, на улицахъ, на площадях... крестьяне, оставивъ поле, идутъ въ шинки и пируютъ тамъ дни и ночи" и т.д. (стр. 12).

Все эти и другие факты свидетельствуют о крайнем умственном и нравственном упадке тогдашнего общества. В это-то время, то в одном, то в другом месте Западной Руси начало проявляться некоторое оживление, начали появляться люди, посвящавшие свой труд на пользу общества. Такие люди действовали или совместно в виде церковных братств, или отдельно.

Главная заслуга деятельности братств и отдельных личностей, как Григорий Александрович Ходкевич, Константин Острожский, Митрополит Виленский Иосиф Солтан, и, наконец, Франциск Скорина, заключалось в издании и распространении книг священного писания — "къ наученію людемъ христіанскимъ закону нашего греческаго". Издание книг св. писания имело уже то огромное значение, что, по понятиям тогдашнего общества, право-

славный человек был русский, а русские люди, принимавшие католичество или протестантство, отстранялись от своей народности, относились к ней, как и все ренегаты, с презрением. Таким образом, вместе с православием поддерживалась и русская национальность.

Мало того. В книгах св. писания заключалась вся тогдашняя образованность; все знания и житейскую мудрость старались почерпать оттуда. Как относились к этим книгам лучшие люди того времени, чего они ожидали от издания книг св. писания, ясно видно из многих мест в предисловиях Франциска Скорины. Так, он говорит в предисловии к притчам Соломона: "Эти книги полезно читать всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и убогому, молодому и старому; особенно же темъ, которые хотятъ имѣть добрые обычаи и познати мудрость и науку. Ибо в этихъ притчахъ сокрыта мудрость, какъ сила въ дорогомъ камнѣ, какъ золото въ землѣ, какъ зерно в орѣхѣ". Издание своё он посвящает "Людямъ простымъ, посполитымъ на пользу и размноженіе добрыхъ обычаевъ, чтобы они научились мудрости" и т.д. (стр. 104 — 105).

Таким образом мы видим, что лучшие люди того времени искали в книгах св. писания основ нравственной философии. Мало того. Тогдашние учёные видели в этих книгах средство к ознакомлению со всеми известными тогда науками. Вот каким образом говорит об этом Скорина в одном из своих предисловий: "для наученія логики, которая учитъ разузнавать правду от кривды, читай книгу Іова или посланіе Апостола Павла". Для риторики, или *красномовности*, он рекоммендует книги Соломоновы. "Еси ты хочешь знать арифметику, которая учитъ скоро и правильно читать, читай четыре книги Моисеевы. Если же имѣешь предъ глазами геометрию, т. е. по-русски землемѣріе, читай книги Іисуса Навина" и т. д. (стр. 115). В священных же книгах полагалось знание истории: "Если имеешь желаніе знать о военныхъ и богатырскихъ дѣлахъ, читай книги Судей или Макавейскія".

Какое влияние оказали эти книги на западно-русское общество XVI в., ясно доказывает последующая история: почти все западно-русские люди, за немногим исключением, сохранили свою национальность в борьбе с униею.

Теперь, зная состояние тогдашнего общества конца XV и начала XVI века, зная также, какое отношение было к книгам св. писания и какое они могли оказать влияние на западно-русское общество, мы вполне поймём и оценим значение издательской деятельности Франциска Скорины, который посвятил все свои силы и средства этой цели. Он был один из западно-русских людей, обративший серьёзное внимание на печальное состояние современников и положил посильный труд для поднятия уровня умственного и нравственного их состояния и охранения национальности.

Данные для биографии и скромной деятельности Франциска Скорины крайне скудны. Поэтому о нём, о его происхождении и деятельности ходили разнообразные, часто противоречивые мнения. В настоящее время, благода-

ря исследованию г. Владимирова, личность Франциска Скорины несколько выясняется. Он родился в Полоцке в последней четверти XV века (ок. 1490 г.), по происхождению он был русский (другое имя его было Георгий), "нароженный въ русскомъ языку". Русский язык был его "прироженным", и деятельность свою он посвящает на пользу "своей братіи Руси, наболей съ тое причины, ижъ мя милостивый Богъ съ того языка (русского) на свѣтъ пустилъ." Он так подписывался на предисловиях и послесловиях к своим изданиям "*Францишеки Скорининъ сынъ съ Полоцка, въ лекарскихъ наукахъ докторъ*".

Скорина происходил из богатой купеческой семьи, но о родителях его мы ничего не знаем; известно только, что он имел брата Ивана Скоринина, владевшего в Полоцке недвижимым родовым имуществом и занимавшегося торговлей в Риге. У этого Ивана Скорины был сын Роман.

Неизвестно, что заставило молодого Франциска отправиться в Краков. Известно только, что он поступил в число студентов медицинского факультета Краковского университета около 1504 г., т. е. на 14 году жизни. Когда он кончил образование — неизвестно; даже нельзя положительно утверждать, где он кончил образование и получил степень доктора медицины, в Краковском или Пражском университете. Знаем только, что Скорина в 1517 г., получивши уже степень доктора, жил в Праге и занимался там переводом и изданием книг св. писания. Первый перевод его — Псалтирь — вышел 6 августа 1517 года, когда ему было около 27 лет. Таких лет он изображён на найденном портрете, относящимся к этому же времени. Затем деятельность его продолжалась без перерыва до 1519 года. За это время были изданы: книги Иова, Сираха, кн. Соломона и проч. С 1519 года начинается перерыв в его деятельности, продолжавшийся до 1525 года. В этом году Скорина издаёт уже в Вильне "Апостол". Таким образом доктор переехал в Вильну и здесь продолжал свою деятельность. В Вильне он основал типографию, по его собственному свидетельству, "въ дому почтиваго мужа Якуба Бабичанай, старшаго бурмистра славнаго и великаго мѣста Виленскаго". Между 1525 и 1529 годами Франциск Скорина женился на вдове Юрия Одверника Маргарите. По делу о её имуществе в Вильне, он вёл в 1519 году дело в суде и выиграл.

Важнейшими изданиями Скорины в Вильне были Апостол и Малая надорожная книжица — собрание употребительных молитв и чтений. Однако деятельность его продолжалась недолго, вего около двух лет. Как причину прекращения её нужно считать запутанные денежные дела Скорины и его хлопоты по судебным делам брата, причинившие немало неприятностей доктору. Брат его Иван, торгуя в Риге, занял у виленского мещанина Петра Соколовского 22 копы грошей — сумму немалую по тому времени. После его смерти, так как имущество братьев Франциска и Ивана не было разделено, началось судебное дело с первым. Доктор перетерпел много неприятностей и притеснений. Есть известие, что Скорина ещё жил в 1535 году, но

когда он умер — неизвестно (стр. 43 — 67 назв. соч.)

Таким образом мы видим, что деятельность Франциска Скорины сосредотачивается на переводах и издании книг св. писания. Переводил он, пользуясь преимущественно изданием чешской библии 1506 г., но как человек образованный и знавший классические языки, сверял свои переводы с латинскими и греческими контекстами. Эти переводы имеют то особенное значение, что они делались не на церковно-славянский язык, который тогда уже сделался непонятным для большинства тогдашнего общества, но на русский, т. е. белорусский язык того времени. Вследствие этого писания получали литературное значение.

Что же касается связей Скорины с Прагой и чехами, то нужно заметить, что Чехия и чешская литература имела в то время преобладающее значение; знание чешского языка и литературы считалось верхом образованности. Пражский университет того времени славился своими профессорами и изданиями. Влияние Чехии из Польши перешло на Западную Русь (стр. 37). Это влияние было настолько сильно, что оно отразилось даже на форме актов и актового языка. Замечание это ещё недавно высказал Яков Головацкий в своей брошюре "Черты домашнего быта русских дворян на Подляшье, по актам XVI века" (Вильно, 1888 г.). Он сравнил только один чешский акт, предоставив исследованиям филологическим и историко-литературным выяснить вполне вопрос о влиянии Чехии на Западную Русь. Почти одновременно вышедшее исследование г. Владимирова вполне разъясняет и подтверждает догадку Якова Головацкого. Рассмотревши вопрос о Скорине, мы приходим к заключению, что это был человек с горячим желанием принести посильную пользу обществу, родной земле, поднять умственный и нравственный уровень своих современников. Он говорит сам в одном из своих предисловий, что издаёт книги "своей братіи — людямъ рускаго языка", "своему природному рускому языку ко науцѣ всего добраго" (стр. 50). Он полагал, что всякий человек, следовательно и он, рождён для пользы общества: "не толико сами себѣ народихомся на свѣтъ, но болѣе ко службѣ Божіей и посполитаго добраго". Поэтому он считал долгом трудиться на пользу "своего русскаго языка", сделать для него всё, что он в состоянии: "мы братія не можемъ ли во великихъ послужити посполитому люду рускаго языка сие малые книжки праци нашее приносимо имъ". Собственных сочинений Скорина не оставил, но свои мнения он излагал в предисловиях и послесловиях к своим изданиям; в этих-то предисловиях он и старался внушить русским людям, что наряду с чтением св. писания, нужно не забывать о приобретении и прочих знаний.

Теперь обратимся к исследованию г. Владимирова "Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык". Это сочинение послужит ценным вкладом в русскую науку. Оно выясняет окончательно тёмный вопрос о Скорине и его деятельности. Это является тем более важным, что до этого времени о Скорине, вследствие недостатка сведений, ходили самые

разнообразные мнения, начиная с того, что некоторые сомневались в русском его происхождении, полагая, что деятельность его была направлена то на распространение протестантства в России, то католичества; не было выяснено также отношение Скорины к современной ему эпохе, а также значение и влияние его типографской деятельности. Надеемся, что исследования г. Владимирова уничтожило все эти предположения. Сочинение г. Владимирова охватывает вопрос со всех сторон. Он не только знакомит нас с личностью и деятельностью самого Скорины, но предлагает литературу вопроса, изложив вкратце мнения своих предшественников. Затем он даёт читателю ясное представление об умственном и нравственном состояниях общества данной экохи и прочее. Особенно много материала даёт г. Владимиров для истории книгопечатания в России; он представляет образцы шрифтов, даёт подробное описание каждой книги и пр. Особенно важное значение имеет выяснение вопросы о влиянии Чехии на Западную Русь в XVI в., что разработано г. Владимировым вполне добросовестно и полно. Немало сведений даёт это исследование о тогдашнем белорусском языке, которым писались книги Скорины; вопросу о языке посвящена значительная часть труда. Вообще г. Владимиров исследовал интересовавший его вопрос вполне добросовестно и разобрал его всесторонне. Одно только можно было бы указать ему, как на некоторый недостаток, — это отсутствие целостности во всём произведении. Сведений весьма много, но они как-то разбросаны, так что не в состоянии дать полного, ясного отчёта о произведении. Многое слишком растянуто, многое, как очерк умственного и нравственного состояния тогдашнего общества, можно было бы распространить. Есть повторения. В изложении мало живости и выразительности. Однако же не смотря на эти и многие другие недостатки, труд г. Владимирова весьма капитален и заслуживает полного внимания со стороны общества и печати.

---

*/ Археогр. Собр. изд. Вил. Арх. Комм., т.1, ст.2
**/ Акты Археогр. Комм., т.1, №3

*Минский листок, 1888, №№ 42, 44*



## *Генадзь Кісялёў*

# Брат

*Мінае год, як адышоў ад нас у іншы свет Генадзь Кісялёў. Гэтае імя было і застаецца ўвасабленнем адметнага раздзела ў гісторыяграфіі, літаратуразнаўстве Беларусі, школы Кісялёва ў гуманітарнай навукова-даследніцкай практыцы. Абок неадольнага захаплення яго неспасціжнымі кнігамі – "З думай пра Беларусь", "Сейбіты вечнага", "Героі і музы", "Ад Чачота да Багушэвіча", "Кастусь Каліноўскі", "Жылі-былі класікі" ды інш. – мелісьмы ў гэтай светлай Асобе, мудрым і чулым таварышу і настаўніку, праніклівага чытача і аўтара "Скарыніча". У Мінску – на выхадзе ў свет пасмяротная праца Генадзя Васільевіча, над якой да апошніх дзён сваіх рупіўся наш нястомны шукальнік-адкрывальнік беларускіх таямніцаў духатворчых. З ласкі Яніны Міхайлаўны Кісялёвай прапануем ніжэй раздзел з апошняе кнігі славутага навукоўца і пісьменніка.*

*А.К.*

Адразу пасля вайны, у 1946 годзе, у часопісе «Беларусь» сярод іншых гістарычна-краязнаўчых матэрыялаў рубрыкі «Наш даведнік» была надрукавана нататка «Браты Скарыны» (такі своеасаблівы быў выбраны для гэтай маленькай публікацыі ракурс). Вось яе поўны тэкст:

«Беларускі першадрукар Георгі-Францішак Скарына быў сынам багатага купца Лукаша Скарыны з горада Полацка, які вёў гандаль з Рыгай, Граднскам, Пазнанню і іншымі гарадамі на захадзе. Вядома, паводле дакументальных звестак, што ў Лукаша Скарыны, бацькі першадрукара, былі яшчэ два сыны. Адзін з іх, Іван, жыў у Пазнані, дзе гандляваў скурамі. Памёр ён у 1529 годзе. Друі брат, імя якога для гісторыі не захавалася, таксама быў купцом. Сын яго Раман, пляменнік Скарыны, жыў у Гданску»[1].

Подпісу няма. Магчыма, аўтарам нататкі быў гісторык Ф.Дамінікоўскі, які працаваў у гэты час над даведнікам "Выдатныя людзі Беларусі" і актыўна супрацоўнічаў з часопісам «Беларусь», падпісваючы свае краязнаўчыя нататкі поўным прозвішчам або крыптанімам Ф.Д., а часам пакідаючы іх зусім без подпісу.

У любым выпадку нататка адлюстроўвае тагачасны не надта высокі ўзровень нашых ведаў. Беларуская гуманітарная навука пачала толькі-толькі прыходзіць у прытомнасць пасля бязлітасных сталінскіх рэпрэсій і цяжкіх ваенных страт. Побач са слушнымі звесткамі ў публікацыю трапіла яўная блытаніна. Сёння скарыназнаўцы, канешне ж, гавораць толькі пра аднаго Францішкавага брата Івана (Раман быў якраз яго сынам).

Пачаткі радаводу Скарынаў як выхадцаў з «паспалітага люду» не дакументаваны. Аднак прозвішча само змяшчае ў сабе важную інфармацыю, з'яўляецца своеасаблівай каштоўнай біяграфічна-генеалагічнай крыніцай. Пра гэта дакладна і змястоўна сказаў В.Чамярыцкі ў артыкуле пра Скарыну для шасцітомнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі»: «Сямейнае прозвішча паходзіць ад старажытнага славянскага слова "скора" (скура), адсюль — скарняк, па-старабеларуску — скарыніч, што азначала прафесію рамесніка, які займаецца апрацоўкай скур. Відаць, роданачальнікам Скарынаў быў гарбар, нашчадкі якога разбагацелі і заняліся гандлем. Скарынічам называў сябе Францішак Скарына ў сваіх акафістах-акравершах. Пад гэтым прозвішчам часам згадваецца ў дакументах і яго родны брат Іван"[2]. Яшчэ больш падрабязныя звесткі такога кшталту, грунтоўныя этымалагічныя даведкі, знаходзім у Я. Неміроўскага, які ўпэўнена сцвярджае: «У вытокаў прозвішча *Скарына,* бясспрэчна, палягае старажытнарускае слова *скора,* што значыла *скура, футра, сырая скура»*[3]. І далей: «Бацька і брат Францыска Скарыны гандлявалі пушным таварам і скурамі. Прафесія, відаць, была фамільнай і спадчыннай. Адным з роданачальнікаў сям'і быў, напэўна, рамеснік — *скарыніч,* які, разбагацеўшы, стаў займацца гандлем»[4].

Як і належала купцу, бацька быў энергічным і смелым чалавекам. Прафесія была рызыкоўнай. Купцоў у тыя часы падпільноўвала шмат небяспек, іх нярэдка рабавалі на дарогах, ды і самі яны былі не без граху і пры выпадку маглі штосьці прыхапіць звыш звычайнага купецкага барышу, тым больш ва ўмовах частых парубежных ускладненняў, войнаў і сутычак паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1492 годзе шаноўны Лука Скарына «засвяціўся» ў гістарычным дакуменце — пераліку прэтэнзій і крыўдаў парубежных маскоўцаў да жыхароў ВКЛ. Трапіла ў пералік і такое: «Да в Поло[т]ску пограбили лучанина Дороню Иванова купци полотцкіе Лукіан Скорина да Прокофьев, а взяли грабеж[у] на сорок рублев...»[5]. Як там было насамрэч, мы не ведаем[6] — для нас сёння гэта ўсяго толькі сведчанне суровай і няпростай рэальнасці далёкай эпохі[7]. Прынамсі гэта паказвае, што бацька быў не з баязлівага дзесятка. Яго, як і іншых купцоў таго часу, не палохалі далёкія і небяспечныя дарогі, ён спадзяваўся на свой купецкі фарт, быў гатовы да любых паваротаў лёсу.

Энергію і жыццёвую сілу бацькі наследавалі сыны Іван ды Францішак. Толькі пуцявіны ім выпалі розныя. Старэйшы Іван прыняў на свае моцныя плечы купецкую справу бацькі, схільны да навукі і тонкасцяў

прыгожага слова Францішак абраў іншы шлях. Зусім як у біблейскіх братоў Ісахара і Завулона, якіх нам нагадаў англійскі скарыназнавец Г.Пікарда (гл. параграф «Геральдычная сюіта "Людие израилевы..."»).

Некаторыя рысы купца-негацыянта, уменне ашчаджаць і выгадваць капейчыну можна заўважыць і ў Францішка. Ужо не гаворым пра тое, што сама справа, якой ён сябе прысвяціў — выданне «Бівліі Рускай», — патрабавала немалых дзелавых якасцяў. Звернем увагу на некаторыя іншыя прыклады разважлівасці і ашчаднасці. Хоць паходзіў з сям'і досыць заможнай, ён дзеля эканоміі сродкаў умеў абмежавацца ў выдатках, а часам і зусім прыкінуцца бедняком. Паступаючы у 1504 годзе ў Кракаўскі універсітэт, ён заплаціў 2 грошы. Віктар Дарашкевіч каментуе гэтую акалічнасць: «Скарына ўнёс ва універсітэцкую касу сярэднюю (па сутнасці, мінімальную, ці блізкую да мінімальнай. — *Г. К.)* суму грошай. Як паказвае спіс шкаляроў таго ж факультэта, Венцаслаў, сын Венцаслава са Слуцка, заплаціў 4 грошы, Георгій, сын Якуба з Ваўкавыска, — 2 грошы, Мікалай, сын Андрэя з Ашмян, — 7 грошаў. Гэты запіс дае падставу меркаваць, што Скарына жыў у бурсе для бедных»[8]. Ну няхай сабе — гэта ранняе юнацтва. Але бедным чалавекам Скарына адрэкамендаваўся ў 1512 годзе і ў Падуі пры атрыманні ступені) доктара медыцыны. Звычайна такая працэдура пагражала немалымі выдаткамі. Праўда, да гэтага часу памёр бацька (і гэта адлюстравана ў актах Падуанскага універсітэта), але грошы ў сям'і вяліся — прыбытковую сямейную гандлёвую справу паспяхова працягваў брат Іван, як мы даведаемся ніжэй, была ў братоў і нейкая супольная зямельная ўласнасць.

Сям'я Скарынаў вылучалася дынамічнасцю, рана завязала цесныя сувязі з вялікакняскай сталіцай Вільняй. З дакумента 1518 года відаць, што «Іван Скарыніч, палачанін» быў у Вільні сваім чалавекам і называўся нават «віленскім грамадзянінам». Фіксуюцца і іншыя яго тагачасныя шырокія сувязі (аж да Львова)[9].

Вядомы скарыназнавец Я.Неміроўскі характарызуе Івана як "аднаго з найбуйнейшых і заможных купцоў Вялікага княства Літоўскага"[10]. Для нас гэта мае прынцыповае значэнне, бо высвечвае маштабы асобы.

Як і бацька, Іван узнімаўся-багацеў на скуры. На гэты хадавы тавар быў сталы попыт і дома, і за мяжой. Скура абувала і апранала, засланяла ў баі, з яе рабіліся даспехі паспалітых воінаў (тых жа апалчэнцаў-гараджан[11]). А колькі скуры ішло на конскую вупраж, на кніжныя пераплёты і выраб пергаменту. Вазы са скурамі — звычайная карціна на дарогах ВКЛ.

Купецкі інтарэс вымагаў пастаянных паездак на Захад, сталай там прысутнасці. Еўропа была вельмі зацікаўлена ў бесперабойных пастаўках скуры і футраў, на прамілы бог чакала купецкіх абозаў з ВКЛ. Пэўным цэнтрам, перавалачным пунктам у гандлі скурамі была Познань, дзе трывала атайбаваўся Іван.

У Івана быў сын Раман (па дакументах, таксама «віленскі грамадзянін») і дзве замужнія дачкі (іх мужы — полацкія мяшчане Міхна Аўсянік і Еска Сцяпанавіч).

Апрача купецкіх капіталаў і наладжаных дзелавых сувязяў браты Іван ды Францішак атрымалі ў спадчыну пасля бацькі нейкае «именье» (маёнтак) і «дворыща» ў полацкім замку. Маёнтак не такі ўжо вялікі. Тым не менш прэстыж сям'і гэта падвышала. Паводле мабілізацыйнага попісу 1528 года палачанін «Иван Скорник» выстаўляў у войска са свайго маёнтка аднаго коннага ваяра[12]. У наступным годзе Іван памёр. З дакументаў 1535 года відаць, што "именье" трымаў «у опеце» зяць Еска і спрачаўся з другім знаёмым нам зяцем Міхнам у сувязі з уплатай нейкіх даўгоў цесця Івана Скарыніча. Раман — па ўсім відаць, паваротлівы, граматны, а можа, і па-еўрапейску адукаваны чалавек — служыў тады «в Немцах». У маёнтку «была часть доктора Францышка Скорыны», якую апошні даручыў таксама Ескавай «опеце»[13]. Паводле матэрыялаў полацкай рэвізіі 1552 года, зяць Бека валодаў у горадзе зямлёй, якую арандавалі мяшчане (хутчэй за ўсё гэта скарынаўскае «дворыща») і разам з сынам Міхны трымаў «именье сяло Тройдевичы», з якога ставіў у войска коннага ваяра[14]. Несумненна, гэта той самы маёнтак Скарынаў. Трэба пагадзіцца з вядомым расійскім спецыялістам па генеалогіі А.Нарбутам, які пісаў, што «Еску Сцяпапавічу, мужу адной з дачок Івана Скарыны, удалося захаваць у сваіх руках большую частку спадчыннай маёмасці Івана і Францыска ў Полацку»[15]. У Полацку яго цанілі. У 1553 годзе радцу Еску Скарыну (такім чынам — і гэта паказальна — часам называлі ў дакументах Еску Сцяпанавіча) палачане пасылалі ў Рыгу з важным даручэннем[16].

Вялікае значэнне для скарыназнаўства, у прыватнасці для высвятлення маёмаснага становішча Івана Скарыны і яго ўзаемадачыненняў з Францішкам маюць так званыя «пазнанскія акты» 1529-1532 гадоў, якія захаваліся ў Пазнанскім архіве (Польшча) і ў найбольш поўным выглядзе надрукаваны ў складзеным В.Дарашкевічам зборніку дакументаў і матэрыялаў "Францыск Скарына" (1988).

Нагадаем сцісла калізію гэтых дакументаў. У 1529 годзе памёр Іван Скарына. Пад домам-камяніцай самавітага пазнанскага купца Якаба Корбы[17] застаўся склад з таварамі нябожчыка — скурамі. Не прымусілі сябе доўга чакаць, азваліся і крэдыторы. Высветлілася, што Іван дзеля поспеху сваіх маштабных гандлёвых аперацый смела браў крэдыты, залазіў у даўгі. Гарадскія ўлады Познані ў прысутнасці Францыска і Іванавага сына Рамана як законнага наследніка ў кастрычніку 1529 года зрабілі вопіс і ацэнку скур. Усяго было налічана 47 468 скур рознага памеру і якасці, за кошт якіх належала задаволіць крэдытораў. Запазычанасць Івана пазнанскаму купцу і радцу Клаўсу Гоберлянду складала 500 фларэнаў [18], нейкаму Фальковічу 200, брату Францішку 400 і г. д. Нейкі Ешка Стафановіч выставіў іск на 100 коп Літоўскіх грошаў. Гэта была сума жалавання, затрыманага Іванам за 10 гадоў. Я.Неміроўскі не без падстаў ідэнтыфікуе

гэтага Ешку Стафановіча з Іванавым зяцем Ескам Сцяпанавічам: Еска, відаць, служыў у свайго цесця[19]. Сапраўды, для маштабных купецкіх аперацый Івана патрэбны былі самавітыя і верныя памочнікі. Ды і хто ж, апрача блізкага сваяка, згадзўся б 10 гадоў чакаць жалавання. З усімі крэдыторамі і ісцамі акуратна разлічыўся Раман за кошт скураў, што засталіся на Іванавым складзе. Францішак выступаў у гэтым выпадку не толькі ад сябе, але ад імя сваёй жонкі Маргарыты, якая таксама ўдзельнічала ў крэдытаванні Івана. Усяго Францішку перадалі 26 тысяч скур на суму 520 фларэнаў. Крэдытары прызналі сябе цалкам задаволенымі і ўрачыста засведчылі, што не маюць прэтэнзій да нябожчыка і яго наследнікаў.

Але, як вядома, праз некаторы час, у лютым 1532 года, калі кароль Жыгімонт быў у Вільні, да яго звярнулліся яўрэі Лазар і Майсей са скаргай, што нябожчык Іван Скарына нібыта задаўжаў ім звыш 12 тысяч Літоўскіх грошаў (звыш 400 фларэнаў), а яго спадчыннік доктар Францішак злосна ўхіляецца ад уплаты братавага доўгу. Ва ўсёй гэтай гісторыі шмат незразумелага, падспуднага: чаму гэтыя Лазар ды Майсей так доўга чакалі? Ды і сапраўдны наследнік Раман чамусьці ў такой якасці на гэты раз зусім не згадваўся. Кароль (чаму так паспесшпва і лёгкаверна?) аддаў загад зняволіць Францыска ў турму. У сакавіку таго ж года наш асветнік, які прыехаў у Познань, апынуўся за кратамі. З найлепшага боку ў гэтай сітуацыі паказаў сябе пляменнік Раман, які, паводле дакументаў, жыў тады ў Гданьску. Ён адразу ж прыехаў у Познань на выручку і заявіў, што, будучы законным спадчыннікам бацькі, даўно прыняў на сябе ўсе яго даўгі. Тым не менш кароль загадаў да суда не вызваляць Францыска. Нарэшце, 24 мая 1532 года (мяркуецца, пасля ўмяшальніцтва апекуна Францыска віленскага біскупа Яна) кароль выдаў указ вызваліць нашага асветніка. Адметны штрышок: выйшаўшы на волю, Скарына запатрабаваў, каб несумленны ісцец Майсей кампенсаваў яму маральны ўрон у памеры 6000 фларэнаў. (Сума астранамічная. Скарына вельмі высока цаніў сваю чалавечую годнасць.)

У лістападзе 1532 года Раман дамогся аўдыенцыі ў караля ў Кракаве, пасля чаго выйшлі два новыя каралеўскія ўказы, якія вельмі высока ўзнімалі статус доктара Францыска Скарыны: аб'яўлялася, што ніхто, апрача самога караля, не можа прыцягваць яго да суда. Праўда, звестак аб грашовай кампенсацыі за панесеныя крыўды, за маральныя страты ў дакументах не захавалася.

«Пазнанскія акты» — важныя для даследчыкаў у многіх адносінах. Яны паказалі, па-першае, што сям'я Скарынаў валодала значнымі капіталамі, а па-другое, што дачыненні паміж прадстаўнікамі сям'і (роду) былі самыя добрыя, сваяцкія. Брат Францішка Іван і пляменнік Раман Іванавіч былі еўрапеізаванымі людзьмі, цалкам здольнымі ацаніць значэнне асветніцкай дзейнасці Францішка. Цікава таксама, што Францішак, як і яго жонка Маргарыта, прымалі нейкі ўдзел у камерцыйных аперацыях Івана.

У святле сказанага цалкам натуральным уяўляецца меркаванне, што Іван быў (мог быць) адным з фундатараў гістарычнага выдавецкага праекта Францішка. Такая думка выказвалася многімі вучонымі.

Вось і геральдыст А.Шаланда лічыць, што менавіта Івану належыць знак «трохкутніка» на ілюстрацыях скарынаўскай Бібліі.

Спалучэнне сонца-месяца з «трохкутнікам» увасабляла б у такім выпадку плённы тандэм двух братоў (фінансіста і гуманітарыя),

Пошукі ў гэтым намрамку могуць мець важныя вынікі.

Дададзім да сказанага пару невялікіх назіранняў.

Не пазбаўленымі цікавасці, напрыклад, нам падаліся звесткі ў вядомым слоўніку У.І.Даля, які фіксуе самыя глыбінныя пласты ўсходнеславянскай лексікі. Слоўнікавы артыкул на слова «скара́» (такі націск прапануе Даль) шмат у чым пераклікаецца са звесткамі Я.Неміроўскага і В.Чамярыцкага, прыведзенымі намі вышэй: *«Скара́, скора́* ... скорье ... шкура, кожа, сырье, шкура товарная і мягкая рухлядь, пушной товар... *Скорнячить, скорняжить,* выделывать шкуру на мех, сбивать мездру, квасить, выминать, словом, заниматься *скорнячеством, скорняжничаньем, -няжным, скорнячьим* промыслом, или *скорняжничать,* кормиться промыслом *скорняка. Скорняк* нередко бывает сам же тулупником, швецом». Вось і Даль са свайго боку пацвярджае тэзіс аб перарастанні адной роднаснай прафесіі ў другую. Але найбольш мяне зацікавіла завяршэнне гэтага слоўнікавага артыкула: *«Скорняк,* или вернее ускорняк, треугольник, угол, вырезок косячком; гусек под. полку, треугольничком»[20]. Вынікае, таямнічыя глыбіні мовы. непараўнаным знаўцам якіх быў Даль, няхай ускосным чынам, зноў выводзяць нас на трохкутнік.

І яшчэ. У свой час Г.Пікарда, захоплены ідэяй звязаць нейкім чынам, зблізіць Скарыну з піянерам англійскага кнігадрукавання Янам (Іванам) Ліцвінам, заўважыў на некаторых буквіцах скарынаўскіх выданняў мініяцюрныя ініцыялы І. Л. (гл., напрыклад, у энцыклапедычным даведніку «Францыск Скарына і яго час» на с. 346 буквіцы «І» і «И»). Ён прапанаваў чытаць іх як Іван Ліцвін. Я не падтрымліваю гэтай ідэі, але мне здаецца цалкам рэалістычным такое прачытанне: «І[ван сын] Л[укі]».

Высновы:

1) Брат першадрукара Іван, цалкам верагодна, мог быць адным з галоўных яго паплечнікаў — фундатараў.

2) «Трохкутнік» скарынаўскіх выданняў, магчыма, з'яўляецца мяшчанскім,купецкім знакам Івана і ўшаноўвае актыўны ўдзел апошняга ў славутым выдавецкім праекце Францыска Скарыны.

---

[1] Браты Скарыны // Беларусь. 1946, № 1. С. 60.

[2] Чамярыцкі В. А. Скарына Францішак // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграф. слоўнік. Мінск, 1995. Т. 5. С. 329.

[3] Немировский Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Минск, 1990. С- 152.

[4] Тамсама. С. 153.

[5] Францыск Скарына: Зб. дак. і матэрыялаў / Уклад. В. Дарашкевіч. Мінск, 1988. С. 46.

[6] Прэтэнзіі такога кшталту былі ўзаемныя. Пра абрабаванне Б.Онкава ў Маскоўскай дзяржаве мы згадвалі вышэй.

[7] Дарэчы, знакаміты рускі першадрукар Іван Федараў, будучы кіраўніком манастыра пад Астрогам ва Украіне, таксама ўдзельнічаў у жорсткіх разборках з суседзямі — крыўдзіцелямі манастыра. Вядомы гісторык-кнігазнаўца Я. Няміроўскі каментуе гэта так: "Іван Фёдараў не быў ні добранамерным "дыяканам", ні разбойнікам з вялікай дарогі. Ён жыў у жорсткі час і падпарадкоўваўся яго законам" (Немировский Е.Л. Путешествие кистокам русского книгопечатания. М., 1991. С. 133).

[8] Францыск Скарына: Зб. дак. і матэрыялаў. С. 319.

[9] Тамсама. С. 46-48.

[10] Немировский Е.Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского
просветителя. С. 489.

[11] Ткачоў М. А. "Зброя» гарадскіх жыхароў Беларусі ў часы сярэднявякоўя // Из истории науки и техники Белоруссии: Тез. докл. конф. Минск, 1988. С. 182.

[12] Русская историческая библиотека. Пг., 1915. Т. 33. Стб, 196.

[13] Францыск Скарына; Зб. дак. і матэрыялаў. С. 46-50.

[14] Тамсама. С. 51-52.

[15] Нарбут А.Н. Родословная рода Франциска Скорины / / Великою ласкою: Францишек Скорина в традициях славянского просветительства. М., 1994. С. 87-88.

[16] Францыск Скарына: Зб. дак. і матэрыялаў. С. 52-53.

[17] Па звестках Г. Лебедзева, дом знаходзіўся ў цэнтры Познані на Рынкавай плошчы і захаваўся дагэтуль. Гл.: Лебедзеў Г. Дом Скарыны ў Познані // ЛіМ. 1990. 18 мая.

[18] У адным фларэне лічылася 30 грошаў.

[19] Немировский Е.Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. С. 491.

[20] Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка, М., 1980. Т. 4, С. 192-193

*Публікацыя Яніны Кісялёвай*

*Иван Лабойко*

# О Радзиловском архиве

Записка,
доставленная
Его Сиятельству
Г-ну Г.К.Графу
Николаю Петровичу Румянцеву
от Профессора И.Лабойка.
Вильно, 25 июня 1822.
Писано в самом архиве.

Главный архив прежде был в Несвиже, другой в Бялой, третий в Вольше на Волыни. Во время войны 1812 года Несвижский архив и библиотека пострадали попущением главных военных Начальников Чичагова и Тучкова. Комнаты онаго и библиотеки были заняты военным лазаретом. Солдаты резали пергаментные документы и подшивали ими подтяжки. Другие документы исторической важности похищены разными лицами. Печати, не только украшенные алмазами, но [*слова нечыт.*] были и имели приятную наружность, тогда от документом оторваны. Об утраченных документах производилось дело. В 1763 году во время конфедерации Барской библиотека, архив и музей Несвижского замка также были разграблены. Князь Карл Радзивил спасал достопамятности и сокровища оных, многие отправил за границу и в Швейцарию, откуда сколько известно они уже не возвращались.

С учреждением Радзивиловской комиссии все сие три архива соединены в одно место в городе Вильне.

Сей архив размещен в четырех комнатах; на всех стенах устроены полки наполненные бумагами и документами. Почти половина сего архива писана по руски и сие документы равно и как латинские суть важнейшие. Сей архив имеет хорошие каталоги и описи бумаг и документов. Каталог прежнего Бяльского архива, писанный в 1757 году in folio составляет 1485 страниц. Из сего каталога для Вашего Сиятельства сделана выписка из статьи о государственных актах, которая при сем препровождается. Важнейшие бумаги взяты под расписку Е[го] С[иятельства] Князя Чарторыйского в Пулавы, список которых также препровождается.

Радзивиловский архив подле моей квартиры. Он ежедневно открыт. Из него удобно можно выписывать.

По Несвижскому каталогу показаны весьма многие важные акты, большею частью писанные на пергаменте, коих уже не находится. Утраченные акты означаю их годами суть:

"Беларускі дзень" от 15 или 17 мая была напечатана статья известного провокатора Гурина с заголовком "Пад совецкай маскай". Сопоставление заслуживает внимания.

**Міхаіл Піятуховіч**

Исходя из теории "самобытности" Бабореко, как и все другие национал-демократы, народную старину, суеверные обряды и легенды возводит на ступень какой-то "национальной святыни"; об этой стороне он всегда говорил в тонах величественного преклонения и любования — во имя все той же "самобытности" и выработки особенного "национального стиля" в искусстве. Эта "философия" дикого обскурантизма выражается у Баборерко в связи с его оценкой поэмы Якуба Колоса "Сымон музыка" как национального произведения. "Там, где растут и будут расти колосья, там, говорит он, и "Сымон музыка" будет вольной песней-гимном росту этих колосьев, потому что в ней текут, слившись в один источник, живые воды из недр народного творчествта, недр народного духа формы и из тайных углов реальной природы и жизни "забраных краёв", которые, не зная плодов цивилизации, смогли сохранить в себе богатую формальную (духовную) культуру, смогли дать ей созреть (выспеліць) в особых цветах обыкновенной, но разнообразной красоты природной. Источник этот не разукрасился в бархат и шелка, побрякушки и блеск "цивилизованной" поэзии. Он нашёл свою "самобытную" культурно-художественную форму единства "реализма" и "романтизма", котрую можно определить как "возрождением" (Узвышша, 1927, №3, с. 146).

Так Бабореко от теории "самобытности" переходит к теории "адраджэнізма". Эта последняя по существу представляет собой центральный момент национал-демократической идеологии, момент, где национал-демократизм уже переходит в национал-фашизм. Сущность теории "возрожденизма" можно свести к следующему: "необходимо, утверждают демократы, возродить то, что когда-то было, т.е. возродить шляхетско-буржузаную культуру". Отсюда вытекает скрытое или явное противопоставление культуры шляхетско-буржуазной и пролетарской, идеализация прошлого и принижение современности; идея преемственности рассматривает революционную действительность наших дней как непосредственное развитие начал, заложенных в реакционном прошлом, перебрасывает мостик от прошлого к настоящему и т.п.

---

*Піятуховіч Міхаіл Мікалаевіч (1891-1937) — літаратуразнавец. Паказанні ў якасці сведкі.*

Стремясь к "возрождению" культуры на началах прошлого, национал-демократы тем самым уже выявили устремления и к "возрождению" социально-политического строя на началах прошлого. В условиях обострения классовой борьбы эти устремления, заложенные в самой социальной природе национал-демократизма, переходят в действие: отсюда переход национал-демократизма в национал-фашизм, отсюда его скрытая или явная борьба против диктатуры пролетариата, за диктатуру буржуазии.

**Пётра Каравайчык**

В 1917 г. отмечалось 400-летие со дня первой белорусской книги в Праге чешской. Никто об этом юбилее не вспомнил и не беспокоился, как бы он не прошел неотмеченным. Написал я об этом статью и оставил в редакции [*газеты* "Вольная Беларусь" – *уклад.*]. Когда Лёсик (редактор) прочел, то пришел ко мне на чердак (я вместе с другими из белорусской молодежи жил тогда на чердачном помещении по Захарьевскому пер.) и предложил мне работать в газете. Я согласился, хотя материальные условия были хуже, чем в Земсоюзе.., а работы было больше. Тогда вся редакция и контора газеты состояла из 3-х человек: Лёсика, меня и его теперешней жены [Ванды Лёсік – *уклад.*]. Руководящие статьи писал Лёсик, я обрабатывал поступающую корреспонденцию, хронику; жена Лёсика корректировала, выпускала и рассылала. Занятый работой в газете, я мало принимал участие в разных собраниях и выступлениях. Из съездов я присутствовал на июльском съезде белорусских организаций, сам не выступал, но вел запись для газеты. Что касается моего отношения к действовавшим тогда в Минске большевикам, то онобыло отрицательным. Работа их велась с полным игнорированием белорусского языка и национальных особенностей края, а подчас они и выступали против белорусского языка, что белорусским рабочим и крестьянам важно не это, а совсем другое и т.д. Но в работе столкновений не было – они сами по себе, а мы сами по себе. Поэтому и резкого обострения отношений не было.

В Октябрьской революции участия не принимал ни на той, ни на другой стороне. Занимался наукой и ждал, что будет дальше.

---

*Каравайчык Пётр Гілляравіч (1896-1937) – крытык, публіцыст, паэт.*

**Мікола Каспяровіч**

Вся работа краеведческой сети была рассчитана на воспитание краеведов, а через них и более широких масс в нацдемократическом духе. Ко всему этому специальной ролью краеведческой сети БССР было представление нацдемократической науке нужных ей фактов (а также обеспечение работы местных нацдемократов).

Приезжающим краеведам с мест давались ценные советы и разъяснения и почти всегда их препровождали к Ластовскому, [в] диалектическую комиссию (к Некрашевичу), словарную комиссию (к Белькевичу) и т.д., по линии которых краеведческая работа велась наиболее интенсивно. Там они получали наиболее устные указания. В этом устном инструктаже нацдемократические тенденции проявили себя наиболее глубоко. Инструктора, выезжая на места для инструктажа местных организаций, проводили там общие установки нацдемократов. Возвращаясь, инструктор посещал наиболее заинтересованные учреждения БАН и инфоромировал их об успехах проведенной работы.

Моя отдельная книга "Краеведение" ["Краязнаўства", 1929 – *уклад.*] была также построена по принципу националистическому. Словом, все мои большие и малые работы имели националистическую целеустремленность, отравляя нацдемократическим ядом краеведческие ряды, и все их Ластовский одобрял.

---

*Каспяровіч Мікалай Іванавіч (1901-1937) – дзеяч культуры, мовазнавец, краязнавец*

## *Ніна Мацяш* – Ніне Дзябольскай

Уважаемая Нина Сергеевна!

Было крайне приятно получить от Вас письмо и талантливые переводы моих стихов. Благодарю Вас за эту радостно впечатляющую неожиданность! Сергею [Панізніку] уже сказала свое сердечное спасибо: он умеет быть неординарно внимательным и заботливым – совершенно бескорыстно.

Ваши переводы, по сути, безупречны. Сначала, правда, показалось, что в стихотворении "Je n'ai qu'un nom", возможно, стоило бы точнее передать мысль: не просто me jeter dans le torrent de la vie; имя обязывает, оно – носитель информации, которую желательно бы знать и соответствовать светлому смыслу того именного шифра. Что мы и пытаемся делать – преобразовываем, превращаем, как алхимики, дарованное произведение – имя – в содержание, в суть собственной жизни. Бестолково высказываюсь, уж простите. Вы значительно лучше, совершеннее владеете и французским. Я не решилась, отказалась от перевода «Пинской шляхты», а вы, если не ошибаюсь, сделали его! И мои стихи в Вашей интерпретации звучат отлично! Обратите внимание только еще на слово inutile (с.35) в строке une journée ordinaire … Может, лучше бы infertile – бесплодный. Мне думается, что бесполезных дней нет. В моем тексте день – без событий, обыкновенный, будничный.

Дорогая Нина Сергеевна, а владеете ли Вы компьютером и пользуетесь ли электронной почтой? На всякий случай вот Вы мой электронный адрес: galena1@tut.by.

Ваше письмо добиралось в Белоозерск целых 8 дней. Интернет же сводит все расстояние практически к нулю.

Еще раз благодарю Вас за возможность творческого общения и надеюсь на его продолжение.

Крепкого Вам здоровья и всего наилучшего.

Ніна Мацяш
30.04.2008

# *Лісты* – “Скарынічу”

***Уладзімір Дарагуш***

Добры дзень, шаноўны Аляксейка!

< ... >

Шмат энергіі аддаю “Ветразю”. Яму даўно прысвоілі б званьне “народны”, каб не палітычныя погляды кіраўніка. Апошняе пасяджэньне – Ліна Кастэнка і Ніна Мацяш, зразумела, і Маруся Чурай. Цікава, вершы па-украінску і па-беларуску, песьні. Але ўсё часцей чую ад дзевак: навошта нам беларусы, давайце нам Асадава, ён пісаў пра жыццё.

У жніўні ўдзельнічаў у двух экскурсіях на паўночны захад краіны – Мядзель, Паставы, Камаі, Глыбокае, Удзела, Мосар – райскі куточак, які называюць беларускім Вярсалем. Заходняя Беларусь, тут бальшавікі гаспадарылі на два дзесяцігоддзі меней, чым у нас. Засталося таму шмат помнікаў архітэктуры.

< ... >

24 верасня ў Палацы мастацтваў была прэзентацыя новай анталогіі Скоблы, якую я чакаў пяць гадоў ... Але мая сяброўка да гэтага набыла білеты ў філармонію на юбілейны канцэрт Лучанка. Да лямпадкі мне гэты Лучанок! Але каб не пакрыўдзіць жанчыну, атаварыўшыся, перабег з аднаго будынку ў іншы і надта шкадую. Нямытая эстрада! І аркестр Жыновіча зусім не тое, што калісьці. Два дзесяткі цымбалаў, столькі ж мікрафонаў, але цымбалаў амаль не чуваць. Усё глушыць ударнік. А узмацненьне, акурат як у Чэрвеньскім доме культуры, для глухіх. Гэта выпрабаваньне доўжылася аж тры гадзіны... Вельмі шкада страчанай прэзентацыі...

Бывай, мой дарагі. Часьцей прыязджай. Твой Уладзімір Дарагуш.

Чэрвень, 02.11.2008 г.

* * *

***Алена Васілевіч***

Дарагі Аляксей Канстанцінавіч,

... Учора пазваніла Ганна Запартыка і сказала, што ў “Архіве” мяне чакае Ваш “Скарыніч” <...>, і вось я сёння гартаю яго, чытаю, перагортваю і плачу-плачу ... <...>

Перачытала Вашу апошнюю сустрэчу з Янкам Брылём і “сонечнай Ленай”. І Янка ўжо не пазвоніць: “Ну як ты маешся – не ў расійскім сэнсе слова?”. Спынілі свой узлёт і, відаць, не маюць у ім ужо патрэбы, крылатыя

лісты з Крылатских Холмов… Яны мне былі такія патрэбныя! Вось Вам і "Сонечная Лена"…

На здымку ў маскоўскім Крамлі я з мілымі, сапраўды сонечнымі беларусамі – з Янкам Брылём, Васілём Быкавым, Леанідам Прокшам – яно і праўда, і я як быццам яшчэ "сонечная"… І вось нікога ўжо няма. І нібы змерклі нябёсы!

Дзякуй за "Скарыніч". Мне вельмі цікавы і патрэбны ён.

У Мінску, як вядома, уладныя "энцыклапедысты" зруйнавалі Скарынаўскі Цэнтр на чале з такой славутай Асобай, як Адам Мальдзіс. Сапраўдны энцыклапедыст. Не "да твару" здаўся дзяржаўным "знаўцам" і праспект Францішка Скарыны… (можна штосьці падобнае ўявіць сабе з праспектам Шота Руставелі ці Тараса Шаўчэнкі? ). Але ж і вуліца Карла Маркса №38 з яе замко́м не зманіць людцаў-мінчан прагуляцца па ёй. А варта? А забарона: "Ходить запрещается!"

Яшчэ раз дзякую за "Скарыніч" – няхай сабе і маскоўскі.

Сакавік 2009 г. Мінск.

* * *

***Галіна Галіеўская***

Добры дзень, нашы любыя родныя і такія далёкія…

Прачытала "Песню Івана Моцарта" і нахлынулі ўспаміны сваёй маладосці, юнацтва, ды і навогул пражытага жыцця <…>

Хочацца крыху паразважаць наконт мовы. Гэта тэма вялікая і складаная.Вось я вучылася па беларускіх падручніках, тады на сельскія школы друкавалі такія, а ў райцэнтры Чэрвені, у той жа час, падручнікі былі на рускай мове. Алёша мой з першага класа вучыўся па рускіх падручніках. Праз два гады Міколка пайшоў у школу, і нас абрадавалі, што дзеці будуць вучыцца на беларускай мове. Падручнікаў жа не было, і настаўніца перакладала з рускага падручніка на беларускую мову. Праз год ізноў назад усё вярнулася, і калі я спытала на сходзе школьным, чаму так, — адказалі: "Приказ свыше". Многа бацькоў усхвалявалася, але нас ніхто слухаць і прыняць наша жаданне не захацеў. Канешне, гэта адбілася на вучобе, дзеці блыталіся з "і". Галоўнае, што тое, што закладзена з самага пачатку, застаецца з табою назаўсёды. А ўзяць вышэйшыя навучальныя ўстановы, школы, армію і г.д. – усё рускае. І не мы ў гэтым павінны, а чыноўнікі. Калі ж вы і вашы аднадумцы, у каго больш магчымасцей, не можаце зладзіць з гэтай сістэмай, то што можам мы змяніць? На ўвесь Чэрвень застаўся адзін Дарагуш верным "матчынай мове" і Беларусі, а астатнія "двулікія янусы" – белаРусісты. Мы ж засталіся такімі, якімі былі, памятаем, дзе жывём, зорак з неба не хапаем, не дадзена гэта нам. Бабская доля спрадвечная – нарадзіць

дзяцей, выгадаваць іх, мужа даглядзець, ублажыць, дамоўка на нашых плячах. На больш "высокае" часу не хапае, а калі хто ідзе па гэтай сцяжынцы, значыць мае надзейны тыл і падмогу родных, сяброў і г.д. Ды на такую дзейнасць патрэбны дар Божы, якім ён адорвае далёка не ўсіх <...>

На рэферэндуме аб змене сцяга і герба "Пагоня", які ў нас калісьці праводзіўся, я напісала:"Якая краіна мяняе дзяржаўны сцяг як пальчаткі!?". Я зрабіла заўвагі па кожнаму пункту, ну вельмі ўзрушыла мяне гэта падзея! І што?! Ды нічога, у газеце не надрукавалі, што ёсць нязгодныя з гэтым, а надрукавалі толькі, што рэферэндум прайшоў актыўна, гладка і г.д. Вось вынік майго "бунта".

Напісала ўспамінальна-спавядальна-развважальнае пісьмо. Можа і не трэба было. Але ж хочацца выказацца, вы прачытаеце. Даруйце, калі што не так, ну не пісьменніца я...

І любім мы вас не за тое, што вы робіце для нашай краіны (за гэта мы ганарымся вамі), а за тое, што вы наша кроў. Пагэтаму не крыўдуйце на нас, а прымайце такімі, якія мы ёсць, другімі мы ўжо не станем.

Абдымаю вас. Да пабачэння.

Галя і ўсе Галіеўскія.

* * *

***Уладзімір Конан***

Дарагі Аляксей Канстанцінавіч,

Днямі я сустрэўся з Нілам Гілевічам. Ён перадаў падрыхтаваную Табою цудоўную кнігу – выбраныя творы Івана Луцэвіча (Янка купала паводле асноўнага псеўданіму) "Молодая Беларусь", апублікаваную несмяротным выдавецтвам "Советский писатель" (М., 2008). Савецкі Саюз даўно памёр, але пакінуў добрую спадчыну – выдавецтва, якое моцна і прынцыпова адрозніваецца ад газеты "Советская Белоруссия" - спадчыны наменклатуры былой БССР.

У тэхнічным і мастацкім аспектах гэтая кніга дасканалая. Дзякую табе, што дагадаўся ўключыць ілюстрацыі, што сведчаць аб нашым Янку Купалу на этапах яго творчага і чалавечага росквіту. Добра, што няма замучанага бальшавіцкім фашызмам зломленага і хворага паэта з дурацкай папяросай, якая чамусьці "свеціцца" на вокладцы энцыклапедыі "Янка Купала".

Яшчэ варта пахваліць складальнікаў і каментатара за публікацыю (паралельную) рускамоўных перакладаў паэзіі нашага вялікага паэта і прарока, а поруч – арыгіналаў гэтых твораў. Трэба прызнацца, што былыя "савецкія" пераклады Купалавых шэдэўраў вельмі недакладныя, і часам нават сфальсіфікаваныя: выкінутыя "ударныя" фрагменты гэтых твораў. Лепш пераклалі нашыя беларускія "рускамоўныя" паэты, бо яны добра

ведалі не толькі рускую, але і беларускую мовы. Упэўнены, што Ты звярнуў увагу на павярхоўнасць некаторых перакладаў, скажэнне думак і паэтыкі арыгіналу.

Напрыклад, у вершы "Лясное возера" Гр.Курэнеў заключны радок верша "Недзе запелі Узвіжанне гусі" абязбожыў варыянтам "Где-то запели незримые гуси" (с.157). Савецкі пісьменнік А.Пракоф'еў сказіў "Маю малітву": замест Купалавага "Магутнаму Богу – Ўсясвету малюся" замяніў Бога "великой Вселенной" (с.92). У вершы "Прыстаў я жыць..." перакладчык выкінуў "душу" твору – таленавіты пратэст супраць расійскай калаанізацыі. Ты цудоўна зрабіў, што выдзеліў гэтыя радкі.

Адным словам, ты зрабіў усё, у чым "моц твая была...". Спадзяюся, з'явіцца новае пакаленне перакладчыкаў твораў Янкі Купалы.

Ёсць у мяне таксама прапанова да перавыдання гэтай кніжкі, бо 5 тыс. экземпляраў для Расіі – гэта капля ў моры. У кніжцы акцэнты перанесены на паэта-прарока, духоўнага лідэра нацыянальнага Адраджэння. Сёння якраз гэта самае актуальнае. Але варта было б больш рэльефна прэзентаваць паэта-лірыка, вершы пра любоў і каханне.

...

Персанажы віцебскага мастака М.Шагала лятаюць над віцебскімі драўлянымі хацінамі, а героі Янкі Купалы лятаюць да сонца і зорак. Як у фрагментах "Боскай камедыі" Дантэ.

Я спадзяваўся, што ты прыедзеш на юбілейную канферэнцыю, прысвечаную В.Дуніну-Марцінкевічу. У праграме твой даклад значыўся ў пленарнай частцы. Расходы на паездку аплачвала ЮНЭСКА.

Але я разумею, не заўсёды нам спадарожнічае здароўе. Вось і я часта хварэю ў апошні год. І зараз "здаровы" толькі на палову.

Прыедзеш у Мінск – тэлефануй. Я хочу прэзентаваць табе копіі апошняй публікацыі пра спадчыну Яна Луцэвіча.

Бывай здаровенькі. Прывітанне маскоўскім беларусам і беларусістам.

Уладзімір Конан. Мінск, 28.07.2008 г.

* * *

***Арсень Ліс***

Дарагі сябра Аляксей!

Дзякуй за мілы гасцінец. Сёмы нумар "Скарыніча" – актуальнае інтэоектуальнае чытанне для браткоў-беларусаў, і тутэйшых, і тых, хто даўно выйшаў з "тутэйшасці". Праект твой – паважаны і без сумневу застанецца ў гісторыі беларускай перыёдыкі, як засталіся "Крывіч",

"Полымя" 1920…90-х гадоў, "Узвышша", "Калосьсе" і мо яшчэ дзе што з перыёдыкаў. І ў гісторыі грамадскай думкі – таксама ад "Скарыніча" застанецца.

<…>

Цяпер што да апошняга нумара альманаха.

Пачаў я, выбачай, з матарыялу Б.Савінкава. Дык жа разумеў "белорусский вопрос", не блудзіў у ім як, не раўнуючы, сучасны патрыярх расійскай дэмакратыі г-н Салжаніцын. Але ж, бедны, < ... > даўся злавіць сябе на такую простую нажыўку. Шчыра спачуваю: колькі б яшчэ мог напісаць і раманаў, і мемуарыстыкі, што, напрыклад мне, старому, было б асабліва цікава.

Структура твайго выдання разумная, а з навуковага пункту гледжання – рацыянальная. Я неяк звык не чытаць папарадку. Заглянуў, паглядзеў, што там новае, у "архіў ды эпісталярый". Па-новаму глядзяцца матывы "узбуйнення" БССР і беларусізацыі. Ну, вядома, расправа з зямляцтвамі на фоне агульнага разбою, знішчэння інтэлігенцыі выглядае драбнейшай дзіччу, але там шкада людзей. Вось не ведаем сільвэткі Супінскага. Некалі сустракаў у інстытуцкім архіве яго допіс з поўначы часу пасляваеннага. Яшчэ жыў бедалага. Даследчыкам Дубоўкі вы гэтым разам добра дапамаглі. Нямала цікавых драбностак зацікаўлены чытач знойдзе і ў лістах.

Але я пачаў не папарадку. Адразу трэба было ацаніць канцэпцыю выдання. А яна ў мяне ў структуры згубілася.

Удала складзеныя, як і ў іншых нумарах, анкеты, усіх, праўда, не чытаў, на жаль.

Што ж да пытання анкеты, што значыла Масква ў жыцці асобных землякоў, то выдатнае бачанне ўсяго, перад усім нашых грамадска-палітычных рэалій і перспектыў, уразліва даў Віктар Чайчыц. Прозвішча ў яго старое. Успомнілася аўтабіяграфічнае мастака Фердынанда Рушчыца: продкі да XVII ст. мелі фамільнае найменне Рушчыч. У працэсе паланізацыі адбылася такая маленькая фанетычная трансляцыя.

Прыемна і балюча было ўбачыць публікацыю І.Ласкова. Відаць, бедачына, і загінуў ён праз сваю грамадзянскую пазіцыю. Вядома ж, не абмінуў я ўвагай генератара "Скарыніча", яго асноўнага аўтара. Успаміны пра св.п. Янку Брыля – лепшае, што давялося чытаць з згадак пра гэтага рабачая і волата беларускага духу. "Сумуючы над вечным" – важка, дакладна сказана.

Што да выступу "Идентичность белорусов: современное измерение", то больш скрупулёзнага даследвання па згаданай тэматыцы і канкрэтна пастаўленай тэме не было ў былых тутэйшых. <...>

Не чакаў нешта знайсці ў артыкуле «Из истории русского театра». А тым часам… Адным словам, "Беларус у маскоўскай прасторы" гэтым разам аказаўся не тым прастаком, якім ён бачыўся прафесару Абэцэдарскаму і ягоным сучасным паслядоўнікам.

Віншую, цісну руку. Трымаймася!

Арсень Ліс. 29.11.2008

P.S. Нечакана так ладна прарэзаўся аўтар "Сакавіцкай сагі". А ў тэксце без подпісу бачыцца нехта знаёмы...

* * *

**_Язэп Янушкевіч_**

Дарагі весялун, Аляксей Кастусёў Каўка,

Ціха-ціха кажу Вам, маркотна-маркотна... Бо аніяк не Калядна й непераднавагодна на маёй душы...

Я пракраўся-перабраўся сюды, у слынны пакоік №205, ды пішу за сталом вялікім, колісь нашым. Дзе мы пачасту сядзелі зь ІМ разам, з незабыўным для мяне Г[енадзем] К[ісялёвым]. Цяпер тут нікога няма. Нібы распачалі рамонт. Але і сьлядоў адновы няма. Пакуль што толькі, як слушна ЁН пісаў у лісьце да Вас – *"сабе ва ўзнагароду боракраты адхапілі нашы памяшканьні"*. Гэта так... і не так. Практычна, паралізаваўшы Інстытут Літаратуры – замахнуліся на будучыню літаратуразнаўства.

Не, дарагі й незабыўны Кротус Генус! Не, масквічыку Аляксей! Яна адхапілі не проста нашыя акадэмічныя пакоі, яны адабралі нашыя душы! Колькі тут прагаворана, навукова ці летуценна, похапкам ці гаманліва – але заўсёды зь ІМ – шчыра! І на паховінах стылых, стоячы на Кальварыйскай лістападаўскай зямлі, і нядаўна на сарачынах перадкалядных у ягонай кватэры – казаў і паўтаруся: я не змог бы ўжо працаваць у гэтым акадэмічным, коласаўскім кабінеце №205 – безь ЯГО.

Вусьцішна, маркотна, гола. Банальна паўтараць, але не верыцца, што ён больш не зойдзе з бадзёрым "Го! Каго бачу! Прывітаньне!.."

А што ўжо казаць пра бядовых сямейнікаў?! Як ім цяпер у той кватэры, дзе ўсё было хай сабе не на ім, вечна зануранім й засяроджаным над паперамі-кнігамі, але – зь ІМ.

А што ўжо казаць пра нас, хто быў ці не быў на паховінах. Ці мы з Вамі над магілай, ці зямляк Рагойша з тактоўным Уладзям Дзянісавым, што не ведалі, а таму й не прыйшлі на разьвітальны панядзелак 17 лістапада – усе мы, паверце, да канца не асэнсавалі: КАГО МЫ СТРАЦІЛІ.

Мне зажадалася таму разьбіць маўчаньне, дакладней, наладзіць між намі ліставаньне, што прачытаў ліст ЯГОНЫ сакавіцкі да Вас у апошнім "Скарынічы". Сьпяшаю прызнацца ВАМ – робіце Вы там, па-над Масквой-ракой, сваім "Скарынічам" тое, чаго тут й акадэмічныя аддзелы ці новаўтвораныя сектары не здольныя рабіць.

Вось і ўсё. *"Словаў й клятваў не трэба лішніх..."* Шлях наш да праўды і скрышэньня каменьняў няведаньня, паназвожаных-панакіданых-пананесеных на загоны нашыя – навек абраны. Ім не запраторыць мінулага нашага ў нябыт. Хутчэй, чым "маёнткі, пушчы й палацы" нашыя – мы адновім, мы вернем нашае мінулае. Гераічнае – а таму велічнае й несьмяротнаае.

Яны кажуць, што са зьбіцьцём ля кватэрнага пад'езду Ул.Мархеля, са сьмерцю Кротуса Генуса, з маім звальненьнем прымусовым (спыненьне кантракту) – прыпыніцца раскрыцьцё пазамінулага стагоддзя? Не! Як няблага рэкнулі мне сёння ў нейкім міністэрскім кабінеце – "Талент беспрацоўным не бывае".

Таму, не зважаючы, што ўжо больш за паўгады мне не прапануюць працы нідзе і нікуды (шчыра! Ніхто не сказаў: Язэп, вяртайся да нас у Інстытут; ці ідзі ва ўніверсітэт; ці нейкае там выдавецтва-рэдакцыю) – я не скаруся перад сарамлівым "бамжоўствам". Абы толькі мне не заміналі і, як мінімум, — у бібліятэкі-архівы пускалі. А ўжо адтуль я выцягну сучасьнікам чарговую сенсацыю. Кшталту – "Былі ў Вінцэнта два зяці і абодва Васілі..."

Ну, не літаратурна, а вобразна. Прабіваецца ў мяне цяпер акурат рэч адна – невераемная! Што класік наш з Люцінкі меў двух зяцёў з аднолькавым імём ды ...прозьвішчамі!

Ды тут ужо без паўлітэркі не разбюярэшся. А пакольні Вы далёка – дык і спынім пакуль гэты ліст. І так лічу астатковым, што, калі "не пяцідзесяцігадовую маўчанку лістоўную між намі", дык некалькі гадовую – я дакладна разьбіў.

Сардэчна – Язэп, сын Язэпа Янушкевіча.

P.S. Пра "гістарычна-хамскі" адказ адносна аўтобуса на паховіны – Я Вам што? Аўтабаза!? – іншым разам.

[01.09.2009]

* * *

### *Уладзімір Дамашэвіч*

Дарагі калега!

Шкада, што мы так рэдка бачымся і сустракаемся, бо тое, што можна сказаць чалавеку сам-насам, ці нават у невялікай кампаніі, не выкажаш і дзесятай долі ў доўгім лісце, тым больш, калі паступова лісты (не ведаю, як у Вас) робіцца цяжка пісаць. Я вось якраз хаджу каля нашай паштовай скрынкі (скрыні – цяпер некаторыя кажуць і нават пішуць) і кожны раз прамільгне думка: а колькі лістоў ты даеш у гэтую скрынку за месяц ці за

год? І атрымліваецца, што вельмі мала, што пошта на мне мала зарабляе. А раней я пісаў даволі шмат, і не толькі віншаванняў пад Новы год. А цяпер адрасатаў робіцца ўсё менш і менш – на вялікі жаль. Вось ужо больш як паўгода пайшоў на неба мой найлепшы сябра Алег Лойка, з якім нас яднала яшчэ студэнцкая дружба. Мы разам у 1948 годзе паступалі ў БДУ, жылі разам у інтэрнатах, пасля сябравалі сем'ямі, я нават быў рэдактарам дзвюх яго кніжак яшчэ на пачатку яго літаратурнай творчасці. А колькі разам перагаворана-перадумана! Ды цяпер вось яго няма…

Мо і дарэмна я Вам пра гэта распавёў, але мяне вельмі моцна турбуе лёс Алегавага літаратурнага музея, і я нават збіраюся паехаць у Слонім, схадзіць да раённага начальства, каб неяк паўплываць на сітуацыю, каб музей быў хутчэй арганізаваны і каб ім кіравала менавіта Алегава былая гаспадыня Раіса Дзідкоўская.

Яшчэ што? Старэйшыя нашы пісьменнікі (Брыль, Шамякін і інш.) паволі адышлі ў лепшы свет, засталося зусім мала. Вось Петрашкевіч Алесь, наш знакаміты драматург, надта хворы, перанёс інсульт, нешта падобнае было з Генадзем Бураўкіным, з Нілам Гілевічам.

Вельмі-вельмі трывожная ў нас сітуацыя ў гэтым плане. Да таго ж, наш Саюз [беларускіх пісьменнікаў] зусім апынуўся ў падвешаным стане, няма ў яго ні свае сядзібы, ні якога-небудзь адміністрацыйнага статусу. Хоць колькасна мы з кожным годам расцём, у нас нашмат больш сяброў, чым у новага, Чаргінцовага саюза. Аднак жа яны занялі наш Дом літаратара, выдавецтвы, робяць сваю пагоду. Хоць часопісы – афіцыйныя – не пустыя, часам ёсць, што пачытаць, выплываюць новыя імёны. Праўда, новыя выданні, як "Дзеяслоў" і "Архэ" пераважваюць па цікавасці афіцыйныя, але можа гэтае спаборніцтва пойдзе на карысць нашай літаратуры. Аднак жа: колькі так можа працягвацца і да чаго давядзе? Цяжка нават сказаць…

Цяпер я сяджу на сваіх нататках, якіх яшчэ зусім не надрукаваў (у "Маладосці" за паўгады — 1987), а іх у мяне шмат, я нават пішу іх і цяпер.

Чытаў рэкламу пра Ваш "Скарыніч", але яшчэ не набыў, а змест, здаецца, цікавы.

Агульны душэўна-духоўна стан мой даволі складаны, больш чорны, чым светлы, надзеі на нейкае прасвятленне зусім мала, песімізм часта бярэ верх над здаровым аптымізмам. Але мо гэта часова? Няўжо мы не выйдзем, урэшце, на добрую дарогу?

Дарагі сябра! Ці былі Вы на 5-м з'ездзе беларусаў свету? Мне здаецца, што Вы павінны былі быць, аднак жа ніякага сігналу ад Вас я не меў. Мо Вы думалі, што там буду і я, але мяне не запрасілі, а сам я не захацеў ісці. Ужо неяк цяжка перамяшчаць старыя косці, хоць і цікава было б паслухаць, што разумныя людзі кажуць, што думаюць пра наша беднае жыццё. Хоць мо не такое яно і беднае, як нам часам здаецца.

Дарагі дружа, абдымаю Вас моцна і цісну Вашу працавітую руку, якая не мае спакою, і гэта вельмі добра. Хай Вам Бог дае сілы ў Вашай асветніцкай працы!

Ваш Ул.Дамашэвіч, 21.08.2009 г.

* * *

### *Янка Саламевіч*

Братка Аляксей!

Дзякую табе за ліст, за тэкст ліста Г.Леўчыка да А.Луцкевіча. Чытаю 7-ы выпуск "Скарыніча", у ім знаходжу нешта новае для сябе.

Звярнуў увагу на артыкул Гэб.Палісандэра (І.Луцкевіча). Успомніў, што Зора і Вітаўт Кіпелі ў сваёй бібліяграфіі "Беларускі друк на Захадзе" (Нью-Ёрк — Варшава, 2006, с.27) нечаму гэты артыкул, хоць з пытальнікам, зноў прыпісваюць Антону Луцкевічу. Добра, што далі ў 7-м выпуску адлуп Івана Ласкова Салжаніцыну [...], які хацеў даказаць, што нас няма, што беларусы, як кажа дасюль наш Лукашэнка, гэта рускія. Думаю, што гэты артыкул самы моцны ў 7-м выпуску.

[...] Хачу прапанаваць "Скарынічу" фрагменты з маёй перапіскі пра псеўданімы. Ажно на нумары 9 і 10. Вялікі матэрыял, але чытач даведаецца, адкуль паходзяць многія выдуманыя прозвішчы: ад дзявочага прозвішча маці, прозвішчаў дзеда, бацькі, цесця, мясцовай рэчкі, лесу, горкі і інш. Ці дасылаць?

[...] 1 снежня на філфаку БДУ былі Кісялёўскія і Лойкаўскія чытанні. Выступалі В.Чамярыцкі, Л.Сянькова, А.Бразгуноў, я. У мяне ёсць матэрыял пра У.Дубоўку з Брусаўскага інстытуту. Ён быў вельмі рады, што я знайшоў дакумент, дзе гаварылася, што Дубоўка будзе ўзначальваць кабінет паэтыкі. Так вырашыў сам В.Брусаў. Ці рыхтаваць для "Скарыніча"?..

Янка Саламевіч.

P.S. "Маладосць" распачынае рубрыку "Займальнае мовазнаўства". Мне прапануюць весці. Ці спраўлюся? А даваць ёсць што: адкуль паходзяць назвы беларускіх гарадоў, як правільна пісаць па-беларуску, хто прыдумаў словы, якім цяпер усе карыстаюцца, фразеалагізмы як адметныя ўласцівасці мовы, памылкі на радыё і тэлебачанні, націскі і многае іншае.

[снежань 2009]

* * *

*Мікола Сангіеўскі*

## Рака Геракліта

Восень сыплецца весткамі –
Жоўты ліст на плячы,
А рацэ Геракліта -
не стамляцца, цячы.
Не ступіць табе двойчы
Святлынёю тугі,
Дачакаемся іншае
восеньскае смугі.
У чаканні адчуцьмем да болю ня раз,
Што, нажаль, на зыходзе
твой дзень і твой час.
Каб жыццё перайначыць, ды лёс не пыні,
Хоць прыдбалася мала
табой дабрыні.
Спамінаць, рахавацьме –
Сэрца сум апячэ –
А рака Геракліта
скрозь цячэ і цячэ…

*Пераклад з украінскае К.Атрашэўскага*

Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага



Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага




Іван Насовіч, аўтар першага Слоўніка беларускай мовы



Ўзьвійся, бел-чырвона-белы…
Адкрыццё Пасольства Рэспублікі Беларусь у Германіі, Бон, 4 сакавіка 1994 г.
Справа-налева: міністр замежных спраў Пётра Краўчанка і пані Галіна Краўчанка, пасол Беларусі ў Германіі Пётра Садоўскі і пані Валянціна Садоўская, пані Хілтруд Шродэр, жонка прэм'ер-міністра зямлі Ніжняя Саксонія, ля флагштока – радца пасольства Віктар Чайчыц.



"Нашы дзяўчыначкі…" Маскоўскі беларускі фальклорны гурт "Кірмаш".
Кіраўнік Ірына Капчынская (з Губарэвічаў). 2010 г.






Дзіадор Дзябольскі – гімназійны сябра Максіма Багдановіча.
*З асабістага архіва Н.С.Дзябольскай.*





Творчыя браты: Пётра Алейнікаў, Барыс Андрэеў



Аляксандр Твардоўскі, Пятрусь Броўка (з фондаў музея П.Броўкі)



Тады былі мы маладымі... Іван Бурсаў, Рыгор Барадулін, Еўдакія Лось. Гомель. 1961 г. *З асабістага архіва І.Бурсава*



На паэтычнай паверцы: Уладзімір Сакалоў (Масква), Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч. Мінск, 1978 г. *З асабістага архіва А.Вярцінскага.*



Пётра Машэраў. *Фота М.Амельчанкі.*




“А хто там ідзе..?” Беларусы. XXI стагоддзе

**СКАРЫНІЧ**
*Литературно-научный ежегодник*
*Выпуск 8–9*

Обложка *Т. Вышловой*

Шчырая падзяка фундатарам і спрыяльнікам выдання: Зосі Астроўскай, Міхаілу Быкаву, Ганне Багулінай, Ганне Запартыцы, Алесю Калядзе, Алесю Чайчыцу.

На лицевой стороне обложки:
Памятный знак Ф.Скорине на здании Вильнюсского университета.

ISBN 978-5-265-06415-8




Издательство «Советский писатель»
123995, Москва, Поварская 11, стр.1

Подписано в печать 25.02.2010 г. Формат 60×90 $^1/_{16}$
Печ. л 18,375. Тираж 400 экз. Заказ № 132

Отпечатано в типографии ООО «Оптим Принт»
125413, г.Москва, ул. Флотская д.15, корп.2